• выдаецца са жніўня 1917 г. БЕЛАРУСКАЯ ГАЗЕТА • цана 1000 рублёў

2 ліпеня 1996 г. аўторак, №№ 166 — 167 (22969 — 22970)

# ЗВЯЗДА











**Яўген ПЯСЕЦКІ**

## ФОТАСЛОВА

* * *

*Я схілюся да тых руінаў,*
*Не астылых, яшчэ жывых —*
*Хай заступяць яны Радзіму*
*І над вежамі зноў уздымуць*
*Маіх продкаў святыя сцягі.*

*Я схілюся ўцепліць дыханнем*
*Той дубок, што прарос з мурой, —*
*Ён з карэнняў сівых паданняў,*
*Ён з глыбінь, дзе цячэ між каменняў*
*Маіх прашчураў вольная кроў.*

*Я схілюся ўслухацца ў песню,*
*Што вякамі гучыць з глыбі —*
*Песняроў тых халуй не збэсціў,*
*Пан дукатамі не ўчэсціў,*
*Іншаверцы не перамаглі.*

* * *

*У цябе, кажане, чорнае крыло —*
*У мяне, васпане, хуткае вясло,*
*Сярод ночкі цёмнае ўцячэм туды,*
*Дзе абшары вольныя і няма нуды,*
*Дзе у шчасце верыцца...*
*Але ўстане дзень —*
*Ты назад павернешся —*
*ратавацца ў цень,*
*Каб не асляпіцца, крылы не спаліць —*
*Уначы нарадзіўся — ўначы мусіш жыць.*
*Мне ж даў выбар Божа ў літасці бясконцай:*
*Ці згібець у цемры, ці згарэць ля сонца.*
.............................................................
*Крылы мае — вёслы, сцёрты ў кроў далоні,*
*Чую, б'юць у росах капыты пагоні.*

* * *

*Маё слова не згіне ў бездань —*
*Яно кропляй пральецца ў студню,*
*Дзе з усіх навальніц беларускіх*
*Сабіраецца светлая плынь,*
*Маё слова не з высі нябеснай —*
*Я узяў яго там, дзе людзі*
*У нянавісці і любові*
*Ад знямення яго зберaглі.*
*Маё слова каханая ўчуе*
*У ціхім шэпце травы нарачанскай,*
*Маё слова спазнае вораг*
*Калі гоніць пагоню кроў,*
*Маё слова — не захлынецца —*
*Адзавецца,*
*Калі скалыхнецца*
*Перад бураю гронка бэзу*
*На расстанях старых шляхоў.*



**29 чэрвеня Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь Аляксандр Лукашэнка правёў рабочую нараду па эканамічных пытаннях.**

## РАСПАРАДЖЭННЕ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 195РП

### АБ СТВАРЭННІ КАМІСІІ ДЛЯ АЖЫЦЦЯЎЛЕННЯ КАНТРОЛЮ ЗА РАБОТАЙ ПРЫЁМНЫХ КАМІСІЙ І ПРАВЯДЗЕННЕМ УСТУПНЫХ ЭКЗАМЕНАЎ

У мэтах забеспячэння роўных магчымасцей абітурыентам пры паступленні ў дзяржаўныя вышэйшыя навучальныя ўстановы Службе кантролю Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь сумесна з Міністэрствам адукацыі стварыць камісію для ажыццяўлення кантролю за работай прыёмных камісій і правядзеннем уступных экзаменаў у дзяржаўных вышэйшых навучальных установах у 1996 годзе, надзяліўшы яе адпаведнымі паўнамоцтвамі, у тым ліку правам прыцягваць да сваёй работы ў неабходных выпадках праваахоўныя органы.

Камісіі па выяўленых фактах парушэнняў правілаў прыёму ў вышэйшыя навучальныя ўстановы прымаць прадугледжаныя заканадаўствам меры.

Арганізаваць у сродках масавай інфармацыі асвятленне работы камісіі.

Справаздачу аб рабоце камісіі прадставіць Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь** **А. ЛУКАШЭНКА.**

28 чэрвеня 1996 г.
г. Мінск.

## ПРЭЗІДЭНТУ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ ЛУКАШЭНКУ А. Р.

Як сведчаць апошнія падзеі, «Народная газета» і яе калектыў становяцца заложнікамі палітычнай барацьбы самых розных фракцый і груповак. У такой сітуацыі працаваць вельмі цяжка і часам немагчыма. Барацьба ідзе не столькі за рэдактарскае крэсла, колькі за магчымасць уплыву на грамадска-палітычную сітуацыю ў рэспубліцы. Мы ж хочам стабільнасці, спакою і парадку, сумленнай работы на грамадства і дзяржаву.

Калектыў «Народнай газеты» шмат зрабіў для таго, каб стаць самым масавым і аўтарытэтным выданнем краіны. Тым не менш Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь вось ужо шосты год не знаходзіць магчымасці нават для таго, каб зацвердзіць Статут газеты. Мы да гэтага часу карыстаемся Статутам часовым.

Калектыў «Народнай газеты» неаднаразова звяртаўся ў вышэйстаячыя інстанцыі з просьбай аб рэарганізацыі. Сёння мы яшчэ раз пацвярджаем сваё імкненне да гэтага. Самым аптымальным варыянтам, на наш погляд, з'яўляецца акцыяніраванне з доляй дзяржаўнага ўдзелу (кантрольным пакетам акцый) — 51 працэнт, калектыву — 49 працэнтаў.

Просім разгледзець нашу просьбу.

**Калектыў «Народнай газеты».**

*Прынята на агульным сходзе працоўнага калектыву аднагалосна 28 чэрвеня 1996 года.*

## УКАЗ ПРЭЗІДЭНТА РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ № 233

### АБ РЭАРГАНІЗАЦЫІ РЭДАКЦЫІ ГАЗЕТЫ «НАРОДНАЯ ГАЗЕТА»

У мэтах забеспячэння права грамадзян на атрыманне і распаўсюджванне поўнай, дакладнай і своечасовай інфармацыі, а таксама ўлічваючы неаднаразовыя звароты працоўнага калектыву рэдакцыі газеты «Народная газета» і кіруючыся часткай трэцяй артыкула 33, артыкулам 34 і пунктам 1 артыкула 100 Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь, **пастанаўляю:**

1. Рэарганізаваць рэдакцыю газеты «Народная газета» (далей — рэдакцыя) шляхам ператварэння яе ў закрытае акцыянернае таварыства «Народная газета» (далей — ЗАТ «Народная газета»), прадугледзеўшы пры гэтым, што:

кантрольны пакет акцый ЗАТ «Народная газета» (70 працэнтаў) знаходзіцца ва ўласнасці Рэспублікі Беларусь, а 30 працэнтаў акцый перадаецца ва ўласнасць членаў працоўнага калектыву рэдакцыі ў парадку, устаноўленым заканадаўствам;

акцыі ЗАТ «Народная газета», што знаходзяцца ва ўласнасці Рэспублікі Беларусь, могуць быць адчужаны толькі са згоды Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь;

ЗАТ «Народная газета» ажыццяўляе выпуск масавага нацыянальнага грамадска-палітычнага і парламенцкага перыядычнага выдання Рэспублікі Беларусь.

2. Міністэрству па кіраванню дзяржаўнай маёмасцю і прыватызацыі, Дзяржаўнаму камітэту па друку і галоўнаму рэдактару газеты «Народная газета» да 1 лістапада 1996 г. ажыццявіць ва ўстаноўленым заканадаўствам парадку рэарганізацыю рэдакцыі ў адпаведнасці з гэтым Указам.

3. Гэты Указ уводзіцца ў дзеянне з дня яго падпісання.

**Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь** **А. ЛУКАШЭНКА.**

28 чэрвеня 1996 г., г. Мінск.

## АДНЫМ СКАЗАМ

■ У цэлым па рэспубліцы **аб'ём неліквіднай прадукцыі** ўжо перавышае месячны аб'ём вытворчасці і рэалізацыі.

■ Летась **за злачынствы**, звязаныя з наркотыкамі, **асуджаны 884 чалавекі**.

■ Беларускі ўрад вядзе перамовы з урадам Расіі аб узгодненых дзеяннях па абароне ўнутранага рынку Супольнасці **ад імпарту тавараў доўгага карыстання**.

■ Першы на Брэстчыне праваслаўны **мужчынскі манастыр** збіраецца заснаваць духоўная брація ў вёсцы Аркадзія, якая размешчана побач з рысай абласнога цэнтра.

■ Амаль на 10 працэнтаў больш у параўнальных цэнах прададзена **прадуктаў харчавання** ў рэспубліцы за студзень—май бягучага года ў адпаведнасці з аналагічным леташнім перыядам.

■ Фестывальны Віцебск захліснула хваляй **фальшывых білетаў** на самыя прэстыжныя канцэрты вядомых эстрадных выканаўцаў.

■ На сённяшні дзень Беларусь мае добра развітую прамысловасць будаўнічых матэрыялаў — **92 прадпрыемствы вырабляюць іх больш за 130 відаў.**

■ Наша рэспубліка **абавязалася выпускаць машыны** ў адпаведнасці з правіламі Еўрапейскай эканамічнай камісіі ААН, а гэта значыць, што прадукцыя павінна будзе адпавядаць сусветным стандартам.

■ З пачатку года банкаўскай сістэмай краіны праведзена актыўных банкаўскіх аперацый **на суму больш чым 55 трыльёнаў рублёў, 21 працэнт** ад гэтай сумы складаюць доўгатэрміновыя інвестыцыйныя крэдыты.

■ У Пінску плануецца наладзіць **выпуск чэшскага піва**, якое будзе вырабляцца на мясцовым кансервавым заводзе па чэшскай тэхналогіі і з удзелам польскай фірмы.

■ У першым квартале Беларусь мела найбольш адмоўнае сальда гандлю **з Германіяй** (-87,4 млн. долараў), **ЗША** (-32,1 млн. долараў), **Нідэрландамі** (-28,8 млн. долараў), **Бельгіяй** (-23,7 млн. долараў), **Вялікабрытаніяй** (-22,1 млн. долараў).

■ Сёння ў кожным са 152 філіялаў ААБ «Беларусбанк» **за чэкі «Маёмасць»** можна набыць акцыі да 40 розных акцыянерных таварыстваў.

■ **Адна пятая чалавецтва** жыве на **адзін** долар у дзень.

# НАРОДУ СЛУЖЫЦЬ І НАРОДНЫМ СТАЎ

**Ва ўшанаванне ўсёй сям'і Яроменкаў выліўся юбілейны вечар народнага артыста СССР, лаўрэата Дзяржаўнай прэміі Беларусі акцёра тэатра і кіно Мікалая Мікалаевіча Яроменкі. У Нацыянальны акадэмічны тэатр імя Янкі Купалы, у якім юбіляр праслужыў не адзін дзесятак гадоў, 28 чэрвеня павіншаваць яго прыйшлі кіраўнікі нашай дзяржавы, парламентарыі, міністры, прадстаўнікі прафсаюзаў, увесь культурны бамонд сталіцы. Прыехалі госці з Масквы і многіх куткоў рэспублікі.**



Вітаючы Мікалая Яроменку з 70-годдзем, Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка адзначыў не толькі яго заслугі перад тэатральным і кінамастацтвам, а артысту прыйшлося сыграць больш чым сто роляў на сцэне і 60 — перад кінакамерай, але і немалую працу на грамадскай ніве. Менавіта намаганнямі М. Яроменкі ў рэспубліцы створана Канфедэрацыя творчых саюзаў і культурных фондаў Беларусі, якую гэты нястомны чалавек і ўзначаліў. А яшчэ ён стаў старшынёй Савета спецыяльнага фонду Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь па падтрымцы таленавітай моладзі. Тройчы народнай назваў Аляксандр Лукашэнка сям'ю Яроменкаў, адзначыўшы заслугі жонкі — народнай артысткі рэспублікі Галіны Арловай, і сына — народнага артыста Расіі Мікалая Яроменкі. Прэзідэнт уручыў юбіляру медаль Францыска Скарыны.

Грамадзянскую мужнасць і стойкасць Мікалая Яроменкі ў адстойванні праўды, яго намаганні па аб'яднанню культуры славянскіх народаў адзначыў у сваім прывітальным слове спікер беларускага парламента Сямён Шарэцкі. Прывітанне расійскай Дзярждумы зачытаў намеснік яе старшыні Сяргей Бабурын. Прывітальную тэлеграму з Масквы прыслала народная артыстка СССР Тамара Макарава — з ёй і яе мужам Сяргеем Герасімавым працаваў Яроменка над вядомым фільмам «Людзі і звяры», які прынёс яму славу, у майстэрні Герасімава вучыўся Яроменка-малодшы.

Цесна было ад кветак і падарункаў на вялікай сцэне галоўнага тэатра рэспублікі, што стала на адзін вечар утульным домам сям'і, якая радавалася мноству гасцей і была шчаслівая расказаць аб сваёй гісторыі, непарыўна звязанай з гісторыяй краіны. Але любячыя вочы нестарэючай жонкі і адданыя сына былі галоўным падарункам артысту ў гэты дзень. «Ты шчаслівы чалавек, Мікола! Ты шчаслівы тым, што заўсёды быў патрэбны людзям». Гэтыя словы Галіна Арлова напісала ў кнізе «Тры я», створанай разам са старшынёй Беларускага саюза журналістаў Леанідам Екелем. Першымі чытачамі гэтага выдання сталі госці творчага юбілейнага вечара. Сын жа падарыў бацьку касету з іх сумесным фільмам «Сын за бацьку» і назваў галоўную рысу Яроменкі-старэйшага: вернасць — перакананням, маці і нават рыбалцы. У інтэрв'ю напярэдадні вечара Яроменка-сын адзначыў, што салідарны з бацькам, які выступае за аб'яднанне культурнай прасторы славян. Паводле яго слоў, менавіта культура пракладвае дарогу палітыкам.

Мастакі, акцёры, пісьменнікі, архітэктары, сябры-рыбакі, паплечнікі па беларускаму клубу футбольных балельшчыкаў, які шмат гадоў узначальвае Яроменка, старшыня калгаса, дзе ён некалі выступаў, ваенныя і грамадзянскія паклоннікі яго творчасці і нават «дэсант» Цэнтральнага акадэмічнага тэатра Расійскай Арміі, які гастралюе цяпер у Мінску, — усе спяшаліся сказаць цёплыя словы «маршалу мастацтва» і «генералу чалавечнасці», які ўсім сваім жыццём паказвае, як трэба служыць народу. А таму і называецца народным артыстам.

**Лідзія ПЕРАСЫПКІНА, БЕЛТА.**

## «А СУДДЗІ ХТО?..»

**Ад каго, як не ад суддзяў часта залежыць далейшы лёс людзей, якім «пашчасціла» па рознага роду прычынах аказацца на лаве падсудных. Хто, як не яны, павінны добра ведаць, да чаго часам можа прывесці чалавечая «слабасць», за якую потым можна расплачвацца ўсё жыццё. Аднак, як сведчыць практыка, нягледзячы на добрае веданне законаў і адказнасці за іх парушэнне, некаторыя служыцелі Феміды пераступаюць за мяжу, якая раздзяляе законапаслухмяных грамадзян і злачынцаў. Злачынцамі «па няведанню» такіх людзей наўрад ці можна назваць.**

Не ведаем, якімі прынцыпамі кіраваліся суддзі народнага суда Аршанскага раёна Віцебскай вобласці Віктар Бярговін і народнага суда Мсціслаўскага раёна Магілёўскай вобласці Людміла Грыгор'ева, калі прымалі рашэнні, якія і перакрэслілі іх кар'еру. Як стала вядома рэдакцыі, Прэзідэнт краіны Аляксандр Лукашэнка даў сваю згоду на прыцягненне іх да крымінальнай адказнасці і прыпыненне судовых паўнамоцтваў.

Нам удалося высветліць, што суддзя народнага суда Аршанскага раёна абвінавачваецца ў атрыманні хабару — па сённяшнім дні справа, якая па свайму размаху набыла ў грамадстве палохаючыя памеры. Адзін пасрэднік, які, дарэчы, перадаваў грошы ў якасці хабару гэтаму суддзі, затрыманы і зараз утрымліваецца ў турме.

У другім выпадку, па нашай інфармацыі, размова ідзе аб халатнасці суддзі. Сутнасць яе заключаецца ў наступным: па рашэнню суда вялікая сума грошай за канфіскаваны тавар паступіла не ў даход дзяржавы, а трапіла ў рукі нявызначаных асоб.

Цяпер, калі атрымана згода Прэзідэнта на прыцягненне гэтых суддзяў да крымінальнай адказнасці, адпаведныя органы ўшчыльную зоймуцца следствам па дзвюх гэтых справах.

**Ігар ШЧУЧЭНКА.**

## Беларусаў хутка можна будзе заносіць у «Чырвоную кнігу», калі дэмаграфічнае становішча не зменіцца

**Як сведчыць статыстыка, пачынаючы з 1985 года ў рэспубліцы пачалося перавышэнне смяротнасці над нараджальнасцю — асабліва інтэнсіўна ў 90-я гады. Калі ў 1993 годзе нарадзілася на 11 тысяч чалавек менш, чым памерла, а ў 1994-м — на 19 тысяч, то ў 1995-м — на 32 тысячы. Што датычыцца бягучага года, то за першыя чатыры месяцы гэта лічба склала ўжо 18.410 чалавек. Наогул, з 10,3 мільёна жыхароў Беларусі на пачатак 1996 года жанчын было 5 мільёнаў 490 тысяч.**

Прычынамі зніжэння нараджальнасці, напэўна, з'яўляюцца асаблівасці ўзроставай структуры насельніцтва, сацыяльна-эканамічнае становішча ў рэспубліцы, эканамічныя наступствы катастрофы на ЧАЭС. Да таго ж кожнаму шостаму жыхару нашай краіны больш за 60 гадоў, а, дарэчы, на вёсцы пражывае кожны трэці жыхар такога ўзросту.

**Дзмітрый КАСТЭНКА.**

## ПАЧАТАК БУДАЎНІЦТВА ГАЗАПРАВОДА ПЛАНУЕЦЦА Ў ВЕРАСНІ

**У першай палове ліпеня павінна адбыцца падпісанне кантрактаў паміж удзельнікамі будаўніцтва газаправода Ямал — Еўропа, які будзе праходзіць і па тэрыторыі Беларусі.**

Для рэалізацыі гэтага праекта будзе створана сумеснае прадпрыемства паміж нямецкім, расійскім і беларускім бакамі «Еўрагазбуд». Як паведаміў генеральны дырэктар адкрытага акцыянернага таварыства «Белтрубаправодбуд» Аляксандр Данец, будаўніцтва газаправода, магчыма, пачнецца ў верасні бягучага года — менавіта на гэты тэрмін намечана ажыццявіць пастаўку труб. Паставіць трубы нямецкая фірма «Манэсман», будаўнічыя работы на тэрыторыі нашай рэспублікі будзе выконваць прадпрыемства «Белтрубаправодбуд», якое выйграла тэндэр, што праходзіў у канцы 1995 года. Акрамя беларускіх працоўных у будаўніцтве газаправода, які працягнецца па тэрыторыі рэспублікі на 570 кіламетраў, прымуць удзел спецыялісты нямецкіх фірм «Зюдрабаў» і «Фаб». З'яўленне газаправода на тэрыторыі Беларусі дасць дадатковыя працоўныя месцы і дывідэнды дзяржаве за транзіт газу.

**Жанна КАТЛЯРОВА.**

## З КРАІНЫ ВЕДАЎ У ЖЫЦЦЁ РОБЯЦЬ ПЕРШЫ КРОК ВЫПУСКНІКІ ШКОЛ БЕЛАРУСІ

**Звыш двухсот тысяч юнакоў і дзяўчат з апошнім школьным званком зрабілі або зробяць днямі свой першы крок у дарослае жыццё. Які ён — выпуск сёлетняга года? З просьбай расказаць аб «колькасным» і «якасным» паказчыках гэтай падзеі карэспандэнт «Звязды» звярнуўся да начальніка галоўнага ўпраўлення агульнай сярэдняй адукацыі Міністэрства адукацыі і навукі Мікалая Фісько.**

Па словах Мікалая Сцяпанавіча, сёлета 9 клас закончылі больш як 140 тысяч чалавек, 11 клас — каля 73 тысяч. Веды яны атрымлівалі ў 4808 школах краіны (у якіх, дарэчы, зараз вучыцца 1,5 млн. чалавек). Толькі ў сярэдніх школах сёлета атрымлівалі адукацыю 1037 тысяч юнакоў і дзяўчат. Што датычыцца асобна горада і вёскі, то з сумам можна сцвярджаць, што апошняя старэе — больш як 73 працэнты ўсёй моладзі вучыцца зараз у горадзе... Адказваючы на пытанне, якія яны, цяперашнія выпускнікі, М. Фісько адзначыў найперш іх большую прагматычнасць у параўнанні з колішнімі аднагодкамі. Зрэшты, гэтую якасць моладзі зараз трэба ўспрымаць хутчэй як станоўчую — маладыя лепш адаптуюцца да абставінаў і патрабаванняў часу. Прыкладам гэтага могуць стаць і адносіны да адукацыі: яе прэстыж узняўся ў вачах школьнікаў. На сённяшні дзень у Беларусі налічваецца 59 гімназій, 23 ліцэі, 2 каледжы, у якіх вучыцца звыш 70 тысяч чалавек. Вялікія конкурсы ў гэтыя навучальныя ўстановы сведчаць аб тым, што юнакі і дзяўчаты ідуць туды сапраўды вучыцца, а не проста атрымліваць атэстат. Поспехаў у жыцці табе, выпускнік-96!

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

*ПАДРАБЯЗНАСЦІ*

## ПРАДПРЫЕМСТВЫ ЗАНЯТЫ ПОШУКАМІ «ЖЫВЫХ» ГРОШАЙ

**На «БелВАРы» грошы працоўным пачалі выплачваць толькі за красавік. Наконт майскіх грошай нават гаворкі не вялося. Ды і то, каб атрымаць сродкі на красавіцкі заробак, спатрэбілася спецыяльная пастанова ўрада, без якой «Прамбудбанк» адмаўляў прадпрыемству ў крэдыце. Пастанова з'явілася, крэдыт атрыманы, грошы пачалі выплачваць, а што далей.**

«Крэдыт — гэта ўдаўка», — так заўважыў генеральны дырэктар «БелВАРа» Мікалай Міхайлавіч Ярохаў. Яно на самай справе так, бо без атрымання грошай ад рэалізацыі ўласнай прадукцыі нічога не атрымаецца. Крэдыт, нават на самых выгадных умовах, трэба будзе пагашаць. Таксама трэба будзе ў хуткім часе вырашаць пытанне аб выплаце майскага заробку (на двары ж ужо ліпень), чэрвеньскага, ды і грошай на адпачынак — увесь завод мяркуе калектыўна зрабіць гэта ў жніўні...

Мінскі трактарны пакуль вырашае праблему з выплатай заробку праз... адцягванне выплаты даўгоў Мінскаму маторнаму заводу. Дзе карэспандэнту «Звязды», у прыватнасці, паведамілі пра такое вось становішча. На ММЗ актыўна заняты пошукамі «жывых» грошай, бо аддаваць заробак працоўным трактарамі, як гэта прапануе МТЗ у якасці аплаты даўгоў, згадзіцеся, вельмі нязручна.

Кожнае прадпрыемства, акрамя ўласных даўгоў, мае шмат даўжнікоў, атрымаць грошы ад якіх практычна немагчыма. Таму пошукі «жывых» грошай прыводзяць да ўдаўкі крэдытаў ці да забастоўкі. «Трэба знаходзіць больш дасканалае рашэнне гэтага пытання шляхам пашырэння рынкаў збыту па ўсёй тэрыторыі СНД ці праз перабудову асартыменту выпускаемай прадукцыі», — зазначыў у размове з карэспандэнтам «Звязды» загадчык сацыяльна-эканамічнага аддзела Федэрацыі прафсаюзаў Рэспублікі Беларусь Іван Мацвеевіч Гурскі. Ён таксама паведаміў, што на пачатак чэрвеня агульная запазычанасць па выплаце заработнай платы склала па рэспубліцы 890 мільярдаў рублёў. На некаторых прадпрыемствах (ёсць такія выпадкі) працоўныя не атрымалі заробку нават за сакавік.

Недзе ў сярэдзіне ліпеня пытанне аб своечасовай выплаце заработнай платы павінна будзе вырашацца на пасяджэнні Нацыянальнага савета, куды ўваходзяць прадстаўнікі ўрада, кіраўнікі прадпрыемстваў, прафсаюзаў.

**Мікалай ЛІТВІНАЎ.**

## ЖАНЧЫНЫ ДА КАЛГОТАК НЕРАЎНАДУШНЫЯ

У ходзе аператыўна-вышуковых мерапрыемстваў работнікамі Гродзенскага АУС на транспарце быў выяўлены факт атрымання хабару ў памеры 120$ праваднікам поезда «Гродна—Масква». Менавіта столькі заплацілі жанчыне асобы «каўказскай нацыянальнасці», каб бясплатна правезці ў поездзе 10 баулаў з рэчамі. Зусім магчыма, што менавіта змесціва (а ўнутры аказаліся... жаночыя калготкі!) расчуліла сэрца суровага праваднка.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

## ПЕЛЕНГ-НАВІНЫ

**РАСІЙСКІ АМАП РАССТРАЛЯЎ ДЭМАНСТРАЦЫЮ Ў ГРОЗНЫМ?**

У нядзелю ў Грозным расійскі АМАП і міліцыя адкрылі агонь па ўдзельніках мітынгу, якія патрабавалі спынення разбою і марадзёрства, што чыняць расійскія вайскоўцы, неадкладнага зняцця блок-пастоў і вываду войскаў з Чачні. Пра гэта паведаміў міністр інфармацыі Чачэнскай рэспублікі Ічкерыя Удугаў. У мітынгу ўзялі ўдзел не менш за тры тысячы чалавек. Дзесяткі атрымалі раненні. Міністр унутраных спраў прамаскоўскага ўрада Чачні Хамід Іналаў абвергнуў гэта паведамленне. Ён сцвярджае, што ніякага мітынгу ў чачэнскай сталіцы не было. Учора недалёка ад Грознага аднавіліся перамовы паміж прадстаўнікамі Расіі і рэспублікі Ічкерыя.

**ЧАЭС ЗНОЎ АБ САБЕ НАГАДАЛА**

У мінулую пятніцу на першым рэактары Чарнобыльскай АЭС адбылася ўцечка радыяцыі. Як паведаміў прадстаўнік адміністрацыі АЭС, узровень радыяцыі ў адным са службовых калідораў перавысіў норму ў 5 разоў. Да суботы ўцечка была ліквідавана. Небяспекі для супрацоўнікаў АЭС і навакольнага асяроддзя няма.

**РАДАВАН КАРАДЖЫЧ ЗАСТАЕЦЦА ПРЭЗІДЭНТАМ**

Віцэ-прэзідэнт самаабвешчанай рэспублікі баснійскіх сербаў Плаўшыч абвяргае паведамленні заходніх інфармацыйных агенцтваў, што Радаван Караджыч пайшоў з пасады прэзідэнта і перадаў свае паўнамоцтвы. Плаўшыч заявіла, што Караджыч застанецца на пасадзе прэзідэнта да агульнабаснійскіх выбараў 14 верасня. Карл Більт, галоўны міжнародны пасрэднік у Босніі, паведаміў, што атрымаў афіцыйнае паведамленне пра адстаўку Караджыча. У паведамленні гаворыцца, што Плаўшыч пачала выконваць абавязкі прэзідэнта з 30 чэрвеня.

**НА ВУЛІЦЫ ВЫЙШЛА ПАЎМІЛЬЁНА ЧАЛАВЕК**

Учора раніцай у Ізраілі прайшла забастоўка пратэсту супраць планаў урада Нетаніягу прыватызаваць каля 1/3 усіх дзяржаўных кампаній. Забастоўка, у якой узялі ўдзел амаль паўмільёна чалавек, была арганізавана федэрацыяй ізраільскіх прафсаюзаў. На працягу гадзіны ў краіне былі закрыты ўсе аэрапорты і марскія порты, банкі, паштовыя аддзяленні і іншыя дзяржаўныя ўстановы. Былі перапынены радыёперадачы.

**ТАЛІБЫ ЗНОЎ АБСТРАЛЯЛІ КАБУЛ**

Сілы афганскай апазіцыйнай групоўкі Талібан зноў абстралялі Кабул. Два чалавекі загінулі і некалькі чалавек атрымалі раненні. Заходнія інфармацыйныя агенцтвы паведамляюць, што некалькі снарадаў разарваліся ў квартале, дзе жывуць замежныя дыпламаты, журналісты і супрацоўнікі гуманітарных арганізацый. Пашкоджаны адзін з будынкаў.

**НА ТРАВОЛТУ ПАДАЛІ Ў СУД**

Раман Паланскі вырашыў зусім адмовіцца ад здымкаў фільма «Двайнік» па аповесці Дастаеўскага. Тры тыдні таму выканаўца галоўнай ролі Джон Траволта адмовіўся ад удзелу ў здымках. Асобныя фірмы падалі на Траволту ў суд. Яны абвінавачваюць яго ў падрыве аўтарытэту Паланскага.

**Радыё «Свабода», «Голас Амерыкі», Радыё 101,2 і «Радыё-РОКС» слухаў Сяргей ПРОТАС.**

**ЛЕБЕДЗЬ ПАВІНЕН ПАДПАРАДКОЎВАЦЦА ПРЭЗІДЭНТУ**

Аляксандр Лебедзь абяцаў падзяліць Чачню на дзве часткі. Адной даць незалежнасць, адабраўшы, праўда, два стаўрапольскія раёны, падораныя Чачні ў 1957 годзе Мікітам Хрушчовым. Гэта праграма разыходзіцца з праграмай Барыса Ельцына, з якой вынікае, што Расія павінна быць адзінай і непадзельнай. У гэтым выпадку, як заявіў штотыднёвіку **«Аргументы и факты»** міністр па справах нацыянальнасцей і федэратыўных адносінах Вячаслаў Міхайлаў, Лебедзь будзе абавязаны падпарадкавацца Прэзідэнту.

## СЁННЯ

**МЕСЯЦ**

**Поўня 1 ліпеня**

**ІМЯНІНЫ**

**Пр. Іуды, Іава, Іаана, Пасія. К. Марыі, Урбана.**

**НАДВОР'Е**

Сёння ўдзень па рэспубліцы воблачна з праясненнямі, кароткачасовыя дажджы. Тэмпература паветра ў Віцебску 15—17, Брэсце і Гомелі — 18—20, Гродне, Мінску і Магілёве — 16—18 градусаў цяпла.

У наступныя двое сутак воблачна з праясненнямі, 3-га ліпеня без ападкаў, 4-га па большай частцы тэрыторыі дажджы, навальніцы. Тэмпература паветра 3-га ўначы, 7—12, удзень 19—24, 4-га адпаведна 10—15 і 15—20, па паўднёваму ўсходу да 25 градусаў цяпла.

# КАЛІ Я ПЕРАКАНАНЫ Ў ЧЫМСЬЦІ, ТО ГАТОВЫ СТАЦЬ НА РАСПАЛЕНУЮ ПАТЭЛЬНЮ, КАБ АДСТАЯЦЬ ГЭТА

**Пагутарыць з С. Г. Шарэцкім у «сямейным інтэр'еры» мы дамовіліся яшчэ ў мінулым годзе. У традыцыйнай «непалітычнай» звяздоўскай рубрыцы Сямёна Георгіевіча прадстаўлялі як дэпутата Вярхоўнага Савета, старшыню Аграрнай партыі, доктара сельскагаспадарчых навук, прафесара, члена чатырох акадэмій... Але тады ён быў не вельмі схільны адказваць на прыватныя пытанні: сустрэча праходзіла напярэдадні другога туру выбараў у ВС, таму размова раз-пораз паварочвалася ад асабістых спраў да палітычных.**

**Пасля візіравання матэрыялу (ён, дарэчы, называўся «Чалавек жыве — каб працаваць, ці працуе — каб жыць?..») дамовіліся: калі Шарэцкага выберуць Старшынёй Вярхоўнага Савета, то наша наступная сустрэча адбудзецца ў нефармальнай абстаноўцы. Паўгода назад гэта гучала, канешне, як даніна ветлівасці на развітанне...**

**Аднак... Усё адбылося акурат так, як і думалася-спадзявалася. Мы сустрэліся ў Сямёна Георгіевіча дома, у звычайнай «тыповай» кватэры ў Малінаўцы. Пазнаёміліся з жонкай Галінай Іванаўнай і ўнукамі, Сенем (названы ў гонар дзеда) і Пецем. Прыгадаўшы мінулагадовую сустрэчу, Шарэцкі заўважыў, што больш за ўсё не любіць ілгуноў і не даруе хлусні...**



**— Вы заўсёды гаворыце праўду?**

— Стараюся быць шчырым, з кім бы ні размаўляў: хлусня вяртаецца бумерангам і б'е вельмі балюча па самому ілгуну.

**— Ленін гаварыў: ёсць кампрамісы і кампрамісы... Без кампрамісаў, мабыць, не абысціся — асабліва кіраўніку такога ўзроўню, як Вы?**

— Кампрамісы патрэбны, і я не скажу, што зусім не іду на кампрамісы. Тое, што ты думаеш, ведаеш, да якіх высноў прыйшоў, — бывае, не заўсёды можна гаварыць: важна выбраць час, КАЛІ сказаць. Не для таго, каб ярчэй бліскацець на палітычным небасхіле, а менавіта каб быць пачутым і зразумелым. Палітык заўсёды знаходзіцца пад пільным позіркам народа — вельмі важна, каб народ цябе бачыў такім, які ты ёсць на самой справе.

**— Хто ці што можа прымусіць Вас стаць на калені?**

— Калі я ў нечым перакананы, гэта практычна немагчыма. Я гатовы стаць на распаленую патэльню, але ад сваіх перакананняў не адмоўлюся. Іншая справа — калі слухаю контраргументы і адчуваю, што памыляюся, то змяняю свае погляды. Увогуле, згодзен з Бальзакам: не мяняюць погляды толькі дурні і мерцвякі... Калі мяне хтосьці папракае, што спачатку быў у кампартыі, а потым стаў арганізоўваць аграрную партыю — заўсёды вяртаю свайго крытыка да Леніна. Ён жа ўступаў у РСДРП, гэта партыя спавядала сацыял-дэмакратычныя погляды, а не камуністычныя ў ленінскім уяўленні.

**— З вокнаў Вашага кабінета якраз відаць помнік Леніну...**

— Да Уладзіміра Ільіча стаўлюся як да фігуры надзвычай супярэчлівай. Гэта палкі тактык. Аднак стратэгія была вызначана ім няправільная, сацыялізм быў зразуметы не так. У яго ёсць кніга «Дзіцячая хвароба «левізны» ў камунізме», але, думаю, больш за ўсіх хварэў «левізной» сам Уладзімір Ільіч.

**— Хто для Вас з'яўляецца ідэалам кіраўніка?**

— Прачытаў усяго Маркса і Леніна. Дастаткова знаёмы з Чарнышэўскім і Пляханавым. Многа чытаў пра Рузвельта і дэ Голя. Па меры магчымасці пазнаёміўся з рэформамі Тэтчэр... У кожнага з гэтых кіраўнікоў я штосьці браў і ў той жа час нешта адмаўляў.

**— Напалеон сцвярджаў: кіраваць — значыць, прадбачыць. Вы згодны?**

— Безумоўна. Прабачыць — гэта значыць мець стратэгію, галоўны накірунак руху. Таму я і гавару, што нам неабходна мець уяўленне *аб мадэлі грамадства*, якое хочам пабудаваць пасля ажыццяўлення рэформаў. Без гэтага мы сляпыя.

**— Сямён Георгіевіч, Ваша нядаўняе выступленне на сесіі ВС мела вялікі рэзананс. Адны сцвярджаюць: Шарэцкі ўсур'ёз заняўся самарэкламай. Другія перакананыя: Шарэцкага падкупілі заакіянскія буржуі... Рэдактар «Советской Белоруссии» сцвярджае, што Шарэцкі «не сказаў нічога новага», імкнучыся «зрэзаць» дэпутата Нісцюка, які «энергічна збіраў подпісы на прадмет адрашэння Шарэцкага ад пасады», а таксама пад уздзеяннем «салодкага паветра амерыканскага палітычнага жыцця»...**

— Я не ведаю, якое паветра заражае Паўла Якубовіча... У сваім выступленні я гаварыў, што да выказаных высноў аб палітычным уладкаванні дзяржавы, аб эканоміцы і культуры будучага грамадства прыйшоў не ў Амерыцы і не дзе-небудзь яшчэ, а ў бібліятэцы Вышэйшай партшколы. Ужо тады зразумеў, што грамадства, якое мы называлі сацыялізмам, на справе было таталітарным сацыялізмам, а не дэмакратычным. Той сацыялізм скоўваў асобу, не даваў свабоды выказаць сваё меркаванне, свабоды займацца прадпрымальніцкай дзейнасцю — ён імкнуўся ўсіх ураўняць. Ён, безумоўна, вылечыў усе хібы ранняга капіталізму, але парадзіў новыя негатыўныя моманты.

А, прынамсі, свае погляды я выказаў яшчэ ў савецкі час, у 1990 годзе на пашыраным пасяджэнні Прэзідыума УАСГНІЛ, і пасля гэтага мяне вадзілі ў Палітбюро «выхоўваць».

**— Гавораць, Вас тады нават дысідэнтам называлі?**

— Ну, не дысідэнтам, але... Тады, дарэчы, мы сустрэліся з Ягорам Сямёнавічам Строевым, ён курыраваў сельскую гаспадарку. Пасля двухгадзіннай гутаркі мой артыкул (не без яго дапамогі) быў надрукаваны ў газеце «Сельская жизнь», а таксама і ў «Знамени юности» — там працавала Галіна Айзенштат, яна пасадзейнічала.

**— І ўсё ж, як Вы тлумачыце такую бурную і неадназначную ацэнку свайго выступлення на сесіі?**

— Людзі неяк паніклі, цяжкае жыццё іх зусім прыціснула. Беднасць нараджае ўбогасць мыслення — на жаль. Многія перасталі верыць у штосьці светлае. І калі пачулі крыху іншы (на іх погляд) падыход да канцэпцыі развіцця грамадства, — схамянуліся. Але я неаднаразова гаварыў Прэзідэнту, што нам трэба выпрацаваць агульную палітыку. Калі б такая дамоўленасць атрымалася, то добра было б, каб гэтыя думкі былі выказаны вуснамі Прэзідэнта: мы ўжо прывыклі, што першая асоба гаворыць, а ўсе астатнія выконваюць. Дарэчы, гэта таксама ў нас засталося ад таталітарнага грамадства.

**— Якія складваюцца адносіны паміж Старшынёй ВС і Прэзідэнтам?**

— Самыя дзелавыя.

**— У прыватнай гутарцы Вы не выказвалі свае канцэпцыі Прэзідэнту?**

— Мы ніколі не гутарылі аб развіцці грамадства падрабязна і канкрэтна.

**— У фільме Эльдара Разанава «Забытая мелодыя для флейты» спяваецца: «Мы не пашем, не сеем, не строим — мы гордимся общественным строем»... А як бы Вы вызначылі цяперашні грамадскі лад Беларусі?**

— У нас — ніякага грамадскага ладу.

**— Хіба так можа быць?**

— Мы адышлі ад аднаго і нічога не будуем іншага. Пакуль што мы барахтаемся на месцы. Стараемся жыць «на плаву», але нікуды не плыць. Мы і не тонем, аднак, барахтаючыся на месцы, аслабяваем — нам трэба плыць. І перш за ўсё, вызначыць накірунак — куды плыць?

**— Куды плыць?**

— Я ўжо гаварыў: такім грамадствам з'яўляецца дэмакратычны сацыялізм. Усе высокаразвітыя краіны — незалежна ад таго, прызнаюць іх кіраўнікі ці не, — дрэйфуюць да такога грамадства. Напрыклад, калі пад кіраўніцтвам Рузвельта быў вызначаны курс развіцця ЗША — краіны вялікай і багатай, якая ў той час была разбіта глабальным крызісам, — многія абвінавачвалі кіраўніцтва ў прыхільнасці сацыялістычным ідэям: грамадства паварочвалася ад «вытворчасці дзеля вытворчасці і прыбытку» ў бок вырашэння сацыяльных пытанняў.

**— Вы не баіцеся страціць пасаду?**

— Не! Для мяне важна рэалізаваць сваю ідэю, незалежна ад таго, на якой прыступцы іерархічнай лесвіцы буду знаходзіцца. Калі мяне вылучалі на пасаду Старшыні Вярхоўнага Савета, я разумеў, што з'яўляюся адным са старэйшых дэпутатаў, маю вялікі вопыт і вучонага-тэарэтыка, і практыка, і дзяржаўнага дзеяча. Узважыўшы ўсё, вырашыў паспрабаваць рэалізаваць свае задумы — з дапамогаю дэпутатаў, якія маюць багаты вопыт работы і высокі ўзровень адукацыі. Вельмі цаню інтэлект і працаздольнасць дэпутатаў цяперашняга Вярхоўнага Савета

**— Якая зарплата ў Старшыні ВС?**

— Тры мільёны 100 тысяч рублёў.

**— У вас ёсць ворагі? Іх стала больш у працэсе работы спікерам парламента?**

— Я заўсёды кіраваўся наступным прынцыпам: няважна, як да мяне адносяцца людзі, але больш важна — як я да іх адношуся. Нікога не лічу сваім ворагам.

**— Вам не шкада, што ў ВС няма прадстаўнікоў БНФ?**

— Такая воля народа... Але адсутнасць у Вярхоўным Савеце прадстаўнікоў БНФ сведчыць, што палітычная палітра поглядаў грамадства ў вышэйшым заканадаўчым органе дзяржавы адлюстравана не поўнасцю. А шкадаваць ці абурацца з нагоды таго, каго абраў народ... Прадстаўнікі БНФ не трапілі ў ВС, на мой погляд, па прычыне свайго залішняга экстрэмізму.

**— Прагнозы — рэч няўдзячная, і ўсё ж... Як па-Вашаму, у Зянона Пазняка ёсць шанц стаць дэпутатам ВС?**

— Не ведаю... Аднак сваім выступленнем на чарнобыльскім мітынгу ён не падбавіў сабе аўтарытэту як палітычны дзеяч. Ну нельга ў дзень жалобы і смутку свайго народа вымаўляць памінальныя словы ў гонар Дудаева — пры гэтым не памянуўшы людзей, якія загінулі ў выніку чарнобыльскай катастрофы.

**— Сямён Георгіевіч, Вы цудоўна ведаеце родную мову, але чаму так рэдка карыстаецеся ёю на пасяджэннях ВС?**

— Большая частка дэпутатаў размаўляе па-руску, і мне таксама даводзіцца гаварыць па-руску. Але я мяркую, што ў бліжэйшай перспектыве пяройдзем і на беларускую мову. Гэта адбудзецца ўжо на восеньскай сесіі ВС — ва ўсялякім выпадку, перад дэпутатамі пастаўлена задача вывучэння дзяржаўнай мовы.

**— Як Вы ацэньваеце тое, што адбываецца з «Народнай газетай»?**

— Лічу верхам непарадку і свавольства, што адна ўлада пачынае наступаць на нагу другой. На гэтым заканчваюцца канструктыўныя перамовы, нармальная палеміка. Усе пытанні трэба вырашаць законным шляхам. А калі дрэнны закон — мяняй закон, але парушаць яго нельга...

**— Вашы тэлефоны праслухоўваюцца?**

— Не магу адказаць ні станоўча, ні адмоўна — у мяне няма такой інфармацыі.

**— Вяртаючыся пасля работы дадому, забываеце, што Вы — кіраўнік высокага рангу?**

— Такое не забываецца... Дома, канешне, паводжу сябе як звычайны чалавек, але... Цяжар адказнасці перад народам, перад дзяржавай пастаянна ляжыць на мне.

**— Вы раіцеся з жонкай па рабочых праблемах?**

— Не, такога не бывае. У нас няма ніякай «кухоннай палітыкі», як гэта было ў некаторых палітычных дзеячаў... Справа ў іншым — жонка садзейнічае маёй працы, падтрыманню фізічных і духоўных сіл. Беражліва, нават трапятліва адносіцца і да мяне, і да маёй справы. Яна ўмее змаўчаць, калі трэба.

**— Вас лёгка вывесці «з сябе»?**

— Чаму не — я ж таксама чалавек!..

**— Як вы пазнаёміліся з жонкай?**

— На вяселлі. Перапісваліся: я вучыўся ў Горках Магілёўскай вобласці, яна — у Мінску. Потым прыехала на канікулы, а я ўжо працаваў у сваім калгасе намеснікам старшыні (калгаснікі выбралі на гэту пасаду, калі я быў яшчэ студэнтам). Больш мы ніколі не расставаліся.

Галіна Іванаўна ўжо на пенсіі, але працуе ў аддзеле кадраў Белсаюздруку.

**— Вам жа можна і не працаваць? — пытаюся ў яе.**

— Канешне, можна, але не хачу дома сядзець, мне нецікава! Я спраўляюся і на рабоце, і дома.

**— Вы самі гатуеце?**

— Усё сама.

**— Сям'я Шарэцкага харчуецца за казённы кошт?**

— Не. Сёння паехалі ў магазін, купілі прадуктаў. Увесь час з сумкамі...

**— Сямён Георгіевіч, Вы памятаеце дзень свайго вяселля?**

— А як жа! Вяселле справілі 7 лістапада 1960 года.

**— Прабачце, але задам каверзнае пытанне: якога колеру вочы ў Вашай жонкі?**

— Больш яна мне ў вочы глядзіць, а я вельмі люблю яе твар — ён заўсёды прыемны, прыгожы, пяшчотны. Жонка, здаецца, амаль не змянілася з дня нашага знаёмства.

**— Кветкі часта ёй дорыце?**

— Стараюся... на святы. Аднойчы на вечары ў ВПШ мяне спыталі, якія кветкі любіць жонка. Адказаў: тыя, якія я ёй дару. Мне за гэта далі прыз (смяецца).

**— Сямён Георгіевіч, у вёсках зараз гоняць самагонку — па неабходнасці: «бутэлькамі» разлічваюцца за любую работу. Вы доўга жылі ў вёсцы — гналі калі-небудзь самагонку?**

— Ніколі — ні я, ні маці.

**— Дзе працуюць Вашы сыны?**

— Адзін працуе ў «Белаграінгандлі», а другі — у камерцыйнай арганізацыі. Ён спачатку працаваў на дзяржслужбе, але пытанне ўстала так: пяць чалавек сям'і, 2-пакаёвая кватэра — што рабіць? Пайшоў у камерцыю, купіў 4-пакаёвую кватэру.

**— Колькі ў Вас унукаў?**

— Чацвёра. Па выхадных яны амаль заўсёды з намі.

**— Як Вы выхоўваеце ўнукаў?**

— Мы іх не выхоўваем... У нас ніколі не гучала слова «выхоўваць», проста стараемся жыць годна — дзеці і ўнукі паступова прызвычаіліся да нашага ладу жыцця.

**— З вамі жыве і маці?**

— Так, ёй 86 гадоў.

**— Праблем «нявестка — свякруха» не ўзнікала?**

— Наадварот, часцей за ўсё бывае праблема паміж мной і жанчынамі — яны, здараецца, удваіх на мяне нападаюць...

**— З якім сваім недахопам Вам змагацца складаней за ўсё?**

— Здаецца, усё пераадолена. Калісьці быў заўзятым курыльшчыкам — кінуў...

Галіна Іванаўна расказала:

— Мы жылі ў інтэрнаце — адзін пакой, двое дзяцей. Ён рыхтаваўся здаваць экзамен-кандмінімум па нямецкай мове — курыў адну цыгарэту і адразу прыкурваў другую. Прыводжу дзяцей з садка — клубы дыму. Паабяцаў: здам кандмінімум — кіну курыць. Пасля экзамену аддае мне спічкі і папяросы. Я не выкінула: мы жылі небагата... Але ён ні разу больш не закурыў. Сіла волі! Захацеў — зрабіў.

**— Гавораць, у Вас жыве чорная кошка з кацянятамі?**

— Гэта было пакінута нам «у спадчыну» на дзярждачы, мы даглядаем.

**— Вы жывяце на дзяржаўнай дачы, а прысядзібны ўчастак у Валожынскім раёне не закінулі?**

— Пасадзілі бульбу, моркву, капусту... Ездзіць туды Галіна Іванаўна, бо ў суботу і нядзелю я звычайна таксама працую.

**— Вы гуляеце ў тэніс?**

— Не.

**— Чаму, гэта ж цяпер «уладны» від спорту?**

— Я ніколі нікога не імітаваў, заўсёды быў самім сабой. Люблю плаваць, лавіць рыбу... А наконт «уладнага» спорту... У нас як атрымліваецца: у свой час хадзіў Сталін у ваенным фрэнчы — і ўсе хадзілі, надзеў Хрушчоў папаху — і ўсе за ім... Чаму людзей цягне «малпаваць» — не зразумела...

**— Умееце іграць на якім-небудзь музычным інструменце?**

— На жаль, не: з-за таго, што гадаваўся ў вельмі беднай сям'і. Я хацеў навучыцца іграць на гармоніку, нават прынёс гармонік дадому. Але чамусьці тады лічылася: хто іграе — той не гаспадар. Маці сказала, каб аднёс гармонік назад.

**— Што чытаеце?**

— Чытаю выбіральна. Часта звяртаюся да класікі. Калі працую, люблю чытаць Коласа, Танка, Багдановіча, Ясеніна, Лермантава, Пушкіна, Цютчава.

**— А напамяць якія-небудзь вершы ведаеце?**

— Канешне. Калісьці і сам пісаў вершы, у тым ліку і Галіне Іванаўне.

*Сямён Георгіевіч дастаў з шафы груваcткі стос вялікіх сшыткаў: што б ні чытаў, заўсёды робіць для сябе выпіскі. Я прагартала некалькі сшыткаў (а іх ужо назбіралася ў Шарэцкага некалькі дзесяткаў) — канспекты работ па эканоміцы і гісторыі, сельскай гаспадарцы і палітыцы. Матэрыялісты Старажытнай Грэцыі суседнічаюць з Бялінскім, Чарнышэўскім, Дабралюбавым, Герцанам (прычым прааналізаваны не выбарачныя работы, а ўсе зборы твораў), паэтычная класіка — з паэтычнай сучаснасцю. Успаміны, дзённікі, перапіска знакамітых людзей...*

— Стараюся легкавесных заяў не рабіць. Усе мае выказванні базіруюцца на падставе канкрэтных ведаў, кожнае палажэнне магу аргументаваць, і гэтыя мае шматгадовыя сшыткі-напрацоўкі — добрая падмога.

**— Сямён Георгіевіч, Вы ведаеце якую-небудзь малітву?**

— Так. Я з праваслаўнай сям'і (хаця маю не толькі Біблію, але і Каран, і Бгахаватгіту). Мая бабуля была вельмі набажная, нават людзей лячыла малітвамі. Амаль усе дзеці такога ўзросту, як я, у нашай вёсцы прыняты яе рукамі. Пад бабуліным уплывам я вывучыў стараславянскую мову, ведаў малітвы і даволі працяглы час марыў стаць святаром — здавалася, вышэйшай пасады не можа быць... Потым мяне «заразіў» матэматыкай настаўнік, Шарыкала Уладзімір Лявонцьевіч. Але калі адбыўся вераснёўскі (1953 года) Пленум ЦК КПСС, я стаў перакананым сельскагаспадарнікам. Хацелася ў меру магчымасцей вырашаць праблемы, якія стаяць перад вёскай.

**— І апошняе пытанне: ці паўплываюць, на Ваш погляд, вынікі выбараў у Расіі на ўзаемаадносіны нашых краін?**

— Не хацелася б так думаць: мы заключылі дагавор з краінай, народам, а не з канкрэтнай асобай (хаця, безумоўна, нельга адмаўляць уплыў асобы на ход падзей). Мяркую, у стратэгічным плане ў адносінах паміж нашымі краінамі нічога не зменіцца — незалежна ад таго, хто стане прэзідэнтам Расіі.

**Гутарыла Таццяна ПАДАЛЯК.**

# ГОМЕЛЬСКАЕ ВЫТВОРЧАЕ АБ'ЯДНАННЕ «ПРАЦА»: БАРАЦЬБА ЗА ЯКАСЦЬ — ЖЫЦЦЁВАЕ ПРАВІЛА

**У гісторыі развіцця аднаго са старэйшых у рэспубліцы абутковых прадпрыемстваў (яно рыхтуецца да свайго 75-гадовага юбілею) нямала цікавых і павучальных старонак. Былі ў ёй вытворчыя ўзлёты і падзенні, зведала і радасць перамог, і горыч няўдач. Але што заўсёды было нязменным у характары яго калектыву, дык гэта імкненне зрабіць сваю работу як найлепш, барацьба за якасць, за гонар фабрычнай маркі. Сёння ў выніку агульнаэканамічнай сітуацыі ў рэспубліцы працаўнікі аб'яднання, як і многія іншыя калектывы, змагаюцца за сваё выжыванне, паступова прывыкаючы да патрабаванняў рынку і робячы ў гэтым напрамку пэўную перабудову сваёй дзейнасці. Аб гэтым наша гутарка з генеральным дырэктарам аб'яднання С. Гудковым.**

**— Сяргей Сцяпанавіч, ці праўда, што большую частку свайго жыцця вы аддалі «Працы»?**

— Праўда. На гэтае прадпрыемства я прыйшоў у шаснаццацігадовым узросце, а зараз мне ўжо ідзе пяцьдзесят восьмы год. І яно стала для мяне родным домам. Бо тут быў я спачатку вучнем шаўца, затым пяць гадоў шаўцом абутку, паспяхова асвоўшы ўсе вытворчыя аперацыі. Тут без адрыву ад вытворчасці закончыў вячэрнюю школу, пасля чаго прадпрыемства накіравала мяне на вучобу ў Кіеўскі тэхналагічны інстытут лёгкай прамысловасці. Закончыўшы яго — а вучыўся я на стацыянары, — вярнуўся ў калектыў і працаваў інжынерам аддзела тэхнічнага кантролю, начальнікам змены і цэха. Затым пяць гадоў — работа інструктарам Цэнтральнага райкома партыі, і зноў свой калектыў, які даў мне пуцёўку ў жыццё. Сёлета споўнілася дваццаць гадоў, як я з'яўляюся генеральным дырэктарам прадпрыемства.

**— Напэўна, ніводзін з папярэдніх кіраўнікоў аб'яднання столькі многа гадоў не ўзначальваў ваш калектыў?**

— Гэта не зусім так, бо 22 гады дырэктарстваваў Мікалай Васільевіч Філічаў, з якім мне давялося працаваць і ў якога я многаму навучыўся. Кожнаму папярэдняму кіраўніку мы аддаём належнае, бо яны імкнуліся ў самых складаных абставінах пашыраць вытворчасць абутку, абнаўляць яго асартымент. Стаўка на энтузіязм людзей, якія працавалі ўручную і не маглі адразу авалодаць тэхнікай, што паступала на прадпрыемства, іхняя самаадданасць у рэшце рэшт прыводзілі да поспеху. Вось чаму вопыт папярэдніх кіраўнікоў фабрыкі, а потым аб'яднання вывучаў і разам з усім калектывам прымяняў у адпаведнасці з канкрэтнымі рэаліямі часу. Так, мы значна пашырылі супрацоўніцтва з Ленінградскім праектна-канструктарскім бюро лёгкай прамысловасці, Цэнтральным і Украінскім навукова-даследчымі інстытутамі гарбарнай прамысловасці, беларускім інстытутам чыгуначнага транспарту, сумесна з аўстрыйскай фірмай «ЛІМ» укаранілі метад вадкага фармавання падэшваў абутку, што не толькі дазволіла аблегчыць яго, але і падоўжыць тэрмін носкі. Нам удалося пабудаваць новыя вытворчы, адміністрацыйна-бытавы і складскі карпусы, тэхналагічны цэх, у якім не прымяняецца ручная праца, інтэрнат. Гэтыя і іншыя новаўвядзенні садзейнічалі таму, што калектыў, як гаворыцца, трывала стаяў на нагах. Дастаткова сказаць, што за год мы выраблялі каля двух з паловай мільёнаў пар абутку, у тым ліку для Савецкай Арміі — 675 тысяч пар.



*Генеральны дырэктар абёўднання Сяргей ГУДКОЎ з начальнікам і намаеснікам начальніка пашывачнага цэха Наталляй ЧЫЖЫК і Любоўю ЛЮЦІКАВАЙ.*



*Зацяжчык абутку Аляксандр ЦІМАШЭНКА. Якасць яго работы заўсёды выдатная.*

**— Усё гэта было. А што стала?**

— Ужо ў першыя гады сумна вядомай перабудовы, калі было аб'яўлена аб усталяванні рыначных адносінаў, прадпрыемства пачало ліхаманіць. Мы не атрымалі ніводнага метра вінілурэтанскуры з Цверы, толькі на палову патрэбнасці выканаў пастаўкі па гранітолі на кордзе і мешкавіне Котаўскі завод пластмас, 60 тысяч пар дэталяў нізу абутку не адправілі нам з горада Іванава, а з Васількова — два мільёны квадратных дэцыметраў скуртавару. Да таго ж спыніліся пастаўкі запасных частак да прэсавага абсталявання і швейных машын так званага цяжкага тыпу. І г. д., і да т. п. Гарачка, адным словам. З развалам Саюза яна, гэтая гарачка, яшчэ болей узмацнілася. І, як заканамерны фінал гэтага, мы вымушаны былі значна скарацiць вытворчасць і звузіць рынкі збыту.

**— А калі больш канкрэтна, Сяргей Сцяпанавіч?**

— Дастаткова тут прывесці наступныя лічбы. Да развалу Саюза мы выраблялі каля двухсот мадэляў абутку, і ў наша аб'яднанне акрамя галаўнога прадпрыемства ўваходзілі яшчэ дзве фабрыкі — у Гомелі і ў Рэчыцы. Дык вось, калі раней рэчыцкая фабрыка выпускала за год да трохсот тысяч пар абутку для людзей пажылога ўзросту (а ён быў мяккі, бескаркасны, зручны для носкі), дык паступова гандлёвыя арганізацыі скарачалі заказы на яго, практычна даведшы іх да сумарна нуля. Прычына? Рынак запоўніўся больш танным падобным таварам з Кітая, Сінгапура, Малайзіі, і гандлёвыя арганізацыі зрабілі на яго ўпор.

**— Заканамерная з'ява: канкурэнцыя, і пакупнік будзе набываць больш танныя рэчы. Так што крыўдаваць тут не трэба.**

— Згодзен. Аднак таму замежнаму абутку да нашага ў сэнсе якасці вельмі далёка. Часовы выйгрыш у спажыўца на справе аказваецца міражом, бо той абутак хутка зношваецца. Праўда, гандляроў гэта ўжо не цікавіць. Дык вось, з-за адсутнасці попыту на пэўныя мадэлі абутку мы вымушаны былі скарацiць вытворчасць вышэйпамянёных фабрык і частку іхняй прадукцыі перадаць на галаўное прадпрыемства. Дарэчы, летась мы выпусцілі ўсяго 360 тысяч пар абутку, а сёлета плануем выпусціць 380 тысяч пар.

**— А якія ў вас паказчыкі зараз, якое фінансавае становішча?**

— За пяць месяцаў мы выпусцілі 231 тысячу пар абутку, што на 26,9 працэнта вышэй, чым у адпаведным перыядзе мінулага года, а балансавы прыбытак склаў 4833 мільёны рублёў. Зарплату людзям выплачваем без затрымак. Як і прадугледжана калектыўным дагаворам, у нас дзейнічаюць такія сацыяльныя льготы, як патаненне кошту харчавання ў сталоўцы, праезду ў гарадскім транспарце, выдзяляецца бесплацэнтная па-зыка (пры наяўнасці ў аб'яднанні грашовых сродкаў), пры адыходзе ў водпуск выдаецца грашовая дапамога на аздараўленне, лячэнне, адпачынак і да т. п.

**— А што, Сяргей Сцяпанавіч, за гэтымі лічбамі?**

— Вядома ж, напружаная праца калектыву, пастаянныя пошукі як дадатковых рэзерваў вытворчасці, так і рынкаў збыту. Мы, напрыклад, стварылі ў сябе службу маркетынгу, якая выкарыстоўвае і нашы папярэднія сувязі, і шукае новыя. У выніку са сваёй прадукцыяй мы дабраліся да многіх, практычна, ледзь не да ўсіх рэгіёнаў Расіі,





*Мадэльер Людміла ДЗЕМЯНЦЮК. Яна распрацоўвае ўзоры абутку, што потым вырабляюцца ў цэхах.*

уключаючы і Далёкі Усход. Прычым бяром у асноўным якасцю сваіх вырабаў, іх надзейнасцю. Хто-ніхто ў пагоні за часовым поспехам скарацiў службы тэхнічнага кантролю, пачаў прымяняць няякасныя матэрыялы. Лічу, што мы правільна зрабілі, калі не пайшлі па гэтаму лёгкаму і зманліваму шляху і захавалі ўсе тэхналагічныя параметры, прадугледжаныя дзяржаўнымі стандартамі. У нас і ў самыя цяжкія перыяды, і зараз дзейнічаюць і ўваходны, і міжаперацыйны кантроль, а калі здараецца, што нехта дапусціць брак, ён за гэта нясе матэрыяльную адказнасць. І нам вельмі прыемна ўсведамляць, што ёсць нямала выпадкаў, калі заказчыкі, якія мелі справу з іншымі аналагічнымі прадпрыемствамі краін блізкага замежжа, адмовіліся ад іх паслуг і ўзялі арыенцір на Гомель.

**— А ці многа ў вас, Сяргей Сцяпанавіч, прадукцыі ляжыць на складзе?**

— Такога ў нас няма. Мы працуем на заказ, каб не несці страты. У Рэспубліцы Беларусь вытворчае аб'яднанне «Праца» — адзінае прадпрыемства па выпуску рабочага абутку, падэшвы якога мацуюцца цвікамі. Гэта надзейны абутак. Зараз кірзавымі ботамі і паўботамі мы забяспечваем структуры Міністэрства ўнутраных спраў рэспублікі, мытнікаў і пагранічнікаў. Вядзём далейшы пошук заказчыкаў. Карацей кажучы, робячы ўпор на павышэнне якасці сваёй прадукцыі, працуем на рэалізацыю, не прапускаючы ніводнай выстаўкі тавараў народнага спажывання, якія праводзяцца ў розных краінах. Шкада толькі, што па вышэйапісаных прычынах страцілі рынкі збыту на Украіне і ў азіяцкіх рэспубліках былога Савецкага Саюза.

**— А як спажыўцы разлічваюцца за вашу прадукцыю?**

— Гэта складанае пытанне. І грашыма, і бартэрам. Бачыце, вунь на двары стаіць «суперМАЗ» — выдатны грузавік. Наш тавар купіла адно сібірскае прадпрыемства, якое не магло расплаціцца з намі з-за адсутнасці фінансавых сродкаў. А яму завінавацілася вялікую суму іншае прадпрыемства Расіі, якому ў сваю чаргу не мог выплаціць грошы Мінскі аўтамабільны завод. Вось па такому заблытанаму ланцужку мы і атрымалі гэты грузавік. Мы не адмаўляемся ад бартэра, калі нам прапаноўваюць такія сыравіну і матэрыялы, як кірза, падэшвы, цвікі, абцасы, патрэбныя камплектуючыя дэталі для абутку, а таксама прадукты харчавання — муку, крупы, цукар, алей, рыс і іншае. Іх нашы работнікі атрымліваюць у лік пэўнай часткі зарплаты. Дарэчы, з мэтай рэалізацыі некаторых відаў тавараў, якія паступаюць нам па бартэру, мы адкрылі свой магазін. У ім прадаём таксама і свае вырабы.

**— А якія праблемы вас хвалююць і трывожаць?**

— Многія. Тут і падатковы прэсінг, і рост цэн на сыравіну, матэрыялы, электраэнергію, і недахват грашовых сродкаў на набыццё ўсяго неабходнага для вытворчасці, у сувязі з чым мы вымушаны карыстацца крэдытнымі рэсурсамі банка. Зараз наяўнасць іх у нас складае 3590 мільёнаў рублёў. Дарэчы, па прычыне недастатковага фінансавага забеспячэння мы сёлета прасталі 38 рабочых дзён, з-за чаго не выпусцілі 96 тысяч пар абутку на 16.224 мільёны рублёў.

І ўсё ж мне думаецца, што прыйдзе час, калі мы навучымся перааднаўляць цяжкасці, стабілізуем эканоміку рэспублікі. А калектыву свайго аб'яднання я хачу сказаць шчырыя дзякуй за стараннасць і энтузіязм. Я веру ў нашых работнікаў, спадзяюся на іх.

**Гутарыў Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# КІРМАШ

ШТОТЫДНЁВЫ РЭКЛАМНЫ ВЫПУСК

№ 24 (43)








## «Беларусбанк» праводзіць тэндэр па закупцы сродкаў вылічальнай тэхнікі

**Акцыянерны ашчадны банк «Беларусбанк» праводзіць тэндэрныя таргі па закупцы сродкаў вылічальнай тэхнікі з мэтай укаранення адзінай аўтаматызаванай сістэмы ва ўсіх трох тысячах сваіх філіялаў і аддзяленняў.**

Першы такі тэндэр банкам быў ужо аб'яўлены, і 25 чэрвеня, у адпаведнасці з агульнапрызнанымі ў свеце правіламі правядзення тэндэрных таргоў, адбылося распячатванне канвертаў з камерцыйнымі прапановамі фірмаў, якія выказалі жаданне пазмагацца за гэты заказ.

Паводле звестак БелаПАН, такіх фірмаў аказалася трынаццаць. Сярод іх — вядомыя кампаніі «ICL» ТАА «Дайнова-цэнтр» СП «БелАВМ», ТАА «Крафтвэй камп'ютэрз-М», ІП «Камп'ютэрлэнд/Мінск», «Grenline Computer Ltd» і іншыя. У гэтай працэдуры прынялі ўдзел старшыня тэндэрнай камісіі, намеснік старшыні праўлення «Беларусбанка» Уладзімір Новік, віцэ-прэзідэнт Асацыяцыі беларускіх банкаў прафесар Міхаіл Кавалёў, прадстаўнікі Міністэрства фінансаў і зацікаўленых фірмаў. Фірма-пераможца атрымае магчымасць стаць стратэгічным партнёрам буйнейшага ў рэспубліцы банка па праграме аўтаматызацыі.

**Павел СІМАНАЎ.**

## Першы аптовы рынак адкрыецца ў сталіцы

**На працягу гэтага года плануецца завяршыць праект па стварэнню ў Мінску першага ў Рэспубліцы Беларусь аптовага рынку сельгаспрадукцыі.**

У мэтах рэалізацыі праекта яшчэ ў 1994 годзе паміж Беларуссю і Еўрапейскім банкам рэканструкцыі і развіцця было падпісана крэдытнае пагадненне і створана закрытае акцыянернае таварыства «Кампанія Мінскага аптовага рынку». Гарвыканком з'яўляецца адным з заснавальнікаў кампаніі. У выглядзе статутнага фонду гарадскія ўлады перадалі акцыянернаму таварыству частку будынкаў і камунікацый былога пладова-агароднiннага аптова-рознічнага камбіната на суму 1,2 млн. доларaў ЗША. Рынак будуецца на тэрыторыі плошчай 17 гектараў. Кошт замежнай часткі праекта складае 6,5 млн. доларaў і мясцовай часткі — 4 мільёны доларaў. Крэдыт на будаўніцтва рынку выдадзены Еўрапейскім банкам пад гарантыю ўрада Рэспублікі Беларусь.

**Сяргей КУРКАЧ.**

## Беспрацоўе сярод жанчын расце

**Адной з праяў эканамічнага крызісу ў нашай рэспубліцы стала беспрацоўе. Хто ад яго больш церпіць: мужчыны або жанчыны?**

Як стала вядома нашаму карэспандэнту, на пачатак 1995 года ў рэспубліцы было 64,5 тысячы беспрацоўных жанчын, ці 63,7 працэнта ад агульнай колькасці беспрацоўных, на пачатак 1996 года — 84,3 тысячы, ці 64,3 працэнта. 80 працэнтаў вызваленых ад грамадскай вытворчасці — жанчыны. Дзве трэці з іх маюць вышэйшую і сярэднюю адукацыю. Амаль палова беспрацоўных жанчын (43,7 працэнта) вельмі маладыя — да 30 гадоў, 32 працэнты — ад 31 да 40 гадоў, чвэрць — старэй за 40 гадоў.

Да таго ж, як высветлілася, на 1 студзеня 1996 года ў прамысловасці, на будаўніцтве і транспарце 130 тысяч жанчын працавалі ва ўмовах, якія не адпавядаюць патрабаванням бяспекі працы.

**Сяргей ПРОТАС.**

*Сардэчна віншуем з днём нараджэння Ніну Віктараўну. Жадаем моцнага здароўя, шчасця і дабрабыту.*

Крыніца. Мезаны.

## Будзем з гарэлкай і ...бальзамам

**У прэсе ўжо паведамлялася, што вельмі хутка мінскі вінна-гарэлачны завод «Крышталь» спыніцца на рамонт, у сувязі з чым узнікае законнае пытанне ці не стане спіртное айчыннай вытворчасці на час рамонту завода дэфіцытам? Генеральны дырэктар ВГЗ «Крышталь» Мікалай Бялко запэўніў, што ўсё будзе нармальна і недахвату гарэлкі адчувацца не павінна. З 8 ліпеня палова завода на месяц становіцца на планавы рамонт. Другая ж частка прадпрыемства такую ж працэдуру пройдзе ў канцы верасня.**

Па запэўніванню Мікалая Трафімавіча, пасля правядзення на аб'яднанні неабходных работ, знешні выгляд бутэлек з «гаручай вадкасцю» стане больш прывабным, паколькі будзе ўстаноўлена новае італьянскае абсталяванне, якое і «зоймецца» афармленнем прадукцыі.

Дарэчы, паралельна з эстэтычным выглядам прадукцыі на прадпрыемстве не забываюць і пра расшырэнне яе асартыменту. Днямі з канвеера завода сыходзіць новы бальзам «Мінск—Крышталь», выпуск якога заснаваны на выкарыстанні лекавых відаў раслін.

Пакуль толькі адна затрымка: кіраўніцтва «Крышталя» імкнецца дабіцца ў адпаведных дзяржаўных структур, каб навінка абкладалася як мага меншым акцызам, паколькі валодае выдатнымі лекавымі ўласцівасцямі і нават можа паспрачацца з шырока разрэкламаваным бальзамам Бітнера. А значыць, такі напой павінен быць даступным для большасці людзей. А гэта ў немалой ступені залежыць ад цаны. Будзе зніжаны акцыз — і кошт прадукцыі акажацца значна меншым.

Магчыма, новы беларускі бальзам для многіх людзей стане нейкім заменнікам таблетак, паколькі ўтрымлівае ў сабе 14 розных кампанентаў — карэнне дзьмухаўцу, сасновыя пупышкі, кветкі ліпы, насенне лекавых раслін, а таксама плады шыпшыны, рабіны і ягады ядлоўцу.

Паводле тэхналогіі прыгатавання падобных экстрактаў на заводзе выкарыстоўваюцца нізкатэмпературныя рэжымы, што дазваляе захаваць у прадукце ўвесь комплекс вітамінаў і біялагічна актыўных рэчываў.

Сёння застаецца толькі здзіўляцца як вынаходніцтву сталічных вінна-гарэлачнікаў у галіне прыгатавання арыгінальных напояў, так і іх стабільнасці, якая ў любы момант можа быць парушана неплацяжамі з боку спажыўцоў спіртнога.

Генеральны дырэктар зазначыў, што зараз прадпрыемствы айчыннага гандлю, Белкаапсаюза, грамадскага харчавання завінаваціліся «Крышталю» амаль 130 мільярдаў рублёў. Сярод злосных даўжнікоў — упраўленне гандлю Мінгарвыканкома — 42 мільярды рублёў, а ў Белкаапсаюза запазычанасць на 5 мільярдаў большая.

У той час, калі зробленыя грошы прадпрыемства вісяць у паветры ці круцяцца недзе ў банках, на заводзе не хапае сродкаў, каб своечасова і ў дастатковай колькасці закупіць сыравіны.

— Не паверыце, — кажа Мікалай Бялко, — але некалькі тыдняў таму ў цэхах прадпрыемства заставалася сыравіны толькі на 40 хвілін работы. Мы былі на мяжы спынення канвеера. І не ведаю, колькі нам яшчэ прыйдзецца балансаваць на мяжы, за якой, няцяжка здагадацца, стаіць не толькі пагроза спынення, але і з'яўляецца шанц стаць банкрутам. І гэта пры наяўнасці мільярдаў рублёў! Праўда безнаяўных у прамым і пераносным сэнсе слова.

У такім выпадку бачыцца адно выйсце. Ці то знайсці метад эфектыўнага «выбівання» даўгоў, ці адпускаць прадукцыю толькі тым, хто плаціць.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**



### РОЗНАЕ

♦ Устанаўлю дзверы, урэжу замкі. Тэл. 252-85-56.

♦ Прадам, альбо здам па дагавору дом, маецца калодзеж, лазня ў двары. Гомельская вобл., пасёлак Акцябрскі. Тэл. (8-0172) 32-85-40.

♦ Кансультацыі па матэматыцы. Тэл. 271-80-98.

♦ Мяняю аднапакаёвую кватэру ў Мінску на 2-пакаёвую ў Маладзечна. Тэл. у Маладзечна 6-77-02.

♦ Вышлю энцыклапедыю народнай медыцыны толькі 1-ы том па атрыманні паштовага пераводу 60.000 руб. па адрасу: 231300, г. Ліда, вул. Шубіна 2а, кв. 15. Булай Т.М.

♦ Мяняю 3-пакаёвую кватэру ў Навагрудку на раўназначную ў г. Лідзе альбо прадам. Тэл. у Навагрудку 3-05-14.

### ПРАДАЕЦЦА

♦ Дошка неабразная, 25 мм. Нядорага. Тэл. 252-85-56.

♦ Дом, хлеў, сад, участак 25 сотак у в. Альбянка Нясвіжскага раёна. Звяртацца па тэл. (8-293) 42-6-47.

♦ Дом у добрым стане, вялікі сад, забудова, 90 сотак зямлі — выкупленая, каля г. Ліда. Тэл. 74-2-91.

♦ Электраліт шчолачны. Тэл. у г. Слуцку (8-01795) 2-27-10 з 8 да 17 гадзін.

♦ Новы зруб 7х8 з будматэрыяламі (шыфер, бэлькі, кроквы, 50 брусоў). Тэл. у Слуцку 5-68-50; 7-56-42.

♦ УАЗ-31512, пластыкавы дах, у добрым стане, 28 тыс. км. Цана 3900$. Звяртацца: Слуцкі раён, в. Весея, Хількевіч С. М. Тэл. 91-2-26.

♦ Каляска інвалідная, складная, новая. Тэл. у Мінску 234-43-02; 254-76-41.

♦ Новы драўляны дом для дачы 4,5х5,5. 2 паверхі з неабходнымі матэрыяламі. 1300$. Тэл. у Калінкавіцкім раёне 60-2-71.

♦ Новы цагляны дом у пас. Акцябрскі Баранавіцкага раёна або мяняю на жыллё ў г. Слоніме. Тэл. (8-01562) 3-22-58.

# ЯКОЕ ТЫ, ПАКАЛЕННЕ НА ЗЛОМЕ ЧАСУ?

**Памятаеце даўні анекдот пра Вовачку, які вельмі хацеў жыць у цудоўнай краіне СССР? Не ведаю чаму, але калі гаворка заходзіць аб дзецях, чамусьці заўсёды прыгадваецца менавіта ён. Зразумела, сучасная моладзь не ведае тых часоў, таму было б няправільным суадносіць з імі тагачасныя рэаліі жыцця — цяперашняе пакаленне, як вядома, само выбірае ідэалы і арыенціры. І ўсё ж цікава — якімі б яны былі. Калі гаварыць і аб духоўным светапоглядзе, і аб матэрыяльнай забяспечанасці. Якім бы зацяганым ні быў лозунг «Усё лепшае — дзецям» і якім цынічным ні быў яго ўтоены сэнс, здаецца, менавіта тады ён усё ж найбольш адпавядаў стаўленню да гэтай праблемы.**

**Паглядзіце навокал зараз: кінуць школу і пайсці мыць машыны, піць і курыць ледзь не з першымі крокамі, адпачываць летам у лепшым выпадку ў вёсцы ў бабулі — усё гэта адбываецца на нашых вачах. Сёння гадуюцца дзеці, якія блытаюць хто — Пушкін ці Чэхаў — паэт і пісьменнік, але дакладна ведаюць курс «бакса», не памятаюць казак, але на памяць раскажуць, што адбылося ў апошняй серыі чарговай «мыльнай оперы». А гульні? Апошнім часам у дзетак самымі папулярнымі сталі гульні «ў Вярхоўны Савет» і мексіканскіх палюбоўнікаў... Больш старэйшае пакаленне разам з пепсі «выбірае» венерычныя захворванні, раннія цяжарнасці. І нават студэнтаў — практычна дарослых людзей — больш за вучобу цікавіць камерцыя і «кабакі». Зрэшты... Многае з пералічанага адбываецца не ад добрага жыцця. У каго хопіць смеласці папракнуць 14-гадовага хлопчыка тым, што ён кінуў школу, калі ён корміць усю сям'ю замест бацькоў, якія ў адрозненне ад яго «гуляюць» у адпачынку ад роднага прадпрыемства? Ці студэнта, маладога рабочага, якія гандлююць кантрабанднымі цыгарэтамі ці гарэлкай, каб не сядзець на шыі ў і без таго небагатых бацькоў? І духоўнасці ў сучаснай моладзі не менш, чым раней, проста часова на грэбені жыцця аказаліся крышачку іншыя ідэалы. Але на тое яна і моладзь, каб спадзявацца на лепшае, якое, і гэта бясспрэчна, калі-небудзь ды настане...**

## ЧЫЕ ВЫ, ДЗЕЦІ, БУДЗЕЦЕ?..

**Сёння ў Беларусі налічваецца больш за 12 тысяч дзяцей-сірот і дзяцей, якія засталіся без бацькоў.**

З іх каля 7 тысяч выхоўваюцца і вучацца ў дамах дзіцяці, дзіцячых дамах і школах-інтэрнатах. Так, толькі праз дамы дзіцяці штогод праходзіць каля тысячы. Вялікая колькасць гэтых дзяцей пакутуе ад захворванняў цэнтральнай нервовай сістэмы і дэфектаў развіцця. Да 80 працэнтаў дзяцей, якія знаходзяцца на ўтрыманні дзяржавы, маюць жывых бацькоў, якія або пакінулі іх у радзільных дамах, або былі пазбаўлены бацькоўскіх правоў.

**Аляксандр МАКАРАЎ.**

## ДЗІЦЯЧЫЯ САДКІ: ЖЫЦЦЁ ЛЕДЗЬ ТЛЕЕ

**Прынцып «Усё лепшае — дзецям» дзейнічае ў нашым грамадстве далёка не заўсёды. Яркае пацвярджэнне таму — сітуацыя, якая склалася на цяперашні час у дзіцячых садах г. Мінска.**

У сувязі з цяжкім эканамічным становішчам па рашэнню Мінгарвыканкома на летні час рэжым іх работы быў зменены і часовая планка працоўнага дня зніжана да 10,5 гадзіны замест звычайных 12 гадзін у суткі. Гэта мера дала магчымасць перавесці дзетак з чатырохразовага на трохразовае харчаванне ў дзень, а расходы на яго знізіць з 15 да амаль што 12 тысяч у суткі. Зрэшты, ні тая, ні другая сума не ў стане пакрыць натуральную норму дзіцячага харчавання. Знаходжанне дзіцяці ў садзе абыходзіцца сёння дзяржаве прыкладна ў 700 тыс. рублёў у месяц, у той час як бацькі плацяць толькі 90 тысяч рублёў. Дзеля справядлівасці трэба сказаць, што далёка не ўсім бацькам гэтыя грошы здаюцца невялікімі.

Сур'ёзна закранула змяненне рэжыму дзіцячых садкоў і інтарэсы педагогаў. Скарачэнне штату для іх ужо становіцца рэальнасцю: у мэтах эканоміі сродкаў закрываецца частка дзіцячых садоў, а няпоўныя групы (норма наведвання ясельных груп складае 15 дзяцей у дзень, садаўскай — 20 чалавек, і калі прыйдуць на 1-2 дзіцяці менш, група лічыцца ўжо няпоўнай) аб'ядноўваюцца. Такім чынам, з 4 выхвальнікаў адзін аўтаматычна вызваляецца. Скарачэнне рабочага дня прывяло да таго, што педагогі працуюць не на поўную стаўку, але гэта адзіная магчымасць пазбегнуць скарачэння штату і захаваць за сабой рабочыя месцы. А перспектывы ў гэтай сферы далёка не радасныя — 1000 работнікаў дзіцячых дашкольных устаноў (сёння ў Мінску дзейнічаюць 249 выканкомаўскіх садкоў) можа ў бліжэйшай будучыні папоўніць армію беспрацоўных.

Ці зменіцца што-небудзь да восені — пакажа час.

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# КУДЫ ЗАКІНЕ ЛЁС СТУДЭНТА ЛЕТАМ, або Што шукае сённяшняя моладзь: рамантыку ці грошы

**Як вядома, студэнцкае жыццё складаецца не толькі з гадзін, праведзеных у бібліятэках і на лекцыях, з бяссонных начэй перад экзаменамі і курсавых работ, напісаных па традыцыі за некалькі сутак. З заканчэннем летняй сесіі ў навучальных установах студэнцкае жыццё зусім не канчаецца, а пачынаецца новы яго этап — ударна-працоўны — у студэнцкіх будатрадах. Пачынаецца ці пачынаўся? Ці змянілася што-небудзь з тых часоў, калі студэнты ехалі падымаць сельскую гаспадарку краіны не толькі па свайму жаданню, але часта і насуперак яму?**

Раней фарміраваннем студэнцкіх будатрадаў на час летніх канікулаў у рэспубліцы займаўся Рэспубліканскі штаб студэнцкіх атрадаў. У лютым 1994 года на яго базе была створана новая грамадская арганізацыя — Ліга добраахвотнай працы моладзі, якая пачала сваю дзейнасць практычна з нуля. Сёння сяк-так існаваць ёй дапамагаюць рэгістрацыйныя ўзносы ўдзельнікаў, а таксама фінансавая падтрымка з боку Камітэта па справах моладзі Мінгарвыканкома і Рэспубліканскага камітэта моладзі.

Па словах выканаўчага дырэктара лігі Міхаіла Мятлікава, колькасць тых, хто адпраўляецца гэтым летам з будатрадамі, у параўнанні з мінулымі гадамі знізілася амаль у 2 разы, што тлумачыцца цяжкай эканамічнай сітуацыяй у гаспадарках, якія цяпер не ў стане плаціць за работу не толькі гараджанам, але нават сваім работнікам.

**Дзе будзе працаваць беларускі студэнт?**

На тэрыторыі Беларусі ў бягучым годзе не будзе дзейнічаць ні адзін студэнцкі лагер. У Прыднястроўе адправяцца 450 нашых студэнтаў, у Стаўрапольскі край — 800. У летнія лагеры працы і адпачынку ў Крым, як плануецца (праўда, канчатковая дамоўленасць яшчэ не дасягнута), паедуць яшчэ 200 хлопцаў і дзяўчат. У Краснадарскі край, па эканамічных меркаваннях, беларускія будатрады сёлетнім летам не адпраўляюць. І 50 хлопцаў (а планавалася 100) паедуць у далёкі Мурманск.

**Мяркуемы фронт работ**

У Стаўраполлі і Прыднястроўі 90 працэнтаў усіх работ складзе ўборка памідораў і перцу, у Крыму ж студэнты будуць «кінуты» на ўборку садавіны. А ў Мурманску нашых студэнтаў чакаюць будаўнічыя і земляныя работы, якія не патрабуюць спецыяльнай кваліфікацыі.

Дарэчы, у бягучым годзе не было заключана ні адной дамовы з чыгункай на працу ў летні час студэнтаў у якасці праваднікоў цягнікоў. Прычына — дэфіцыт працоўных месцаў у гэтай галіне плюс нязначнае павелічэнне колькасці маршрутаў у гэтым сезоне.

**Дарога**

Ліга добраахвотнай працы моладзі заўсёды заключае дамовы, па якіх бок, што запрашае, аплачвае тым, хто напраўляецца да іх на працу, праезд. Менавіта па гэтай прычыне геаграфія падарожжаў беларускіх студэнтаў значна звузілася: Цюмень, Сыктыўкар, Якуція, Іркуцк выпалі толькі таму, што выдаткі на дарогу зраўнаваліся сёння з заработнай платай на месцах і гаспадаркам стала эканамічна нявыгадна звяртацца па дапамогу моладзі, якая выкарыстоўваецца, у асноўным, толькі ў якасці падсобнай сілы.

**Як будзе аплачвацца праца?**

У мінулым годзе зарплата студэнтаў склала ад 50 да 130$, атрыманых «чыстымі» на рукі. Як усё абернецца цяпер, загадваць цяжка. Так, калі ў Стаўраполлі са студэнтамі разлічацца расійскімі рублямі, то ў Прыднястроўі, пры сярэдняй заработнай плаце 5—10$ у месяц, расплачвацца грашыма не мае ніякага сэнсу. Таму дамовы заключаюцца толькі на ўмовах натуральнай аплаты, г. зн. 10 працэнтаў ад сабранага ўраджаю пойдуць у лік аплаты працы студэнтаў. Што з ім далей рабіць, яны вырашаць самі: ці прадаць гаспадарцы, у якой працавалі, ці рэалізаваць праз гандлёва-закупачныя фірмы па ўзгодненай з імі цане, балазе, у іх сёння няма дэфіцыту. Можна, вядома, рызыкнуць і прадаць ураджай адразу на месцы самому, а можна нават паспрабаваць прывезці яго бацькам. Адным словам, каму што падабаецца і хто якую мае магчымасць.

**Хто такія валанцёры?**

Валанцёры — новы накірунак работы Лігі добраахвотнай працы моладзі. Валанцёр — чалавек, які працуе дарма. Як правіла, гэта праца на сацыяльных аб'ектах: экалогія, рэстаўрацыя і археалогія, работа са старымі, дзецьмі і інвалідамі. Для Беларусі практыка міжнародных лагераў добраахвотнай працы яшчэ не зусім звыклая справа. Толькі ў снежні 1995 года ліга ўвайшла ў Каардынацыйны камітэт міжнароднай добраахвотнай службы, што дазволіла ёй не толькі павялічыць колькасць валанцёраў, якія прадстаўляюць нашу рэспубліку, але і значна пашырыць геаграфію іх паездак. На сённяшні дзень гэта ўсе краіны Заходняй Еўропы, ЗША, Канада, Японія і некаторыя краіны Азіі.

Трэба адзначыць, што ў гэтым выпадку гаворка ідзе не аб групавых, а аб індывідуальных паездках. Студэнцкія атрады дармовай працы налічваюць звычайна 15—20 чалавек (па 1-2 прадстаўнікі з кожнай краіны), а працягласць міжнародных лагераў — каля трох тыдняў. Дарэчы, знаходжанне за мяжой і страхоўка валанцёрам цалкам аплачваюцца запрашаючым бокам, а вось праезд да месца прызначэння і афармленне дакументаў выязджаючы аплачвае сам. Застаецца дабавіць, што гэтым летам у краіны Заходняй Еўропы рушаць 200 беларускіх студэнтаў, у Беларусі ж у сваю чаргу будуць працаваць 30 валанцёраў «адтуль» плюс 40 уласных добраахвотнікаў.

**Як папоўніць шэрагі будатрадаўцаў?**

Фарміраванне студэнцкіх будатрадаў адбываецца вельмі адкрыта на конкурснай аснове. Але, па-першае, ніхто не стане гутарыць з адзіночкамі, і дамоўленасць можа быць дасягнута толькі з навучальнай установай па калектыўнай заяве. Па-другое, перавага аддаецца тым, хто згодны з умовамі і раней за іншых звярнуўся з заяўкай у лігу. Так што тых, хто сёлета спазніўся, інфармацыя аб тым, што на гэты сезон усе будатрады ўжо ўкамплектаваны, магчыма, засмуціць. На будучыню ж трэба мець на ўвазе, што да мая іх фарміраванне ўжо звычайна заканчваецца. А адбор жадаючых дарма працаваць у міжнародных лагерах завяршаецца яшчэ раней — да сакавіка-красавіка. У цэлым жа сёння ліга ў стане задаволіць жаданне працаваць толькі аднаго з дзесяці.

**Чаму будатрады сярод моладзі такія папулярныя?**

Трэба заўважыць, што студэнты не становяцца менш рамантычнымі. Ды, зрэшты, і грошы ніколі нікому не заміналі. Ці варта ўспамінаць тут аб унікальнай магчымасці адпачыць, не патрабуючы бацькоўскіх грошай? Урэшце, любой з трох вышэйназваных прычын дастаткова, каб растлумачыць устойлівую цікавасць з боку няўрымслівай моладзі да стаўшай з некаторага часу добраахвотнай працы.

**Што рабіць тым, хто застаўся за бортам?**

Можна паспрабаваць працаўладкавацца самому ці нават адправіцца на заробкі за мяжу. Але не спяшайцеся ў гэтым выпадку прадаваць сваю працоўную сілу раней, чым упэўніцеся ў статусе вашага працадаўцы і не атрымаеце сталых гарантый аплаты вашай працы.

У рэшце рэшт, летам можна проста адпачыць ад няўдалых спроб ўладкавацца на працу і памарыць, што да заканчэння ВНУ (калі ў вас ёсць яшчэ, канешне, час) вам ўсё-такі пашчасціць убачыць другі бок студэнцкага жыцця — рамантычна-ўдарна-працоўны...

**Надзея НІКАЛАЕВА.**

# У СТУДЭНТЫ Б Я ПАЙШОЎ...

АПОШНІ ЗВАНОК, выпускны экзамен, урачысты і адначасова сумны школьны баль. Усё гэта зусім недалёкае, але ўжо мінулае. Наперадзе не менш адказнае выпрабаванне — паступленне ў ВНУ. Трэба меркаваць, што свае схільнасці вы ведаеце добра, таму засталося зрабіць галоўнае — выбраць навучальную ўстанову. Балазе, сёння ёсць з чаго выбіраць.

## ДЗЯРЖАЎНЫЯ ВНУ

Калі вы маеце намер атрымаць першую вышэйшую адукацыю і прычым зрабіць гэта бясплатна, то дзяржаўныя ВНУ — ваш шанц. Сёлетнія ўмовы прыёму ў іх мала адрозніваюцца ад традыцыйных. Па-ранейшаму абітурыент павінен прайсці праз ланцужок збору дакументаў (у прыёмную камісію падаюцца заява на імя рэктара, арыгінал пасведчання аб сярэдняй адукацыі, фотакарткі і медыцынская даведка), праз 3—5 уступных экзаменаў, і, нарэшце, праз конкурс набраных на іх балаў. Формула няхітрая, але не ўсё так проста. Таму парада: перад тым, як падаваць дакументы, дакладна вызначце свой цяперашні статус — магчыма, для вас існуюць пэўныя льготы.

## ІЛЬГОТЫ

Перш-наперш, яны прадугледжаны для воінаў-інтэрнацыяналістаў, круглых сірот і дзяцей, што засталіся без апекі бацькоў, для дзяцей з сем'яў, у якіх ёсць загінуўшыя ў час праходжання вайсковай службы, для інвалідаў I і II груп і ліквідатараў аварыі на ЧАЭС. Гэтыя катэгорыі абітурыентаў пры атрыманні імі станоўчых адзнак на ўступных экзаменах залічваюцца ў ВНУ па-за конкурсам.

Карыстаюцца пэўнымі перавагамі медалісты, а таксама асобы, якія атрымалі пасля заканчэння сярэдняй спецыяльнай навучальнай установы дыплом з адзнакай. Праўда, у дадзеным выпадку льготы могуць быць рознымі. Усё залежыць ад канкрэтнай навучальнай установы. Таму недзе, каб стаць студэнтам, медалісту дастаткова прайсці субяседаванне, недзе патрэбна здаць на «выдатна» першы экзамен, а недзе — нават два. З іншага боку, у некаторых ВНУ (як, напрыклад, у Мінскім дзяржаўным лінгвістычным універсітэце) медаль вялікай ролі не адыгрывае: прыйдзецца здаваць усе экзамены без выключэння.

Як правіла, залічваюцца без уступных экзаменаў пераможцы (I, II і III месцы) міжнародных і рэспубліканскіх прадметных алімпіяд. «Прызёраў» абласных алімпіяд чакае крыху меншая, але таксама істотная прывілея — адзнака «пяць» на адпаведным уступным экзамене. Зрэшты, усё зноў-такі вызначаецца ўмовамі прыёму ў канкрэтную ВНУ.

Нарэшце, нельга абысці ўвагай і так званыя мэтавыя наборы. Іх сэнс у тым, каб вырашыць праблему недахвату кадраў у пэўных рэгіёнах рэспублікі, і ў першую чаргу — у сельскіх і «чарнобыльскіх» раёнах. Пры мэтавым наборы абітурыент мусіць заключыць з ВНУ дамову, паводле якой ён бярэ на сябе абавязкі пасля заканчэння вучобы адпрацаваць не менш як 2 гады ў той ці іншай мясцовасці. У сваю чаргу навучальныя ўстановы браніруюць для іх пэўную колькасць месцаў. Не трэба спадзявацца, што «мэтавікі» ўвогуле пойдуць па-за конкурсам. Але для іх конкурс будзе асобны і, зразумела, значна ніжэйшы за агульны.

Каб выкарыстаць гэтую льготу, абітурыент павінен узяць спецыяльнае накіраванне ў райана па месцы жыхарства. Паводле новых правілаў прыёму у ВНУ, прэтэндаваць на такія накіраванні могуць толькі выпускнікі гэтага года, прычым тыя з іх, у чыіх атэстатах няма троек.

## «ПЛАТНІКІ»

Назва гаворыць сама за сябе. Гэта катэгорыя абітурыентаў, якая залічваецца ў дзяржаўную ВНУ па-за конкурсам, але вымушана плаціць за гэта грошы. Канкрэтныя лічбы называць цяжка, бо дыферэнцыяцыя існуе не толькі паміж рознымі навучальнымі ўстановамі, але нават у межах адной з іх.

Напрыклад, сёлета ўсе спецыяльнасці ў Белдзяржуніверсітэце падзелены на дзве ўмоўныя групы. Кошт дзённага навучання на больш прэстыжных з іх (правазнаўства, псіхалогія, міжнародныя адносіны і г. д.) складае: для тых, хто не прайшоў па конкурсу, — 900 долараў у год, хто вырашыў абмежавацца толькі субяседаваннем — 1500 і для тых, хто мае намер атрымаць другую вышэйшую адукацыю (якая ў любым выпадку будзе платнай), — тыя ж 1500 долараў. За астатнія спецыяльнасці плаціць трэба адпаведна 500, 950 і 1000 долараў у год. Адчуйце, як кажуць, розніцу.

Разам з тым зусім не абавязкова, што студэнт-«платнік» будзе выкладваць уласныя грошы на працягу ўсіх пяці гадоў. Пры пэўнай настойлівасці (заканчэнне 1 курса на «выдатна») і спрыяльным збегу абставінаў (наяўнасці вакантных бюджэтных месцаў) навучанне працягнецца за кошт дзяржавы. Што, між іншым, даволі справядліва.

## НЕДЗЯРЖАЎНЫЯ ВНУ

Яны з'явіліся параўнальна нядаўна, прыкладна пяць гадоў таму, а сёння на Беларусі налічваецца ўжо 19 недзяржаўных вышэйшых навучальных устаноў. Навучанне ў такіх ВНУ абавязкова платнае (ад 500 да 1000 долараў у год), а ўмовы прыёму — спрошчаныя (звычайна ўсё абмяжоўваецца толькі субяседаваннем).

Аднак не варта скептычна ўсміхацца — насуперак распаўсюджанай думцы гэта ўстановы не для тых, у каго ў кішэні густа, а ў галаве пуста. Справа ў тым, што ў такіх студэнтаў не зацікаўлены самі недзяржаўныя ВНУ, якія імкнуцца трымаць «гонар маркі» хаця б для таго, каб атрымаць адпаведную акрэдытацыю Міністэрства адукацыі, а з ёй і права выдаваць дыпломы дзяржаўнага ўзору. На сёння акрэдытаваных ВНУ у нас, дарэчы, усяго шэсць — Беларускі недзяржаўны інстытут правазнаўства, Інстытут кіравання, Інстытут кіравання і прадпрымальніцтва, Інстытут сучасных ведаў, Камерцыйны інстытут прадпрымальніцкай дзейнасці і Міжнародны інстытут працоўных і сацыяльных адносінаў.

**P.S.** *Такім чынам, пэўную інфармацыю аб сёлетніх умовах прыёму ў ВНУ вы атрымалі. Таму вызначайцеся, прычым як мага хутчэй — апошні тэрмін прыёму дакументаў у большасці навучальных устаноў заканчваецца ўжо 15 ліпеня.*

*Ні пуха, ні пер'я!*

**Сяргей ГРЫБ.**

# КУПАЛЛЕ СВЯТКУЮЦЬ ПА СОНЦУ









**На зыходзе летняга сонцазвароту ў ноч з 23 на 24 чэрвеня, як спрадвеку нашыя продкі, сабраліся разам моладзь, дзеці і сталыя людзі, каб уславіць Сонца, Жыццё, Каханне.**

**Абрад Купалля на тэрыторыі Беларусі апісваўся ў крыніцах як успамін яшчэ ў XII ст. Гэты рытуал існаваў дзеля абароны і ачышчэння свету ад сіл цемры і зла. Скарачэнне светлавога дня, наступ цемры ў фальклоры атаясамліваліся са з'яўленнем сатаны ў зямны свет. У «Слоўніку царкоўнаславянскай і рускай мовы» ёсць тлумачэнне: «купа» — груда, натоўп; «купала» — расліна, «Купаленка» — кветка.**

**Нашы продкі адчувалі сябе істотамі не толькі зямнымі, але й касмічнымі, таму ў ноч, перад наступствам сіл цемры, лічылася недапушчальным спаць, людзі збіраліся, каб супрацьстаяць сілам зла, перамагчы іх у цэлым свеце, а найперш у саміх сабе. Усім вядома дваістасць свету: свет і цемра, жыццё і смерць, мужчына і жанчына, дабро і зло. Увесь фальклор беларусаў грунтуецца на гэтым.**

**Вось таму тыя, хто не страціў яшчэ сувязі з касмічнай прасторай, хто шануе сваіх дзядоў ды іх традыцыі, штогод збіраюцца на пагорках ля вады, каб заспяваць гімн жыццю. Вось і сёлета ля Дзяржаўнага беларускага музея народнай архітэктуры і побыту з дапамогаю дырэктара сп. Георгія Ткацэвіча ды супрацоўнікаў музея сабраліся студэнты, ліцэісты, навуковыя супрацоўнікі, рабочыя, нават міліцыянты й бізнесмены, каб разам адсвяткаваць Купалле. На ўсіх былі палатняныя кашулі, расшытыя магічнымі знакамі арнаменту. Дзяўчаты з траў ды кветак святаянніку, крапівы, рамонкаў, палыну і васількоў нарабілі вянкоў. Мужчыны і хлопцы пасярод паляны ўсталявалі дрэва з колам, абклалі яго сушняком. Прыгажэйшага й больш вартага Князя-Купаліша, як Магістра рыцарскага клуба, Дзмітрыя Несцюка ды пяшчотней, чым наша прыгажуня-спявачка Настачка Насута абраць было немажліва. Яны так гарманічна спалучаліся адно з адным і ўпрыгожвалі сабой не толькі нашу святую ноч, але й увесь белы свет! А дружына Купаліша ў рыцарскіх даспехах ды сапраўдных кальчугах, зробленых імі ўручную! Лепшага спевака, як саліст фальклорнага гурта «Дзянніца» Іван Агееў знайсці цяжка!**

**Усіх прысутных ахапіла пачуццё адзінай стыхіі, дзе кожны быў удзельнікам. Гэта быў сапраўдны абрадавы магічны тэатр! Карагоды, песні, скокі праз агонь да самай раніцы. Спусцілі палаючае кола з пагорка ў воды Пчіцы, пакачаліся на золку ў гаючай расе, выкупаліся ў возеры і, як бы нанава нарадзіўшыся, сустрэлі першыя промні наступнага дня песняй. Агульнае застолле завяршыла абрад. Быў тут і крупнік на духмяных зёлках з мёдам ды гарэлкай і пірагі з сырам ды цыбуляй! Усё як трэба. Наступіла раніца панядзелка. Адны спяшаліся на працу, іншыя хваляваліся перад іспытамі ці нават абаронаю дыплома. І толькі рэдкія шчаслівчыкі маглі сабе дазволіць выспацца пасля гэткай бурнай ночы.**

**Купалле падвяло рысу доўгім дням, праз пяць сутак надыходзіць Пятро, пачнецца пакос траў, за ім жніво.**

**Нам смешна робіцца, калі Купалле па загаду пераносіцца на нейкі іншы дзень. Як можна перанесці нараджэнне ці смерць па нейкаму загаду?!!**

**Валянціна ЯКІМОВІЧ.**

***Фота Анатоля Клешчука.***

## СПОРТ-ЭКСПРЭС

### НЕМЦЫ — ЧЭМПІЁНЫ ТРЭЦІ РАЗ

**Фінальная гульня на чэмпіянаце Еўропы ў Англіі, у якой зышліся трохразовыя чэмпіёны свету зборная Германіі і каманда Чэхіі, поспехі якой на міжнароднай арэне значна больш сціплыя, выклікала небывалы ажыятаж.**

У Лондан тэрмінова прыбылі канцлер ФРГ Гельмут Коль і прэзідэнт Чэшскай Рэспублікі Вацлаў Гавел. А сярод ганаровых гасцей на «Уэмблі» значылася і англійская каралева Елізавета II, тронны стаж якой складае 44 гады.

Як ні дзіўна, але і англійскія балельшчыкі не былі супраць «пабалець» за зборную Чэхіі, паколькі немцы абыгралі іх куміраў у паўфінале, і таму англійскія фаны вырашылі хоць сваімі галасамі паўплываць на ход гульні.

Абедзве каманды перад пачаткам гульні былі ўпэўнены, што сцэнарый трохтыднёвай даўнасці, калі Германія без асаблівых клопатаў абыграла падначаленых Душана Угрына — 2:0, не паўторыцца, што пацвердзілася ў ходзе матча. Колішнія нашы сапернікі па адборачнай падгрупе звязвалі свае надзеі на ўзыходзячую зорку чэшскага футбола Карэла Пабарскі, якому перад фінальнай сустрэчай ужо сем замежных клубаў прапанавалі выгадныя кантракты. Аднак Паборскі на гэты раз нічым не казырнуў і быў заменены.

Насуперак усім доктарскім перасцярогам на гульню выйшаў траўміраваны капітан нямецкай зборнай Юрген Клінсман, які пасля чвэрцьфінальнай сустрэчы з харватамі цэлых шэсць дзён не мог нават бегаць трусцой. Аб трэніроўках не магло быць і размовы. Канешне, Клінсман на гэты раз не мог паказаць сябе на ўсе сто працэнтаў, аднак для немцаў важным была прысутнасць капітанскага духу. А галоўную скрыпку ў камандзе адыграў Олівер Бірхоф, які выйшаў на замену за 12 хвілін да канца сустрэчы. Можна не сумнявацца, што сваім ударам напачатку дадатковага часу ён не толькі скарыстаў правілы залатога гола, што дало магчымасць стаць Германіі трохразовым чэмпіёнам кантынента, але і прымусіў каманду дараваць грубую памылку італьянскаму арбітру П'еру Луіджы Парэйры, якая магла каштаваць Германіі залатых медалёў.

Наступны чэмпіянат Еўропы пройдзе ў 2000 годзе ў Галандыі і Бельгіі адначасова.

### ВОЧНАЯ СТАЎКА ЛІДЭРАЎ: НА КОН СТАВІЦЦА РЭПУТАЦЫЯ

**Заўтра на сталічным стадыёне «Дынама» адбудзецца, без сумненняў, цэнтральны матч першага круга VI чэмпіянату Беларусі. У вочным паядынку сустракаюцца лідэры сёлетняга першынства — сталічныя дынамаўцы і мазырскі МВКЦ. Ад выніку сустрэчы залежыць вельмі многа. Выйграюць гаспадары — і яны амаль кампенсуюць страчаныя ачкі перад мазыранамі. Пройгрыш фактычна пакідае мінчан на няпэўны час за бортам прэтэндэнтаў на лідэрства.**

Мяркуючы па перадматчавай падрыхтоўцы, каманды сур'ёзна рыхтуюцца да аўдыенцыі, аб чым сведчаць вынікі 11-га тура. Палескія футбалісты разграмілі дома «Белшыну» — 5:1, а чэмпіёны рэспублікі паразілі уменнем наваполацкі «Нафтан», забіўшы шэсць галоў.

Нечакана для ўсіх прайгралі ў родных сценах дынамаўцы-93, якія ў апошніх сустрэчах з лідэрамі нарабілі многа шуму, атрымаўшы над імі перамогі. І крыўдзіцелем падначаленых Віктара Сокала стаў не хто іншы, як рэчыцкі «Ведрыч» — аўтсайдэр цяперашняга першынства. Аднак, як сведчаць факты, «Ведрыч» лічыцца традыцыйна нязручным сапернікам для «Дынама-93».

З іншых вынікаў можна выдзеліць перамогу магілёўскага «Дняпра» над землякамі — тарпедаўцамі. Лік — 2:1. Матч «Маладзечна» — «Абутнік» прынёс перамогу гаспадарам — 1:0. Астатнія сустрэчы завяршыліся ўнічыю.

Лакаматыў-96 — Дынама (Бр) — 1:1

Нёман — Тарпеда (Мн) — 0:0.

### ШАНЦ ЗАСТАЕЦЦА

**Нечаканы працяг атрымала выступленне мінскай «Атакі-Аўры» ў розыгрышы Кубка Інтэртота.**

Пасля разгромнага пройгрышу ў дамашняй сустрэчы ад валгаградскага «Ротара» — 0:4, беларусы выйгралі на выездзе ў данецкага «Шахцёра» — 2:1, які папярэднюю гульню ў Швейцарыі супраць мясцовага «Базеля» звёў унічыю — 2:2. Дарэчы, сталічныя футбалісты па ходу гульні прайгравалі і толькі пад канец першага тайма ім удалося зраўнаваць лік. А пераможную кропку за 5 хвілін да фінальнага свістка паставіў Юрый Малееў.

**Уладзімір ЗДАНОВІЧ.**

## НА МІНСК «ЗВАЛЯЦЦА» 16 ТЭЛЕКАНАЛАЎ

З наступнага месяца жыхары сталічных мікраараёнаў «Малінаўка» і «Паўднёвы Захад» пры жаданні змогуць прымаць на свае тэлевізійныя прыёмнікі 16 каналаў. Дарэчы, іх трансляцыя на ўвесь Мінск ажыццяўляецца беларуска-амерыканскім СП «Космас-ТВ» ужо зараз, але кабельныя сеткі горада, на жаль, не дазваляюць паўсюдна далучацца людзям да гэтага пакуль невядомага «цуда цывілізацыі» — мноства разнастайных тэлевізійных праграм. Не выпадкова менавіта «Малінаўка» і «Паўднёвы Захад» абраны ў якасці доследнай зоны, дзе будуць праходзіць «выпрабаванні» — у гэтых мікраараёнах лягчэй наладзіць неабходную інфраструктуру.

Як паведаміў «Звяздзе» генеральны дырэктар «Космас-ТВ» Віктар Кірылаў, усе 16 каналаў будуць падзелены на два «пакеты». У першы ўвойдуць ужо знаёмыя нам ГРТ, канал «Расія» і БТ («традыцыйныя» расійскія каналы будуць дэманстравацца ў поўным аб'ёме), а таксама асобна некалькі невядомых пакуль беларускім гледачам расійскіх праграм і дадаткова — музычны французскі канал. Кошт на прыёму гэтага «пакета» для грамадзян павінен вызначыць гарвыканком.

У другі пакет, які самастойна будзе прапаноўваць гледачам «Космас-ТВ», увойдуць дзіцячы канал з «мульцікамі» з раніцы да позняга вечара, канал класічных замежных фільмаў, канал навін CNN, магчыма, канал «Еўраспорт» і іншыя. Некаторыя з іх будуць выходзіць на рускай мове або з перакладам, некаторыя — на замежнай. Мяркуецца, што кошт прыёму ўсіх 16 каналаў складзе 18 долараў у месяц.

Уключым тэлевізары?

**Сяргей РАСОЛЬКА.**

## ПАРТЫЙНЫЯ «ЗАРУЧЫНЫ» САЦЫЯЛ-ДЭМАКРАТАЎ

**Працэс узбуйнення беларускіх партый, які пачаўся яшчэ ў мінулым годзе з утварэння Аб'яднанай грамадзянскай партыі на аснове Грамадзянскай і Аб'яднанай дэмакратычнай, сёлета атрымаў лагічны працяг. 29 чэрвеня ідэі сацыял-дэмакратыі максімальна зблізілі яшчэ дзве партыйныя арганізацыі краіны: Беларускую сацыял-дэмакратычную грамаду і Партыю народнай згоды. Як вядома, БСДГ і ПНЗ доўгі час былі ядром палітычнага і перадвыбарнага блоку «Сацыял-дэмакратычны саюз» і маюць адзіную фракцыю ў Вярхоўным Савеце.**

Спачатку кожная з партый правяла асобны з'езд, каб прыняць важнае рашэнне законным чынам, даведаўшыся думку ўсіх мясцовых арганізацый. Большасць дэлегатаў як БСДГ, так і ПНЗ падтрымалі ідэю аб'яднання, хаця былі і тыя, хто рэзка выказаўся супраць. Напрыклад, былы лідэр «грамадоўцаў» Алег Трусаў лічыць, што пасля аб'яднання БСДГ згубіць сваю самабытнасць і свой ранейшы твар. А «згодавец», дэпутат Вярхоўнага Савета Уладзімір Нісцюк мяркуе, што ў выніку аб'яднання ПНЗ будзе паглынута Грамадой.

Тым не менш, падобныя пазіцыі асобных дэлегатаў не паўплывалі на канчатковы вынік абодвух з'ездаў. Статут і праграма новай партыі створаны на аснове праграмных дакументаў Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады, дзе ідэі сацыял-дэмакратыі сфармуляваны больш дасканала і канкрэтна. На агульным аб'яднаўчым з'ездзе было абрана і кіраўніцтва новай арганізацыі, якая, дарэчы, атрымала назву Беларускай сацыял-дэмакратычнай партыі «Народная грамада», былі абраны кіруючыя і выканаўчыя органы: Цэнтральны камітэт і Выканаўчае бюро. На чале камітэта стаяць лідэры дзвюх партый: Мікалай Статкевіч і Леанід Сечка. Каб паміж імі не ўзнікала спрэчак, адразу ж былі падзелены і іх функцыі. Такім чынам Леанід Сечка засяродзіцца на парламенцкай дзейнасці партыі і па-ранейшаму будзе ўзначальваць фракцыю «Саюз працы», а Мікалай Статкевіч зоймецца пазапарламенцкім жыццём арганізацыі. Дарэчы, на з'ездзе ПНЗ змяніла ранейшую назву на Сацыял-дэмакратычную партыю. Па-першае, такім чынам партыя хоча дыстанцыяніравацца ад фракцыі «Згода» і пазбегнуць блытаніны на выбарах, а па-другое, адкрыта заяўляе пра сацыял-дэмакратычны накірунак дзейнасці.

Як сказаў у інтэрв'ю карэспандэнту «Звязды» Мікалай Статкевіч, працэс аб'яднання яшчэ рана лічыць закончаным. Справа ў тым, што аб'яднаўчы з'езд можна у нейкім сэнсе параўнаць з заручынамі. Яшчэ некаторы час самастойнае жыццё партый будзе замарожана, але арганізацыі не будуць ліквідаваны. Гэта патрэбна для падрыхтоўкі праграмных дакументаў, праходжання фармальных працэдур у Міністэрстве юстыцыі, звязаных з рэгістрацыяй партыі, а таксама для вызначэння магчымасці суіснавання арганізацый. Канчатковая ліквідацыя БСДГ і ПНЗ (зараз ужо СДП) адбудзецца пасля заканчэння восеньскіх давыбараў у парламент 15 снежня бягучага года.

Як стала вядома, ужо з'явіліся і першыя жадаючыя ўступіць у новую партыю. Сярод іх, у прыватнасці, экс-спікер беларускага парламента, дэпутат Мечаслаў Грыб.

**Юрась ЛЯШКЕВІЧ.**

# 50 вядучых палітыкаў

## У Маскве набліжаецца да фінішу прэзідэнцкі марафон, у Кіеве адпраўлены ў адстаўку кіраўнік

*Аляксандр КІНСБУРСКІ «Vox populi»,*

### 50 вядучых палітыкаў Беларусі ў маі

| №№ | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|---|
| | | Май | Красавік | |
| 1. | Лукашэнка Аляксандр Рыгоравіч | 7,16 | (7,06) | Прэзідэнт Рэспублікі Беларусь |
| 2. | Хадыка Юрый Віктаравіч | 5,74 | (3,02) | Намеснік старшыні Сойма Беларускага народнага фронту. |
| 3. | Ціхіня Валерый Гур'евіч | 4,84 | (4.92) | Старшыня Канстытуцыйнага суда. |
| 4. | Мясніковіч Міхаіл Уладзіміравіч | 4,69 | (4,57) | Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта. |
| 5. | Карпенка Генадзь Дзмітрыевіч | 4,49 | (3,98) | Намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». |
| 6. | Пазняк Зянон Станіслававіч | 4,28 | (3,87) | Лідэр Беларускага народнага фронту. |
| 7. | Замяталін Уладзімір Пятровіч | 4,13 | (3,83) | Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта. |
| 8. | Шарэцкі Сямён Георгіевіч | 4,08 | (4,43) | Старшыня Вярхоўнага Савета. |
| 9. | Ціцянкоў Іван Іванавіч | 3,92 | (4,04) | Кіраўнік спраў Прэзідэнта. |
| 10. | Агалец Валянцін Сцяпанавіч | 3,85 | (2,51) | Міністр унутраных спраў. |
| 11. | Шэйман Віктар Уладзіміравіч | 3,80 | (3,43) | Дзяржсакратар Савета бяспекі. |
| 12. | Ярмошын Уладзімір Васільевіч | 3,66 | (3,49) | Мэр Мінска. |
| 13. | Чыгір Міхаіл Мікалаевіч | 3,61 | (4,11) | Прэм'ер-міністр. |
| 14. | Віннікава Тамара Дзмітрыеўна | 3,56 | (3,15) | Старшыня Нацыянальнага банка. |
| 15-16. | Багданкевіч Станіслаў Антонавіч | 3,54 | (3,83) | Старшыня Аб'яднанай грамадзянскай партыі, лідэр фракцыі «Грамадзянскае дзеянне» у Вярхоўным Савеце. |
| 15-16. | Калякін Сяргей Іванавіч | 3,54 | (3,70) | Член Прэзідыума Вярхоўнага Савета, лідэр фракцыі камуністаў. |
| 17. | Новікаў Васіль Мікалаевіч | 3,28 | (3,09) | Першы намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета, фракцыя камуністаў. |
| 18-19. | Ганчар Віктар Іосіфавіч | 3,20 | (3,36) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». Кіраўнік эканамічнага суда СНД. |
| 18-19. | Дабравольскі Аляксандр Альгертавіч | 3,20 | (3,17) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». Намеснік старшыні Аб'яднанай грамадзянскай партыі. |
| 20. | Краўчанка Пётр Кузьміч | 3,10 | (3,28) | Дэпутат вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы». Старшыня Камісіі па міжнародных справах. |
| 21. | Гразнова Людміла Мікалаеўна | 3,00 | (1,57) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». |
| 22-23. | Сянько Уладзімір Лявонавіч | 2,97 | (3,51) | Міністр замежных спраў. |
| 22-23. | Шушкевіч Станіслаў Станіславіч | 2,97 | (2,66) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». |
| 24-25. | Кісель Рыгор Леанідавіч | 2,93 | (2,91) | Старшыня Нацыянальнай тэлерадыёкампаніі. |
| 24-25. | Лябедзька Анатоль Уладзіміравіч | 2,93 | (2,70) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». |
| 26. | Філарэт | 2,85 | (2,89) | Мітрапаліт Мінскі і Слуцкі. |
| 27. | Антановіч Іван Іванавіч | 2,80 | (2,21) | Намеснік міністра замежных спраў. |
| 28. | Капітан Васіль Сцяпанавіч | 2,70 | (2,40) | Генеральны пракурор. |
| 29. | Баршчэўскі Лявон Пятровіч | 2,69 | (2,91) | Намеснік старшыні Рады Беларускага народнага фронту. |
| 30. | Якубовіч Павел Ізотавіч | 2,67 | - | Галоўны рэдактар газеты «Советская Белоруссия». |
| 31. | Знавец Павел Кірылавіч | 2,62 | (2,21) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы». |
| 32. | Малумаў Юрый Георгіевіч | 2,61 | (2,66) | Намеснік Старшыні Вярхоўнага Савета, фракцыя «Згода». |
| 33. | Бухвостаў Аляксандр Іванавіч | 2,57 | (2,49) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы». Старшыня прафсаюза работнікаў аўтамабільнага і сельскагаспадарчага машынабудавання. |
| 34. | Ганчарык Уладзімір Іванавіч | 2,56 | (2,21) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Згода». Старшыня Савета Федэрацыі прафсаюзаў. |
| 35. | Каратчэня Іван Міхайлавіч | 2,49 | (2,51) | Выканаўчы сакратар СНД. Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Згода». |
| 36. | Шлындзікаў Васіль Міхайлавіч | 2,44 | (2,02) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Грамадзянскае дзеянне». Старшыня Камісіі па эканамічнай палітыцы і рэформах. |
| 37-38. | Грыб Мечаслаў Іванавіч | 2,43 | (1,72) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы». |
| 37-38. | Мацкевіч Уладзімір Аляксандравіч | 2,43 | (1,43) | Старшыня Камітэта дзяржаўнай бяспекі. |
| 39. | Слука Алег Георгіевіч | 2,41 | (2,26) | Памочнік Прэзідэнта. |
| 40. | Навумчык Сяргей Іосіфавіч | 2,38 | - | Прэс-сакратар Беларускага народнага фронту. |
| 41. | Цапкала Валерый Вільямавіч | 2,29 | (2,28) | Першы намеснік міністра замежных спраў. |
| 42. | Марыніч Міхаіл Афанасьевіч | 2,26 | (2,62) | Міністр знешніх эканамічных сувязяў. |
| 43. | Статкевіч Мікалай Віктаравіч | 2,25 | (1,15) | Старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай Грамады. |
| 44. | Посахаў Сяргей Аляксеевіч | 2,21 | (2,23) | Памочнік Прэзідэнта. |
| 45-46. | Катляроў Ігар Васільевіч | 2,18 | (2,04) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя камуністаў. Старшыня Камісіі па правах чалавека, нацыянальных пытаннях і сродках масавай інфармацыі. |
| 45-46. | Мальцаў Леанід Сямёнавіч | 2,18 | (2,21) | Міністр абароны. |
| 47-48. | Вячорка Вінцук Рыгоравіч | 2,16 | - | Намеснік старшыні Сойма Беларускага народнага фронту. |
| 47-48. | Нісцюк Уладзімір Пятровіч | 2,16 | (1,60) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы». |
| 49. | Абрамовіч Аляксандр Міхайлавіч | 2,13 | (2,70) | Намеснік кіраўніка Адміністрацыі Прэзідэнта. |
| 50. | Башарымаў Уладзімір Сямёнавіч | 2,10 | (2,26) | Дэпутат Вярхоўнага Савета, фракцыя «Саюз працы». Старшыня камісіі па бюджэту, падатках і фінансах. |

**«Независимая газета», Служба «Vox populi», ТАА «Скарына», 1996 г.**

### 50 вядучых палітыкаў Расіі ў маі

| №№ | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|---|
| | | Май | Красавік | |
| 1. | Ельцын Барыс Мікалаевіч | 8,51 | (8,31) | Прэзідэнт Расіі. |
| 2. | Чарнамырдзін Віктар Сцяпанавіч | 7,04 | (6,85) | Прэм'ер-міністр. |
| 3. | Зюганаў Генадзь Андрэевіч | 6,87 | (7,08) | Старшыня КПРФ, лідэр фракцыі камуністаў у Дзяржаўнай Думе. |
| 4. | Лужкоў Юрый Міхайлавіч | 6,85 | (6,71) | Мэр Масквы. Член Савета Федэрацыі. |
| 5. | Яўлінскі Рыгор Аляксеевіч | 6,22 | (5,57) | Лідэр фракцыі «ЯБЛоко» у Дзяржаўнай Думе. |
| 6. | Каржакоў Аляксандр Васільевіч | 6,20 | (6,24) | Начальнік службы бяспекі Прэзідэнта. |
| 7. | Прымакоў Яўген Максімавіч | 5,75 | (5,73) | Міністр замежных спраў. |
| 8. | Грачоў Павел Сяргеевіч | 5,22 | (5,65) | Міністр абароны. |
| 9. | Жырыноўскі Уладзімір Вольфавіч | 5,16 | (5,10) | Старшыня ЛДПР, лідэр фракцыі ЛДПР у Дзяржаўнай Думе. |
| 10. | Ілюшын Віктар Васільевіч | 5,04 | (5,71) | Першы памочнік Прэзідэнта. |
| 11. | Лебедзь Аляксандр Іванавіч | 4,93 | (5,04) | Дэпутат Дзяржаўнай Думы. |
| 12. | Барсукоў Міхаіл Іванавіч | 4,90 | (4,66) | Дырэктар Федэральнай службы бяспекі. |
| 13. | Селязнёў Генадзь Мікалаевіч | 4.87 | (4,83) | Старшыня Дзяржаўнай Думы, фракцыя камуністаў. |
| 14. | Саскавец Алег Мікалаевіч | 4,80 | (5,12) | Першы віцэ-прэм'ер. |
| 15. | Рабаў Мікалай Цімафеевіч | 4,76 | (4,84) | Старшыня Цэнтрвыбаркама. |
| 16. | Строеў Ягор Сямёнавіч | 4,75 | (5,02) | Старшыня Савета Федэрацыі, губернатар Арлоўскай вобласці. |
| 17. | Ягораў Мікалай Дзмітрыевіч | 4,71 | (5,28) | Кіраўнік Адміністрацыі Прэзідэнта. |
| 18. | Ліўшыц Аляксандр Якаўлевіч | 4,70 | (4,92) | Памочнік Прэзідэнта. |
| 19. | Алексій II | 4,69 | (4,46) | Патрыярх Маскоўскі і Усяе Русі. |
| 20. | Каданнікаў Уладзімір Васільевіч | 6,62 | (4,66) | Першы віцэ-прэм'ер. |
| 21. | Росель Эдуард Эдгардавіч | 4,60 | (4,12) | Губернатар Свярдлоўскай вобласці, член Савета Федэрацыі. |
| 22. | Скуратаў Юрый Ільіч | 4,54 | (3,98) | Генеральны пракурор. |
| 23. | Нямцоў Барыс Яфімавіч | 4,53 | (4,27) | Губернатар Ніжнегародскай вобласці, член Савета Федэрацыі. |
| 24-25. | Кулікоў Анатоль Сяргеевіч | 4,48 | (4,79) | Міністр унутраных спраў. |
| 24-25. | Купцоў Валянцін Аляксандравіч | 4,48 | (3,55) | Дэпутат Дзяржаўнай Думы, фракцыя камуністаў, першы намеснік старшыні КПРФ. |
| 26. | Дубінін Сяргей Канстанцінавіч | 4,47 | (4,63) | Старшыня Цэнтральнага банка. |
| 27. | Батурын Юрый Міхайлавіч | 4,46 | (4,57) | Памочнік Прэзідэнта. |
| 28. | Шайміеў Мінцімер Шарыпавіч | 4,24 | (4,90) | Прэзідэнт Рэспублікі Татарстан, член Савета Федэрацыі. |
| 29. | Фёдараў Святаслаў Мікалаевіч | 4,15 | (3,87) | Дэпутат Дзяржаўнай Думы, дэпутацкая група «Народаўладдзе», лідэр Партыі самакіравання працоўных. |
| 30-33. | Заўгаеў Доку Гапуравіч | 3,98 | (3,87) | Кіраўнік Чачэнскай Рэспублікі, член Савета Федэрацыі. |
| 30-33. | Нікалаеў Андрэй Іванавіч | 3,98 | (4,00) | Дырэктар Федэральнай пагранічнай службы. |
| 30-33. | Чубайс Анатоль Барысавіч | 3,98 | (3,20) | Кіраўнік Аналітычнага цэнтра перадвыбарнага штаба Б. Ельцына. |
| 30-33. | Ясін Яўген Рыгоравіч | 3,98 | (3,85) | Міністр эканомікі. |
| 34. | Сабчак Анатоль Аляксандравіч | 3,93 | (3,35) | Мэр Санкт-Пецярбурга. |
| 35-36. | Анпілаў Віктар Іванавіч | 3,91 | (3.06) | Лідэр руху «Працоўная Расія». |
| 35-36. | Масхадаў Аслан Аліевіч | 3,91 | (4,33) | Начальнік штаба узброеных фарміраванняў Чачэнскай Рэспублікі. |
| 37. | Тулееў Аман-гельды Малдагазыевіч | 3,83 | (3,96) | Старшыня заканадаўчага сходу Кемераўскай вобласці, член Савета Федэрацыі. |
| 38. | Панскоў Уладзімір Георгіевіч | 3,81 | (4.23) | Міністр фінансаў. |
| 39. | Гайдар Ягор Цімуравіч | 3,76 | (2,75) | Лідэр руху «Дэмакратычны выбар Расіі». |
| 40. | Сатараў Георгій Аляксандравіч | 3,73 | (3,69) | Памочнік Прэзідэнта. |
| 41. | Громаў Барыс Усеваладавіч | 3,72 | (2,45) | Прадстаўнік Міністэрства абароны ў МЗС. |
| 42. | Філатаў Сяргей Аляксандравіч | 3,69 | (2,88) | Кіраўнік перадвыбарнага штаба Б. Ельцына. |
| 43. | Кісялёў Яўген Аляксеевіч | 3,67 | (3,47) | Вядучы тэлепраграмы «Вынікі». |
| 44-45. | Вольскі Аркадзь Іванавіч | 3,57 | (2,85) | Прэзідэнт саюза прамыславікоў і прадпрымальнікаў. |
| 44-45. | Лук'янаў Анатоль Іванавіч | 3,57 | (3,19) | Дэпутат Дзяржаўнай Думы, старшыня камітэта па заканаўству, фракцыя камуністаў. |
| 46. | Малашанка Ігар Яўгенавіч | 3,52 | (3,78) | Кіраўнік тэлеканала НТБ. |
| 47-48. | Міхайлаў Вячаслаў Аляксандравіч | 3,48 | (3,45) | Міністр па справах нацыянальнасцей. |
| 47-48. | Сагалаеў Эдуард Міхайлавіч | 3,48 | (3.44) | Старшыня Усерасійскай дзяржаўнай тэлерадыёкампаніі. |
| 49-50. | Ілюхін Віктар Іванавіч | 3,47 | (3,42) | Дэпутат Дзяржаўнай Думы, фракцыя камуністаў, старшыня камітэта па дзяржбяспецы. |
| 49-50. | Рэсін Уладзімір Іосіфавіч | 3,47 | (3,49) | Першы намеснік прэм'ера ўрада Масквы. |

**«Независимая газета», Служба «Vox populi», 1996 г.**

# Беларускія парламентарыі працягваюць лабіраваць прыняцце Беларусі ў Савет Еўропы

**24—28 чэрвеня ў французскім горадзе Страсбургу прайшла трэцяя частка сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы. У ёй прынялі ўдзел і чатыры беларускія парламентарыі на чале з намеснікам Старшыні Вярхоўнага Савета Юрыем Малумавым. У наступны раз, у верасні, іх будзе пяць, яны будуць прадстаўляць усе фракцыі Вярхоўнага Савета.**

На парадку дня чэрвеньскай часткі сесіі Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы не было нейкіх незвычайных, сенсацыйных пытанняў. Разглядаліся праблемы адмены смяротнага пакарання ў тых краінах кантынента, дзе гэта яшчэ не зроблена; еўрапейскага культурнага і адукацыйнага супрацоўніцтва; кіраўнік Еўрапейскага банка рэканструкцыі і развіцця Жак Лараз'ер зрабіў справаздачу аб дзейнасці банка. Акрамя таго, былі актуальныя тэмы пераадолення наступстваў былой камуністычнай таталітарнай сістэмы ў краінах Усходняй Еўропы, абароны правоў меншасцей і інш.

Цікавасць парламентарыяў выклікалі даклад швейцарскага дэпутата Мюлемана аб сітуацыі ў Чачні і выніках паездкі спецыяльнай камісіі Савета Еўропы ў гэты рэгіён, а таксама даклад прадстаўніка Польшчы Івіньскага аб грамадзянскіх аспектах Дэйтанскіх і Эргуцкіх пагадненняў па Босніі і Герцагавіне. У бліжэйшых нумарах «Звязда» мяркуе пазнаёміць сваіх чытачоў з самымі цікавымі аспектамі названых дакладаў і дэбатах па гэтых праблемах, якія абмяркоўваліся падчас пасяджэнняў Парламенцкай асамблеі.

Беларускія парламентарыі ўдзельнічалі ў пасяджэннях ПАСЕ ў якасці спецыяльна запрошаных. Аднак галоўная праца для іх была іншай — сустракацца ў камітэтах, дэпутацкіх групах асамблеі, правесці як мага больш асабістых перагавораў з парламентарыямі, пераканаць іх у неабходнасці хутчэйшага прыняцця Беларусі ў Савет Еўропы. Ю. Малумаў, П. Краўчанка і іншыя тлумачылі падчас гэтых сустрэч сітуацыю ў Беларусі і ў цэлым лабіравалі прасоўванне далей нашай заяўкі. Нашы дэпутаты сустрэліся таксама з прэзідэнтам Парламенцкай асамблеі Савета Еўропы Лені Фішэр, пабывалі ў асноўных камітэтах, якія павінны даваць свае заключэнні пры прыняцці Беларусі, удзельнічалі ў пасяджэннях палітычных груп, што маюць у асамблеі вялікі ўплыў. Прычым, нашы дэпутаты разышліся па розных палітычных групах, паводле сваіх перакананняў і палітычных прыхільнасцей.

У цэлым трэба адзначыць, што нашым дэпутатам давялося, як і вясной, цярпліва тлумачыць сваім суразмоўцам сутнасць інтэграцыйных працэсаў паміж Беларуссю і Расіяй, якія пачаліся пасля падпісання 2 красавіка Дагавора аб супольніцтве, тлумачыць, што Беларусь пры гэтым застаецца незалежнай краінай і настойвае на сваім прыёме ў Савет Еўропы. Натуральна, што ацэнкі сітуацыі ў Беларусі, якія гучалі з вуснаў Юрыя Малумава і Анатоля Лябедзькі, былі розныя, але не настолькі, каб гэта магло з іх боку сапсаваць імідж Беларусі, бо як першы, так і другі перакананы ў неабходнасці інтэграцыі Беларусі ў гэтую прэстыжную еўрапейскую арганізацыю. Дарэчы, у Савеце Еўропы пачалі збіраць інфармацыю для будучых дакладаў пры ўступленні Беларусі ў гэтую арганізацыю, таму там цікавяцца нашай краінай і добра інфармаваны аб падзеях у нас. У прыватнасці, нашым дэпутатам давялося тлумачыць, што меў на ўвазе Прэзідэнт Беларусі А. Лукашэнка, які заявіў нядаўна аб кантролі ўладаў за грамадзянамі Беларусі, што выязджаюць з нашай краіны, і аб увядзенні больш жорсткіх умоў уезду і выезду з нашай краіны з 1 ліпеня 1996 года. Трэба прызнаць, што падзеі гэтага года, якія разгарнуліся ў Беларусі, рэзка ажывілі цікавасць да нашай краіны ў дзяржавах Еўропы. Да беларусаў, тым не менш, ставіліся ў Савеце Еўропы вельмі прыязна і ўсяляк давалі зразумець, што Еўропа не хоча «страціць» нашу краіну.

У цэлым кіраўнік беларускай парламенцкай дэлегацыі ў Савеце Еўропы Юрый Малумаў пазітыўна ацаніў вынікі працы беларускіх дэпутатаў у Страсбургу. Ён разлічвае, што пры такіх тэмпах узаемадзеяння наша краіна можа разлічваць на прыняцце ў Савет Еўропы ў студзені або красавіку наступнага года. Зразумела, калі нічога востра негатыўнага не адбудзецца за гэты час у нашай краіне. Трэба



• *Выступае Пятро КРАЎЧАНКА.*

зазначыць, што кіраўніцтва Савета Еўропы ідзе насустрач беларускім парламентарыям і выказвае ўсялякую падтрымку парламентарызму ў нашай краіне. У святле такіх падыходаў было прынята рашэнне аб павелічэнні колькасці спецыяльна запрошаных у ПАСЕ з Беларусі да пяці чалавек. Вядома, што з такой просьбай звярнулася кіраўніцтва Вярхоўнага Савета Беларусі, каб у Страсбургу былі прадстаўлены ўсе фракцыі нашага парламента. Натуральна, што ўпяцярох беларускія дэпутаты змогуць больш зрабіць для прасоўвання далей нашай заяўкі.

**Валер КАЛІНОЎСКІ.**

# Беларусі, Расіі і Украіны у маі

## урада, а ў Мінску узмацніўся палітычны уплыў кіраўнікоў сілавых ведамстваў і лідэраў апазіцыі.

***Міхаіл ПЕТРАЧОЎ «Независимая газета».***

### 50 вядучых палітыкаў Украіны ў маі

| №№ | Прозвішча, імя, імя па бацьку | Сярэдні бал | | Пасада |
|---|---|---|---|---|
| | | Май | Красавік | |
| 1. | Кучма Леанід Данілавіч | 8,59 | (8,00) | Прэзідэнт Украіны |
| 2. | Лазарэнка Павел Іванавіч | 7,26 | (5,55) | Прэм'ер-міністр, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 3. | Мароз Аляксандр Аляксандравіч | 7,18 | (6,84) | Старшыня Вярхоўнай Рады |
| 4. | Гарбулін Уладзімір Паўлавіч | 6,87 | (6,66) | Сакратар Савета нацыянальнай бяспекі пры прэзідэнце |
| 5. | Табачнік Дзмітрый Уладзіміравіч | 6,62 | (6,30) | Кіраўнік адміністрацыі прэзідэнта |
| 6. | Марчук Яўген Кірылавіч | 6,61 | (7,63) | Дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 7. | Сіманенка Пётр Мікалаевіч | 5,28 | (5,44) | Лідэр Камуністычнай партыі, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 8. | Юшчанка Віктар Андрэевіч | 5,20 | (4,91) | Старшыня праўлення Нацыянальнага банка |
| 9. | Емяц Аляксандр Іванавіч | 5,05 | (4,21) | Віцэ-прэм'ер, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 10. | Пуставойценка Валерый Паўлавіч | 4,90 | (4,36) | Міністр Кабінета Міністраў |
| 11–12. | Галаваты Сяргей Пятровіч | 4,72 | (4,21) | Міністр юстыцыі, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 11–12. | Чарнавіл Вячаслаў Максімавіч | 4,72 | (4,18) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр Народнага руху |
| 13. | Сірата Міхаіл Дзмітрыевіч | 4,55 | (—) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі «Цэнтр» |
| 14. | Шчэрбань Уладзімір Пятровіч | 4,46 | (4,14) | Кіраўнік адміністрацыі Данецкай вобласці, старшыня Ліберальнай партыі, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 15. | Радчанка Уладзімір Іванавіч | 4,43 | (4,32) | Старшыня Службы бяспекі Украіны |
| 16. | Ткачэнка Аляксандр Мікалаевіч | 4,40 | (4,30) | Першы намеснік старшыні Вярхоўнай Рады |
| 17. | Удавенка Генадзь Іосіфавіч | 4,39 | (4,54) | Міністр замежных спраў |
| 18. | Краўчук Леанід Макаравіч | 4,28 | (4,18) | Дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 19. | Шмараў Валерый Мікалаевіч | 4,18 | (4,23) | Міністр абароны |
| 20. | Асыка Сяргей Рыгоравіч | 4,17 | (3,51) | Міністр знешніх эканамічных сувязей і гандлю |
| 21. | Шпек Раман Васільевіч | 4,13 | (3,65) | Віцэ-прэм'ер |
| 22. | Кулік Зіновій Уладзіміравіч | 4,08 | (3,77) | Старшыня Дзяржкамітэта па тэле- і радыёвяшчанню |
| 23. | Собалеў Сяргей Уладзіслававіч | 3,97 | (3,86) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі «Рэформы» |
| 24. | Дурдзінец Васіль Васільевіч | 3,72 | (3,00) | Віцэ-прэм'ер, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 25. | Германчук Пётр Кузьміч | 3,69 | (3,62) | Міністр фінансаў, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 26. | Краўчанка Юрый Фёдаравіч | 3,65 | (8,68) | Міністр унутраных спраў |
| 27. | Стратовіч Уладзімір Мікалаевіч | 3,62 | (3,17) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, старшыня камісіі Вярхоўнай Рады па пытаннях прававой палітыкі |
| 28. | Варсінаў Рыгор Трафімавіч | 3,61 | (3,38) | Генеральны пракурор |
| 29–30. | Еханураў Юрый Іванавіч | 3,58 | (3,76) | Старшыня Фонду дзяржмаёмасці |
| 29–30. | Лаўрыновіч Аляксандр Уладзіміравіч | 3,58 | (3,17) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, каардынатар фракцыі Народнага руху |
| 31. | Кінах Анатоль Кірылавіч | 3,50 | (3,45) | Віцэ-прэм'ер |
| 32. | Пінзенік Віктар Міхайлавіч | 3,49 | (3,67) | Віцэ-прэм'ер, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 33. | Буткевіч Уладзімір Рыгоравіч | 3,42 | (3,77) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, старшыня камісіі па правах чалавека |
| 34. | Дзёмін Алег Аляксеевіч | 3,41 | (2,70) | Намеснік старшыні Верхоўнай Рады, глава адміністрацыі Харкаўскай вобласці |
| 35. | Курас Іван Фёдаравіч | 3,40 | (-) | Віцэ-прэм'ер |
| 36. | Чыж Іван Сяргеевіч | 3,26 | (3,21) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі Сацпартыі |
| 37. | Філарэт | 3,25 | (3,43) | Мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Русі (УПЦ Кіеўскага Патрыярхата) |
| 38. | Ланавой Уладзімір Цімафеевіч | 3,23 | (2,10) | Саветнік прэзідэнта па эканоміцы, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 39. | Еўтухоў Васіль Іванавіч | 3,15 | (3,26) | Віцэ-прэм'ер, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 40. | Гецьман Вадзім Пятровіч | 3,14 | (3,46) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, лідэр фракцыі «Незалежныя» |
| 41. | Гурвіц Эдуард Іосіфавіч | 3,13 | (3,19) | Мэр Адэсы, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 42. | Супрунюк Яўген Уладзіміравіч | 3,11 | (2,82) | Старшыня Вярхоўнага Савета Аўтаномнай Рэспублікі Крым |
| 43. | Гмыра Сяргей Пятровіч | 3,00 | (2,70) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, адзін з лідэраў фракцыі Кампартыі |
| 44–45. | Суслаў Віктар Іванавіч | 2,94 | (2,53) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, старшыня пастаяннай камісіі па фінансах і банкаўскай сістэме |
| 44–45. | Мусіяка Віктар Лаўрэнцевіч | 2,94 | (2,35) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, прадстаўнік прэзідэнта ў Вярхоўнай Радзе |
| 46. | Вітрэнка Наталля Міхайлаўна | 2,92 | (3,36) | Старшыня Прагрэсіўнай сацпартыі, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 47. | Уладзімір | 2,91 | (3,60) | Мітрапаліт Кіеўскі і ўсяе Украіны (УПЦ Маскоўскага Патрыярхата) |
| 48. | Бадэлан Руслан Барысавіч | 2,87 | (2,77) | Кіраўнік адміністрацыі Адэскай вобласці, дэпутат Вярхоўнай Рады |
| 49. | Заяц Іван Аляксандравіч | 2,85 | (2,76) | Дэпутат Вярхоўнай Рады, адзін з лідэраў фракцыі Народнага руху |
| 50. | Мацвіенка Анатоль Сяргеевіч | 2,84 | (3,21) | Лідэр Народна-дэмакратычнай партыі |

**«Независимая газета», Служба «Vox populi», 1996 г.**

Служба вывучэння грамадскай думкі «Vox populi» і «Независимая газета» (Масква) сумесна з фірмай «Скарына» (Мінск) і Цэнтрам палітычных даследаванняў і канфлікталогіі (Кіеў) працягваюць вызначэнне 50-ці найбольш уплывовых палітыкаў Беларусі, Расіі і Украіны па выніках штомесячнага апытання экспертаў.

У прадстаўленых табліцах 1, 2 і 3 указаны: рангавае становішча вядучых палітыкаў Беларусі, Расіі і Украіны (з 1-га па 50-е) і сярэдні бал, які фіксуе ступень уплыву кожнага на ўнутраную і знешнюю палітыку іх краін. Для ацэнкі меры ўплывовасці выкарыстоўвалася 10-бальная шкала, дзе «10» азначае максімальную, а «1» — мінумальную ступень уздзеяння. Калі палітык, на думку экспертаў, наогул не аказаў ніякага ўплыву на палітычную сітуацыю у сваёй краіне, яму выстаўлялася нулявая ацэнка.

Папярэдні спіс для вызначэння 50-ці найбольш уплывовых палітыкаў у Мінску быў складзены са 101 прозвішча, у Маскве — са 150, а ў Кіеве — са 116. У спісах былі прадстаўлены найбольш заўважныя фігуры заканадаўчай, выканаўчай і судовай улады трох краін, лідэры вядучых палітычных партый і грамадскіх арганізацый, вядомыя рэлігійныя дзеячы, рэгіянальныя кіраўнікі, якія дзейнічаюць на агульнадзяржаўным узроўні. Меру іх уплывовасці вызначалі ў Мінску 61, у Маскве 59, а ў Кіеве 49 экспертаў. Гэта — кіраўнікі сродкаў масавай інфармацыі, палітычныя аглядальнікі і вядучыя палітолагі. У апытанні прынялі ўдзел эксперты рознай (ліберальнай, нацыянал-дэмакратычнай, цэнтрысцкай і сацыялістычнай) арыентацыі.

У Беларусі апытанне праводзілася з 23 па 27 мая, а ў Расіі — з 20 па 23, а на Украіне — с 26 па 30 мая.

Спіс 50-ці вядучых палітыкаў Рэспублікі Беларусь штомесячна публікуецца ў «Народнай газеце», а Расіі і Украіны — у «Независимой газете» (Масква). На аснове гэтых публікацый, спецыяльна для «Звязды», рыхтуецца падагульняючы матэрыял аб палітыках трох брацкіх славянскіх дзяржаў.

### Пасадавая структура палітычнай эліты Беларусі, Расіі і Украіны ў маі (па рэйтынгу 50-ці вядучых палітыкаў)

| Пасадавыя групы дзяржаўных дзеячаў | Беларусь | | Расія | | Украіна | |
|---|---|---|---|---|---|---|
| | Май | Красавік | Май | Красавік | Май | Красавік |
| 1. Дэпутаты вышэйшых органаў заканадўчай улады (Вярхоўнага Савета, Дзяржаўнай Думы і Вярхоўнай Рады) | 21 | /20/ | 9 | /10/ | 30 | /28/ |
| 2. Прадстаўнікі Адміністрацыі Прэзідэнта і іншых структур прэзідэнцкай улады | 8 | /9/ | 7 | /8/ | 5 | /3/ |
| 3. Члены Урада, уключаючы кіраўнікоў сілавых ведамстваў | 8 | /11/ | 12 | /14/ | 17 | /18/ |
| 4. Кіраўнікі мясцовых органаў улады гарадскога, абласнога (а ў Расіі і на Украіне — рэспубліканскага) звяна | 1 | /1/ | 10 | /10/ | 5 | /6/ |
| 5. Прадстаўнікі судовых органаў, пракуратуры і кантрольнай палаты | 2 | /3/ | 1 | /2/ | 1 | /1/ |
| 6. Кіраўнікі фінансавых структур і прадпрымальніцкіх арганізацый | 1 | /1/ | 2 | /1/ | 1 | /1/ |
| 7. Прадстаўнікі рэлігійных арганізацый | 1 | /1/ | 1 | /1/ | 2 | /2/ |
| 8. Прафсаюзныя дзеячы | 2 | /2/ | - | - | - | /1/ |
| 9. Кіраўнікі сродкаў масавай інфармацыі | 2 | /1/ | 3 | /3/ | 1 | /1/ |
| 10. Лідэры непарламенцкіх партый | 6 | /3/ | 2 | - | 1 | /1/ |
| 11. Прадстаўнікі іншых дзяржаўных і грамадскіх структур (Цэнтрвыбаркам і г. д.) | - | - | 3 | /1/ | - | - |
| **Усяго:** | **52** | **52** | **50** | **50** | **63** | **62** |

### Рэйтынг кандыдатаў у прэзідэнты Расіі

| Прозвішчы кандыдатаў | Месца ў спісе вядучых палітыкаў | | Вынікі першага тура прэзідэнцкіх выбараў | |
|---|---|---|---|---|
| | Май | Красавік | Атрымалі галасоў (у млн.) | Месца |
| 1. Ельцын Б. М. | 1 | /1/ | 26,66 | 1 |
| 2. Зюганаў Г. А. | 3 | /2/ | 24,21 | 2 |
| 3. Яўлінскі Г. А. | 5 | /10/ | 5,55 | 4 |
| 4. Жырыноўскі У. В. | 9 | /13/ | 4,31 | 5 |
| 5. Лебедзь А. І. | 11 | /14/ | 10,97 | 3 |
| 6. Фёдараў С. М. | 29 | /33-34/ | 0,70 | 6 |
| 7. Тулееў А. М. | 37 | /32) | - | - |
| 8. Гарбачоў М. С. | 71 | /51/ | 0,39/ | 7 |
| 9. Брынцалаў У. А. | - | - | 0,12 | 10 |
| 10. Уласаў Ю. П. | - | - | 0,15 | 9 |
| 11. Шакум М. Л. | - | - | 0,28 | 8 |

❑

У маі, як і ў красавіку, у спісе вядучых палітыкаў Рэспублікі Беларусь першае месца, з вялікім адрывам, займае Прэзідэнт Аляксандр Лукашэнка. У мінулым месяцы таксама ўзмацнілі свае палітычныя пазіцыі прэзідэнты Расіі і Украіны. Барыс Ельцын у маі вельмі актыўна вёў сваю перадвыбарную кампанію, што дало яму магчымасць прыкметна адарвацца ад іншых палітыкаў і ў выніку 16 чэрвеня абысці ў першым туры прэзідэнцкіх выбараў лідэра камуністаў Генадзя Зюганава. Леанід Кучма, якому яшчэ ў красавіку літаральна «наступаў на пяткі» прэм'ер-міністр Яўген Марчук, дзейнічаў больш радыкальна і адправіў у адстаўку свайго галоўнага палітычнага саперніка. У заяве прэс-службы адміністрацыі прэзідэнта ў сувязі з гэтай адстаўкай Яўген Марчук быў абвінавачаны ў празмерным клопаце аб уласным палітычным іміджы ва ўрон непасрэдным абавязкам па кіраўніцтву Кабінетам міністраў. Публічная лаяльнасць Марчука прэзідэнту поўнасцю адпавядала няпісанаму правілу, якое ўстанавілася на постсавецкай палітычнай прасторы: «Пры жывым прэзідэнце прэм'еру палітыкам быць шкодна». Два гады назад гэта правіла парушыў цяперашні прэзідэнт Украіны Леанід Кучма. Ён рызыкнуў — і перамог! Ці не гэты ўспамін не даваў спакою акружэнню Леаніда Кучмы: ці варта чакаць, пакуль у прэм'ера прачнецца жаданне весці ўласную палітычную гульню. Перамяшчэнне былога прэм'ера ў майскім спісе найбольш уплывовых палітыкаў з другога месца (у сакавіку і красавіку) на шостае зусім натуральна, дарэчы, таксама як і тое, што яго месца ў гэтым спісе заняў новы прэм'ер-міністр Павел Лазарэнка, што падняўся з таго самага шостага месца, на якое апусціўся Яўген Марчук.

У Расіі ў майскім спісе вядучых палітыкаў асноўныя кандыдаты ў прэзідэнты занялі наступныя месцы: Барыс Ельцын (1-е месца), Генадзь Зюганаў (3-е), Рыгор Яўлінскі (5-е), Уладзімір Жырыноўскі (9-е), Аляксандр Лебедзь (11-е), Святаслаў Фёдараў (29-е) і Міхаіл Гарбачоў (71-е) (гл. табліцу 5). Вынікі першага тура прэзідэнцкіх выбараў паказалі, што расійскія эксперты памыліліся толькі ў вызначэнні парадкавага месца Аляксандра Лебедзя, але і тут трэба ўлічваць той факт, што гэты кандыдат прыкметна актывізаваў сваю выбарчую кампанію за два тыдні да выбараў (г. зн. ужо ў чэрвені). У маі ў «клуб 50» расійскіх палітыкаў трапілі: Анатоль Чубайс (30—33-е месца), Анатоль Сабчак (34-е), Віктар Анпілаў (35—36-е), Ягор Гайдар (39-е), Барыс Громаў (41-е), Сяргей Філатаў (42-е); Аркадзь Вольскі (44—45-е), Анатоль Лук'янаў (44—45-е). Амаль усе тры дзяржаўныя дзеячы з'яўляюцца даверанымі асобамі або членамі дзвюх галоўных палітычных каманд прэзідэнцкай гонкі: Барыса Ельцына і Генадзя Зюганава.

Па выніках экспертнага апытання ў Рэспубліцы Беларусь старшыню Канстытуцыйнага суда Валерыя Ціхіню ўпершыню пацясніў на трэцяе месца нядаўна вызвалены са следчага ізалятара намеснік старшыні праўлення Беларускага народнага фронту Юрый Хадыка. На хвалі вулічнай канфрантацыі, сумеснымі намаганнямі ўлады і яе праціўнікаў прафесар Юрый Хадыка цяпер стаў сцягам апазіцыі. Падзеі, якія ператварылі малавядомага грамадскага дзеяча ў яркую палітычную фігуру, развіваліся па вельмі жорсткаму, але эфектыўнаму сцэнарыю: удзел у антыпрэзідэнцкіх выступленнях, арышт, пагроза для жыцця (дваццацідзённая галадоўка) і, нарэшце, змяненне меры абмежавання на падпіску аб нявыездзе і вызваленне са следчага ізалятара па патрабаванню амаль палавіны дэпутатаў Вярхоўнага Савета.

У маі з «вышэйшай лігі» беларускай палітыкі выбылі восем дзяржаўных дзеячаў: віцэ-прэм'ер Лінг, віцэ-прэм'ер Русакевіч, лідэр парламенцкай фракцыі аграрыяў Гіруць, віцэ-прэм'ер Гаркун, кіраўнік сакратарыята Прэзідэнта Латыпаў, старшыня Кантрольнай палаты Саковіч, дэпутат Вярхоўнага Савета Данейка і міністр фінансаў Дзік.

Па выніках экспертнага апытання на гэтыя вакансіі ў «клуб 50» вярнуліся: дэпутат Вярхоўнага Савета, экс-спікер Грыб (37 — 38-е месца) і дэпутат Вярхоўнага Савета Нісцюк (47—48-е), а таксама ўвайшлі шэсць новых палітыкаў: дэпутат Вярхоўнага Савета Гразнова (21-е месца), галоўны рэдактар газеты «Советская Белоруссия» Якубовіч (30-е), старшыня КДБ Мацкевіч (38-е), прэс-сакратар Беларускага народнага фронту Навумчык (40-е), старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Статкевіч (43-е) і намеснік старшыні Беларускага народнага фронту Вячорка (47—48-е).

У маі палітычнымі «зоркамі» месяца, чый рэйтынг павялічыўся больш чым на бал, сталі: намеснік старшыні БНФ Юрый Хадыка, міністр унутраных спраў Валянцін Агалец, дэпутат ВС Людміла Гразнова (ініцыятар збору подпісаў у падтрымку Юрыя Хадыкі), старшыня КДБ Уладзімір Мацкевіч і старшыня Беларускай сацыял-дэмакратычнай грамады Мікалай Статкевіч. Такім чынам, у мінулым месяцы прыкметна ўзмацніліся палітычныя пазіцыі кіраўнікоў шэрагу сілавых ведамстваў і лідэраў непарламенцкай апазіцыі і, наадварот, аслабеў уплыў урада.

## ДУХ БРАТЭРСТВА

**Мінулая нядзеля стала апафеозам 27-а міжнароднага фестывалю славянскіх народаў, які адбыўся на стыку граніц трох краін -- Расіі, Украіны і Беларусі. У рамках яго прайшоў тыдзень славянскай культуры, а каля манумента Дружбы некалькі дзён працаваў маладзёжны лагер славянскіх народаў, у якім удзельнічала некалькі соцень юнакоў і дзяўчат з трох братніх рэспублік. Моладзь абмеркавала свае праблемы на дыскусійным цэнтры, правяла эканамічны семінар, наладзіла творчыя сустрэчы...**

І вось сонечны выхадны дзень. Дзень моладзі. Свята адкрывае кіраўнік адміністрацыі Бранскай вобласці Аляксандр Семярнёў.

Апладысментамі прысутных закончылася выступленне віцэ-прэм'ера Беларусі Уладзіміра Русакевіча, які перадаў удзельнікам фестывалю прывітанне Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Лукашэнкі і заклікаў мацаваць шматвяковую традыцыю трох славянскіх народаў -- дружбу і еднасць, якія патрэбны нам як для дынамічнага эканамічнага развіцця, так і палітычнага ўзаемадзеяння. Аб гэтым жа гаварылі ў сваіх выступленнях і намеснік кіраўніка ўрада Украіны Васіль Еўтухоў, і член урада Расіі Іван Гарбачоў, які зачытаў удзельнікам фестывалю прывітанне Барыса Ельцына і заклікаў на выбарах моладзь Расіі галасаваць за апошняга, старшыня прэзідыума Гомельскага абласнога савета ветэранаў вайны, працы і ўзброеных сіл Міхаіл Качан, ліквідатар вынікаў аварыі на ЧАЭС з Украіны Віктар Аўраменка, сакратар ЦК Расійскага саюза моладзі Вера Скарабагатава.

Мінутай маўчання пад самотныя ўдары звана ўдзельнікі фестывалю аддалі даніну павагі і памяці тым, хто загінуў на крутых згібах гісторыі -- войнах, ад чарнобыльскай катастрофы. І тут жа голас дыктара аб тым, што на парозе XXI стагоддзя менавіта ад моладзі залежыць, каб яно стала стагоддзем без граніц, войнаў і катастроф, стагоддзем міру і дружбы, братэрства. І зноў гімны, пад гукі якіх над манументам у блакіт неба ўзмываюць дзяржаўныя сцягі трох славянскіх народаў, скампанаваныя з паветраных шарыкаў.

А потым было наведанне ўдзельнікамі фестывалю нацыянальных падворкаў, дзе кожны бок дэманстраваў нацыянальныя абрады гасцявання -- свае кухні, кірмашы, конкурсы. Дух еднасці, дружбы, братэрства бачыўся на фестывалі. І ў кожнага яго ўдзельніка было і застаецца адзінае імкненне захаваць гэтыя святыя пачуцці і надалей.

**Уладзімір ПЕРНІКАЎ.**

# ЦІ МОЖА ВЁСКА ЖЫЦЬ БЕЗ КНІГІ?

## АДКРЫТЫ ЛІСТ

**Прэзідэнту Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнку, Прэм'ер-міністру Рэспублікі Беларусь М. М. Чыгіру, Старшыні праўлення «Белспажыўсаюза» В. С. Владыку**

Нядаўна ў Мінску адбылася рэспубліканская нарада з кіраўнікамі абласных, гарадскіх і раённых выканаўчых камітэтаў, спецыялістамі і творчай інтэлігенцыяй па пытаннях развіцця сацыяльна-культурнай сферы. У змястоўным і шматпланавым дакладзе Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкі, у выступленнях іншых кіраўнікоў дзяржавы, міністэрстваў, ведамстваў і арганізацый гучала шчырая заклапочанасць аб неабходнасці захавання і паляпшэння дзейнасці ўстаноў культуры, больш актыўнай работы па выхаванню працоўных, падрастаючага пакалення.

Не сакрэт, што ў справе выхавання народа асабліва важная роля ва ўсе часы адводзілася менавіта кнізе, якую справядліва называюць крыніцай ведаў. Але непрадбачлівая палітыка ў галіне кнігавыдання, ігнараванне спецыфікі вытворчасці, інтарэсаў працоўных калектываў выдавецтваў, паліграфіі і кніжнага гандлю прывялі да таго, што пачынаючы з 1990 года пагражальнымі тэмпамі ідзе спад выпуску сацыяльна значнай літаратуры прыярытэтных напрамкаў — дзіцячай, навучальнай, навукова-тэхнічнай, даведачнай, энцыклапедычнай, мастацкай і па пытаннях культуры, для камплектавання масавых бібліятэк.

І хаця дзяржава ў пэўнай ступені датуе выпуск сацыяльна значнай літаратуры, выданнем якой займаюцца ў асноўным дзесяць дзяржаўных выдавецтваў, для паўнакроўнага вытворчага працэсу, які ўключае ў сябе падрыхтоўку рукапісу, мастацкае афармленне, колерападзел, набор, забеспячэнне паперай і іншымі матэрыяламі, разлікі з аўтарамі, мастакамі і паліграфістамі, гэтага яўна недастаткова.

Адной з асноўных прычын хранічнай хваробы кнігавыдавецкага комплексу з'яўляецца і нерытмічнасць разлікаў за выпушчаную і адгружаную прадукцыю з прадпрыемствамі кніжнага гандлю. Мы разумеем, што тут спрацоўвае і фактар нізкага пакупніцкага попыту, фактар скарачэння колькасці гандлёвых пунктаў, праз якія распаўсюджваецца кніга — маюцца на ўвазе тры звяны кнігагандлёвай падгаліны: сістэма «Белкнігі», «Белсаюздруку», «Белспажыўсаюза». І калі на два першыя звяны можа паўплываць, і мы спадзяёмся, паўплывае зноў створаны Дзяржаўны камітэт Рэспублікі Беларусь па друку, бо заключае з іх кіраўнікамі кантракты, то ўзаемаадносіны кнігавыдаўцоў з «Белспажыўсаюзам» звяліся ў апошнія гады амаль да нуля. Калі раней сістэма кніжнага гандлю гэтай магутнай установы брала ў выдавецтвах на рэалізацыю ў сельскай мясцовасці 30—35 працэнтаў ад агульных тыражоў выпуску, то ў мінулым годзе гэты паказчык знізіўся ў 30 разоў, а сёлета знік зусім. Шлях кнігі да сельскага жыхара быў канчаткова перакрыты.

Можа, пра гэта не ведае кіраўніцтва «Белспажыўсаюза? Ведае. Пытанне аб неабходнасці актывізацыі кніжнага гандлю на вёсцы ўзнімалася ў шматлікіх пісьмах Міністэрства культуры і друку і выдавецтваў да першых асоб «Белспажыўсаюза», публікацыях у газетах «Звязда», «Літаратура і мастацтва», «Кніга і мы», нават на сустрэчы творчай інтэлігенцыі з Прэзідэнтам Рэспублікі Беларусь А. Р. Лукашэнкам.

Мы, кіраўнікі дзяржаўных выдавецтваў, з пачуццём глыбокай адказнасці за лёс кнігі, за духоўнае ўзбагачэнне нашага народа, маладой змены, звяртаемся да Вас, шаноўны Аляксандр Рыгоравіч, да Вас, шаноўны Міхаіл Мікалаевіч, да Вас, шаноўны Віктар Станіслававіч, прыняць радыкальныя меры па захаванню цэнтралізаванай сістэмы кніжнага гандлю на вёсцы, па паляпшэнню яе дзейнасці, на тое, каб кніга — гэты набытак чалавечага розуму — была даступнай усім грамадзянам нашай Рэспублікі, дзе б яны ні жылі — у горадзе ці вёсцы.

З надзеяй на добрыя перамены:

**Валянцін ЛУКША,** ***дырэктар выдавецтва «Юнацтва», старшыня савета дырэктароў;*** **Мікалай КАВАЛЕЎСКІ,** ***дырэктар выдавецтва «Беларусь»;*** **Серафім АНДРАЮК,** ***дырэктар выдавецтва «Мастацкая літаратура»;*** **Ігар ЛАПЦЁНАК,** ***дырэктар выдавецтва «Народная асвета»;*** **Анатоль ЖАДАН,** ***дырэктар выдавецтва «Вышэйшая школа»;*** **Уладзімір КАСЬКО,** ***дырэктар выдавецтва «Універсітэцкае»;*** **Барыс УЛЬЯНКА,** ***дырэктар выдавецтва «Ураджай»;*** **Міхась ІВАНОВІЧ,** ***дырэктар выдавецтва «Полымя»;*** **Генадзь ПАШКОЎ,** ***галоўны рэдактар БелЭН імя П. Броўкі.***

## ІНФАРМ-КАКТЭЙЛЬ

Вазьміце 2,4 тоны мукі, 1,3 тоны сметанковага масла, 900 кілаграмаў цукру, 2,5 тоны слівовага варэння і 14 тысяч яек. Няхай вам дапамогуць 200 чалавек. І торт гатовы.

Менавіта такі торт выпеклі жыхары італьянскага горада Парма. Ён працягнуўся... на 2 кіламетры 390 метраў. Потым яго разрэзалі на 24 тысячы кавалкаў і з'елі. Торт атрымаўся самым вялікім у свеце і будзе ўнесены ў Кнігу рэкордаў Гінеса.

**ІТАР-ТАСС**

*Хто на свеце ўсіх сумленней? 200 кашалькоў былі спецыяльна «згублены» ў 20 вялікіх і малых гарадах Заходняй Еўропы — на вуліцах, у магазінах, ва ўстановах. Сумленнымі аказаліся больш паловы заходнееўрапейцаў — вярнулі 116 кашалькоў. У сытай швейцарскай Лазане і нямецкім Веймары з дзесяці вярнулі толькі па два кашалькі.*

*І яшчэ. Радзей вярталі кашалькі людзі больш заможныя. А ў сярэднім сумленней аказаліся студэнты, пенсіянеры, беспрацоўныя.*

**«Рыдэрс Дайджэст».**

Голага чалавека, прыкаванага да лесвічных парэнчаў, знайшлі жыхары аднаго з дамоў Чэлябінска. Ім аказаўся студэнт, які вырашыў зарабіць відэаздымкамі. Мужчына запрасіў студэнта зняць на відэакамеру сваю любімую цешчу. Калі апаратар прыйшоў на месца, мужчына правёў яго на лесвічную пляцоўку пятага паверха. Там у студэнта «канфіскавалі» відэакамеру, залаты ланцужок, адзенне. Бедалага пазбавіўся 5 мільёнаў рублёў.

**ЕАН.**

***ПОГЛЯД***

# Сусветны вопыт паказвае: дзяржаўнае рэгуляванне павінна быць развіта настолькі, наколькі яно неабходна для забеспячэння развіцця рынaчных метадаў гаспадарання

**Інтэрв'ю з загадчыкам аддзела рынaчнай інфраструктуры Інстытута эканомікі АН Беларусі Аляксандрам ЛУЧАНКОМ**

— **Аляксандр Іванавіч, як вы ахарактарызуеце цяперашнюю эканамічную сітуацыю ў рэспубліцы?**

— Як вельмі неспрыяльную. Эканамічны крызіс пераадолець не ўдалося, дзелавая актыўнасць з кожным днём зніжаецца, сродкаў у дзяржаўны бюджэт, па афіцыйнай статыстыцы, паступае 60 працэнтаў ад запланаванай велічыні, а па разліковых даных — толькі каля сарака працэнтаў. Гэта значыць, што хутка ўзнікнуць вельмі сур'ёзныя праблемы з выплатай пенсій, з аплатай працы работнікаў бюджэтнай сферы.

— **Ваша думка пра стан валютнай сферы?**

— Рубль пачаў «падаць» у адносінах да долара, і хуткага выпраўлення становішча чакаць не прыходзіцца, таму што дэфіцыт гандлёвага балансу рэспублікі расце, канкурэнтаздольнасць айчыннай прадукцыі зніжаецца. А мы жывём у рэспубліцы, моцна арыентаванай на экспарт. Нават сёння мы вымушаны экспартаваць каля трэці сваёй прадукцыі, першапачаткова прызначанай для вывазу ў сілу ўкаранёнага ў былым СССР грамадскага падзелу працы. Калі параўнаць з іншымі краінамі, то гэта вельмі многа. Японія, напрыклад, экспартуе толькі 17 працэнтаў сваёй прадукцыі.

Аднак імпартуем мы яшчэ больш. І на сённяшні дзень дэфіцыт знешнегандлёвага балансу складае каля 600 мільёнаў долараў. Калі такое становішча захаваецца, у хуткім часе дэфіцыт складзе 20 працэнтаў дзяржбюджэту. Пры гэтым нармальны ўзровень дэфіцыту для краін, якія развіваюцца, — 3-4 працэнты.

Як адзначаюць міжнародныя эксперты, паказчыкі Беларусі характэрныя для самых бедных дзяржаў Афрыкі, якія цалкам залежаць ад знешняй дапамогі. Фактычна мы жывём у доўг, і чакаць у такіх умовах стабільнасці валюты не прыходзіцца.

— **Чым выклікана такая складаная сітуацыя?**

— Звычайна называюць аб'ектыўныя прычыны, часам шукаюць нейкіх схаваных ворагаў, іншы раз гавораць аб асобных памылках, але, на мой погляд, уся справа ў непрафесіяналізме. Людзі выбіваюцца на важныя пасады, не звязаныя з іх папярэдняй дзейнасцю, і пачынаюць, зыходзячы са свайго ўзроўню і былой спецыяльнасці, вырашаць праблемы.

Непрафесіянал ніколі не адважыцца зрабіць нават самую простую аперацыю на апендыцыт, бо разумее, што можа загубіць чалавека. Але чамусьці лічыцца, што кіраваць эканомікай можа любы будаўнік ці выпускнік палітызаванай ВНУ, дзе вучылі не рэальнай эканамічнай практыцы, а прымушалі завучваць догмы і цытаваць класікаў. І вось такія людзі становяцца дарадчыкамі вышэйшых службовых асоб. І, зразумела, не разбіраючыся глыбока ў сутнасці эканамічных працэсаў, яны пачынаюць «рэзаць» не аднаго чалавека, а ўсіх жыхароў рэспублікі.

— **Але гаварыць увогуле аб адсутнасці прафесіяналізму ў дзеяннях органаў дзяржаўнага кіравання таксама, відаць, неправамерна?**

— Ніхто не адмаўляе, што ў дзяржаўных структурах шмат кампетэнтных прафесіяналаў. Кваліфікаванымі кадрамі вызначаецца, напрыклад, Нацыянальны банк. І тым не менш там з былых часоў засталіся дзіўныя кадры. Напрыклад, у кантрольнай службе Нацбанка «ад старога саставу» застаўся кандыдат гістарычных навук, які хуценька перавучыўся на эканаміста. Але за адзін-два гады ў эканоміцы наогул, а ў банкаўскай сферы ў асаблівасці не разбярэшся. За гэты час можна толькі вызубрыць інструкцыі, не разумеючы сутнасці працэсаў. Як вы думаеце, ці можа гісторык, узброены партыйнымі класавымі адносінамі да багатых, дапамагчы банкам у вырашэнні іх праблем? І ці ёсць у нас шанцы выйсці з крызісу з такімі спецыялістамі?.. Нацыянальны банк узяў курс на абнаўленне кадраў прафесіяналамі. Было б карысным прыцягненне сапраўдных спецыялістаў і ў іншыя органы дзяржаўнага кіравання.

У тым жа Нацыянальным банку з сапраўды кваліфікаваных эканамістаў рэспублікі створана група для распрацоўкі мерапрыемстваў па стабілізацыі эканомікі. Пры зносінах з імі разумееш, што яны на самай справе могуць дапамагчы вывесці краіну з крызісу. Толькі трэба стварыць умовы для рэалізацыі іх распрацовак.

— **Якія гэта ўмовы?**

— Перш за ўсё наяўнасць палітычнай волі да правядзення рэформаў. Акрамя таго, мэтазгодна замяніць «знатакоў» устарэлых эканамічных вучэнняў і самавукаў з іншых сфер дзейнасці прафесіяналамі. Каб не перашкаджалі.

— **Ці не занадта вы катэгарычныя ў сваіх выказваннях?**

— Прыходзіцца, калі бачыш, што нарабілі непрафесіяналы ў эканоміцы. Напрыклад, хто вінаваты, што хутка не будзе сродкаў для выплаты пенсій, заработнай платы настаўнікам, урачам, вучоным і іншым работнікам бюджэтнай сферы? А справа ў тым, што ў жыццё пачалі праводзіцца ідэі аб тым, што багатых трэба «раскулачваць», і пачалося знішчэнне прадпрымальніцтва. Але ж менавіта падаткі на прадпрымальнікаў забяспечвалі вельмі значную частку бюджэтных паступленняў. У выніку асобы, якія лабіруюць удушэнне дзелавой актыўнасці насельніцтва, фактычна здзейснілі супраць рэспублікі эканамічную дыверсію. Катастрафічны стан з даходамі бюджэту прымусіў зноў дазволіць рэгістрацыю прадпрымальніцкіх структур, але гэта абстаўлена такімі абмежаваннямі і магчымасцямі для далейшага іх удушэння, што пэўных ілюзій на развіццё прадпрымальніцтва рабіць не прыходзіцца.

— **Ці можа рэальна нам дапамагчы замежжа?**

— Можа, але ніхто нас рэальна падтрымліваць не будзе. Яшчэ некалькі гадоў таму па аб'ёму замежных інвестыцый мы апусціліся на апошнія месцы ў свеце і з кожным годам сітуацыя пагаршаецца. У 1995 годзе ў беларускую эканоміку было прамых інвестыцый усяго толькі на 2 мільёны долараў, што складае ў сярэднім на чалавека смешную лічбу — 20 цэнтаў. Зноў жа, ніхто не хоча мець справы з людзьмі, якія не разумеюць, што спачатку для замежных інвестараў трэба стварыць умовы. Яны аддаюць перавагу краінам з развітай рынaчнай інфраструктурай, мясцовым прадпрымальнікам. Акрамя таго, для іх вельмі важна безумоўнае выкананне ў краіне — атрымальніцы інвестыцый прынятых законаў. На жаль, па ўсіх гэтых пазіцыях становішча ў нас не самае лепшае.

Міжнародныя арганізацыі практычна адмовілі рэспубліцы ў сваёй дапамозе, а гэта значыць, што ў Беларусь не пойдуць і замежныя прыватныя інвестыцыі. Не зможа моцна дапамагаць і Расія, у якой шмат сваіх унутраных праблем. Да заключаемых дамаўленняў аб «дараванні» даўгоў больш падыходзіць прыказка аб тым, што дармавы сыр бывае толькі ў пастцы. Тое ж датычыцца і абяцанай дапамогі ў аднаўленні некалькіх беларускіх заводаў — будзе падтрымка толькі тых прадпрыемстваў, у прадукцыі якіх Расія адчувае патрэбу.

— **Як вы пракаменціруеце рашэнні па эканамічных пытаннях, якія прымаюцца ў рэспубліцы?**

— Практычна ўсе яны маюць адміністрацыйны характар. У нас часта не ўяўляюць, як стварыць умовы для эфектыўнай дзейнасці народнай гаспадаркі, вось і лічаць за лепшае раздаваць загады замест стварэння гэтых умоў.

Сусветны вопыт паказвае, што дзяржаўнае рэгуляванне павінна быць развіта настолькі, наколькі яно неабходна для забеспячэння развіцця рынaчных метадаў гаспадарання, а не для ўдушэння. Менавіта такое дзяржаўнае рэгуляванне дазволіла эканамічна развітым краінам практычна вырашыць праблемы крызісных з'яў у эканоміцы.

На Беларусі не змаглі правесці сістэмнае рэфармаванне эканомікі па прынцыпах рынaчнага рэгулявання, а здзейсненыя паўмеры ў рэспубліцы, дзе чвэрць насельніцтва складаюць пенсіянеры і яшчэ чвэрць — люмпенізаваныя слаі, прывялі да таго, што вырашана далей ісці не па шляху рынaчных рэформаў, а ў накірунку акумуліравання рэсурсаў у адных руках і распараджэння імі па прынцыпу затыкання дзірак. У выніку замест здзяйснення мэтанакіраванай праграмы вываду эканомікі з крызісу ажыццяўляюцца мерапрыемствы, якія носяць хутчэй палітычны, а не эканамічны характар (у прыватнасці, па падтрымцы курсу долара пры наяўнасці інфляцыі і г. д.).

— **Што б вы прапанавалі зрабіць для вываду эканомікі з крызісу?**

— Сёння асноўную ўвагу трэба надаць грашова-крэдытнай сферы і валютнаму рэгуляванню. У аснову мерапрыемстваў у гэтай сферы павінна быць пакладзена задача аднаўлення вытворчай актыўнасці ўсіх суб'ектаў гаспадарання і павышэння іх канкурэнтаздольнасці на знешніх рынках. Асноўнымі з іх з'яўляюцца:

разавая дэвальвацыя курсу беларускага рубля да ўзроўню, які забяспечвае рэальную канкурэнтаздольнасць айчыннай прамысловай прадукцыі (не менш чым на 20—25 працэнтаў);

пастаянная аператыўная карэкціроўка курсу беларускага рубля з улікам аб'ектыўна абумоўленага росту выдаткаў на вытворчасць (у першую чаргу з-за павелічэння цэн на энерганосьбіты, павышэння заработнай платы ў сілу агульнага росту кошту жыцця), а не скажоных даных статыстычных органаў;

прыняцце эканамічных мераў для папярэджання вывазу капіталаў з рэспублікі (у першую чаргу ў Расію) і стымуляванню яго ўвозу. Для гэтага ўчотная стаўка Нацыянальнага банка РБ павінна быць устаноўлена на ўзроўні вышэй, чым у Расіі (120 працэнтаў). Гэтая ж мера дазволіць прыцягнуць у рэспубліку замежныя капіталы, павялічыць золатавалютныя запасы і стварыць умовы для стабілізацыі курсу беларускага рубля. Пры гэтым неабходна растлумачыць два моманты:

а) умераная інфляцыя цалкам дапушчальная ў тым выпадку, калі рост цэн для насельніцтва кампенсуецца адпаведным павелічэннем аплаты працы, пенсій і дапамог;

б) павышэнне ўчотнай стаўкі не азначае рэальнага падаражання крэдытаў, таму што рост ставак за крэдыт на практыцы будзе кампенсавацца ростам цэн на выпускаемую прадукцыю ў выніку інфляцыі.

Далей. Трэба аднавіць давер насельніцтва і юрыдычных асоб да беларускай валюты. Першачарговымі мерапрыемствамі ў гэтым накірунку павінны быць:

а) стымуляванне павелічэннем учотнай стаўкі Нацбанка РБ ставак камерцыйных банкаў па рублёвых дэпазітах на ўмовах, больш выгадных у параўнанні са стаўкамі па валютных дэпазітах;

б) аднаўленне ўнутры рэспублікі валютнага рынку, у тым ліку адмена абавязковага продажу валюты суб'ектамі гаспадарання, дазвол на гандаль валютай на міжбанкаўскім рынку, лібералізацыя дзейнасці Міжбанкаўскай валютнай біржы з адменай адхілення заявак на так званыя «неpершачарговыя патрэбы», дазвол на выдачу валютных крэдытаў.

Гэта, нарэшце, — адмена практыкі выдзялення Нацыянальным банкам РБ мэтавых крэдытаў і замена яе продажам цэнтралізаваных рэсурсаў на аўкцыённай аснове;

адмена нормы рэзервовых патрабаванняў на дэпазіты з тэрмінам пагашэння звыш 12 месяцаў. Гэта дасць магчымасць падняць зацікаўленасць у інвесціраванні сродкаў на працяглыя тэрміны.

Існуе і шэраг іншых мераў, якія на сённяшні час трэба дадаткова прапрацаваць і абгрунтаваць.

**P. S. Пасля таго, як гэты матэрыял быў падрыхтаваны да друку, стала вядома, што прынята рашэнне аб зніжэнні планкі для суб'ектаў гаспадарання адносна абавязковага продажу зароблeнай імі валюты — са 100 працэнтаў да 50, а таксама аб адмове ад 10-працэнтнага збору пры пакупцы імі валюты на біржы. Гэта, аднак, як удакладніў А. Лучанок, не здымае ўсіх астатніх пытанняў.**

# ЯГО ЖЫЦЦЁ — САПРАЎДНЫ РАМАН

***Штрыхі да партрэта прэзідэнта Францыі Жака ШЫРАКА***

Жак Шырак нарадзіўся 29 лістапада 1932 г. у Парыжы, куды Абель Шырак накіраваўся рабіць кар'еру і дзе дабіўся вялікага поспеху ў якасці менеджэра, які кіраваў некалькімі прамысловымі прадпрыемствамі. Такім чынам, з самага дзяцінства Жак жыве ў дастатку сярод вельмі ўплывовых людзей, а ягоная маці, якая за некалькі гадоў да яго нараджэння страціла дачку, прадугадвае кожнае жаданне маленькага сына.

Бацька чытае яму Панеля, Віктора Гюго, Дарджэлеса, і Жак марыць пра подзвігі, якія ён здзейсніць на карысць Радзімы.

Але прыходзіць 1940 год, і сям'я Шыракаў грузіць свае рэчы ў машыну і накіроўваецца ў свабодную зону. Для Жака гэты пераезд — пачатак шчасця. Школа знаходзіцца за гадзіну хады ад вілы, на якой яны жывуць. І Жак, карыстаючыся тым, што ўвага мадам Шырак слабее, лазіць па крутых адхонах, хаваецца ў невялічкіх бухтачках, каб паразважаць пра ўсе таямніцы, якія захоўвае ў сабе мора. Ён яшчэ не ведае, што заўсёды будзе пакутаваць ад гэтай раздвоенасці: думаць і рухацца, марыць і дзейнічаць.

Вярнуўшыся пасля вайны ў Парыж, ён паступае ў ліцэй у Сен-Клу, адкуль яго выганяюць за непаслухмянасць, потым у ліцэй Карно ў Парыжы, дзе ён атрымлівае ступень бакалаўра. У ліцэі яго лічаць сярэднім і не вельмі дысцыплінаваным вучнем. У ягоным дзённіку можна прачытаць наступныя запісы: «Звярніце ўвагу на паводзіны вучня, калі ён хоча скончыць навучальны год у ліцэі»; «Ухіляецца ад вучобы і бравіруе гэтым перад сябрамі».

Адзін з яго аднакашнікаў успамінае: «Як толькі ён выходзіў з класа, дык адразу пачынаў смаліць. Гэта лічылася адметай самастойнасці і незалежнасці». Другі, П'ер Анграна, піша: «Ён лічыўся недысцыплінаваным вучнем, бо аддаваў перавагу палітычным альбо філасофскім тэмам, якія не ўваходзілі ў школьную праграму. Жак быў інтэлектуальным».

І гэта праўда. Ён вывучае рускую мову, перакладае Пушкіна і Талстога. У яго выдатная памяць і ён здольны хутка засвоіць велізарную колькасць матэрыялу.

У 1949 годзе бацька запісвае яго ў клас вышэйшай матэматыкі ў ліцэі Луі-ле-Гран у Парыжы, але вялікі рамантык наймаецца на судна «Капітан Сен-Мартын» і адпраўляецца ў плаванне. Праз два дні ён пачынае страшэнна пакутаваць ад марской хваробы. Ён змагаецца з сабой, як можа, каб толькі не аддаць Богу душу на гэтым чортавым караблі.

У лістападзе, праз месяц пасля пачатку заняткаў, ён пачынае вывучаць вышэйшую матэматыку. Але гэта сумна, і па вечарах ён аддаецца сваім марам, перакладаючы Пушкіна, і сам спрабуе пісаць паэмы. Аднак бацька лічыць, што ён павінен зрабіць канчатковы выбар і пачаць дзейнічаць. Ад гэтага выбару залежыць, якім мужчынам ён стане...

Шыраку 21 год. Ён высокі (189 см), магутны (85 кг), энергічны і прыгожы. Жак робіць першыя крокі ў палітыцы. Яго сэрца схіляецца да гашыстаў, і ён нават збірае подпісы пад «Стакгольмскім заклікам» каля камісарыята на плошчы Сен-Сюльпі, за што яго адразу ж затрымліваюць і ў суправаджэнні двух паліцэйскіх адпраўляюць дамоў.

У гэты час ён вучыцца ў парыжскім Інстытуце палітычных даследаванняў, дзе лічыцца адным з найлепшых студэнтаў. У ім столькі запалу, што ад аднаго яго погляду загараюцца сэрцы дзяўчын. Адна з іх, Бернадэт дэ Курсель, пяшчотная бландзінка з вялізнымі дзіцячымі вачыма, закахалася ў яго з першага позірку.

З 1952 года яны амаль увесь час разам. Яна патрэбна Жаку, яе прысутнасць надае яму сілы, натхняе на новыя подзвігі. Ён марыць наведаць Амерыку і нарэшце адплывае туды на старым караблі «Нептунія» ў сёмым класе. Каб заплаціць за месяц вучобы ў Гарвардзе, трэба знайсці грошы, работу. І ён знаходзіць яе... у сістэме хуткага харчавання.

«Работа пачыналася ў 6 гадзін вечара і заканчвалася ў 2 гадзіны ночы, а на заняткі трэба было прыходзіць у 8 раніцы. Больш за ўсё даймала спякота. Быў жнівень, і ў падвале панавала тэмпература, як у пекле. Праз тры дні дырэкцыя палічыла, што ў мяне вясёлы характар, і перавяла ў афіцыянты. Гэта быў вялікі момант майго ўзыходжання па сацыяльнай лесвіцы. Я апрануў чысты халат і стаў працаваць у зале з кандыцыянерам», — успамінаў потым Шырак.



**Пасля выбрання Жака Шырака прэзідэнтам французская прэса пісала, што Францыя пайшла па слядах Амерыкі і выбрала сабе ў мужы палюбоўніка. І сапраўды, Жак Шырак — прыгожы, высокі, эмацыянальны — з казацкім ліхацтвам заваяваў Францыю. Няхай не адразу, няхай шлях да перамогі быў цярністы і доўгі, затое зараз усе патэнцыяльныя біёграфы прэзідэнта сцвярджаюць: яго жыццё — сапраўдны раман.**

І гэтак жа, як у Парыжы, вялікі Шырак робіцца няшчасцем для студэнтак. Ён адчувае сябе акцёрам у галівудскім фільме, але не забывае пра Бернадэт. І як толькі вяртаецца ў Францыю, у кастрычніку просіць яе рукі.

У гэтым жа годзе ён заканчвае Інстытут палітычных даследаванняў, дзе ідзе трэцім у спісе, і паступае ў Нацыянальную школу адміністрацыі ў Парыжы, адкуль яго адклікаюць на вайсковую службу.

1 лістапада 1954 г. пачынаецца алжырскае паўстанне. Жак хоча адправіцца ў Алжыр, а калі ён чаго-небудзь хоча, дык дамагаецца — як Бернадэты, з якой спраўляе вяселле 16 красавіка 1956 года пасля доўгіх заручын, якіх патрабаваў яе бацька. А праз два тыдні едзе на вайну, з якой вяртаецца з ордэнам за дапамогу аднаму атраду, які ён пайшоў выратоўваць не чакаючы загаду.

На вайне, нягледзячы на ўвесь жах, ён быў свабодным, а вярнуўшыся ў Парыж у адміністрацыйную школу, пачынае задыхацца і губляе усякую цікавасць да вучобы. На прыктыцы ў прэфектуры ў Грэноблі ён адчувае сябе настолькі дрэнна, так пакутуе ад аднастайнасці, што атрымлівае самую дрэнную адзнаку.

У студзені 1958 г. Жан зноў вяртаецца ў Парыж. Яго ўвесь час даймаюць папрокамі, ён адчувае сябе не на сваім месцы, яго не любяць, ён чэзне. І ўсё ж у гэты шэры перыяд жыццё дорыць яму шчасце: чароўную бялявую малышку Ларанс. У Жака зноў з'яўляецца надзея. Маладая сям'я не купаецца ў золаце, і будучае залежыць ад таго, на якім месцы ён апынецца ў сваім выпуску ў адміністрацыйнай школе.

Ён займае 16-е месца. Вельмі пасрэдны вынік, але ён дае ўсё ж такі доступ у вышэйшыя дзяржаўныя органы. Жак пачынае службу ў Лічыльнай палаце.

Работа яму не падабаецца. Сумна, а 28-гадоваму хлопцу, у якім бурліць энергія, хочацца дзейнічаць. Ён знаходзіць мноства заняткаў, якія не звязаны з работай, ездзіць па краіне, але ў яго па-ранейшаму няма ўпэўненасці ў будучыні. Жыццё дарue яму шанц.

Пасля Эвіянскага пагаднення паміж Францыяй і Алжырам Жак Шырак вырашае прымкнуць да Жоржа Пампіду, новага прэм'ер-міністра генерала дэ Голя. Як яму гэта ўдалося? Вось адна з версій.

Жэрар Беларжэй, сябар Шырака па Інстытуту палітычных даследаванняў, займае адну з пасад у Жак-Анры Бюжара, высокапастаўленага чыноўніка ў генеральным сакратарыяце ўрада. Калі заходзіць размова аб тым, каб знайсці таму памочніка для работы, Беларжэй адразу ж прапаноўвае свайго сябра.

Бюжару прыходзіцца даспадобы энергія маладога чалавека, і ён прымае яго на работу. А яшчэ праз шэсць месяцаў Шырак займае крэсла Бюжара.

Ён з галавой акунаецца ў работу і, як заўсёды, ні пад кога не падладжваючыся, выказвае свае думкі. І, несумненна, таму што ён высокі, таму што ў яго грамавы голас, таму што ён ведае тое, аб чым гаворыць, і абараняе свае погляды так, быццам ад гэтага залежыць яго жыццё, ён атрымлівае мянушку «Бульдозер». На яго звяртаюць увагу ўплывовыя людзі.

Пампіду ведае пра існаванне Бульдозера. І калі сустракае яго ў першы раз, яшчэ да таго, як іх паспяваюць пазнаёміць, кажа сам сабе: «Гэта ён». Менавіта гэта імгненне можна лічыць другім нараджэннем Шырака.

**Іна ЗУБ.**

*(Па матэрыялах «Пары-Мач».)*

***НА СВАЕ ВОЧЫ***

# МАГУТНЫ РЭГІЁН У СЭРЦЫ ЕЎРОПЫ

**ПЕРШЫЯ нямецкія цуды пачаліся на пагранічным пераходзе каля Франкфурта-на-Одэры, на аўтазаправачнай станцыі: калонка з дызельным палівам ці бензінам сама аўтаматычна адлічвала не толькі колькасць гаручага, але і яго кошт. Запоўніўшы бак, вадзіцель ідзе да касіркі, а ў нас, як вядома, наадварот — спачатку трэба расплаціцца.**

Потым аўтобус паімчаўся па аўтабанах — скорасных трасах, гісторыя якіх узыходзіць да змрочных часоў трэцяга рэйха, калі Гітлер для ўвасаблення ў жыццё «бліц-крыга» пабудаваў супердарогі. Трэба сказаць, што іхнія сучасныя шасэ — сапраўдныя творы мастацтва. Роўны асфальт і бетон, загараджальныя сеткі, слупкі з ліхтарамі-паказальнікамі, раздзяляльныя прыстасаванні з адбівальнікамі святла, прыдарожны ландшафт, які нагадвае першабытную некранутую прыгажосць прыроды. Акрамя таго, ёсць і доўгія масты над рачулкамі, і падземныя тунэлі з ростанямі (напрыклад, віядук пры ўездзе ў Дзюсельдорф працягласцю 3 кіламетры).

У аўтабанаў маюцца дзве галоўныя асаблівасці. Па-першае, цябе не зразумеюць, калі ты будзеш ехаць са скорасцю меншай за 100 кіламетраў у гадзіну. Абапал дарогі ўстаноўлены знакі, якія дазваляюць стрэлцы на спідометры хістацца каля лічбаў 100—120. Пасты дарожнай паліцыі сустракаюцца зрэдку, ды і ўвогуле няма ніякіх рэгуліроўшчыкаў і шлагбаумаў. Кантраляваць скорасць шафёр можа пры дапамозе электронных табло, што вісяць над трасай.

Па-другое, калі нехта заблытаўся на аўтабанах ці трапіў у аварыю, то вінаваты сам. Трэба ўважліва сачыць за шматлікімі паказальнікамі: хто паверне не туды, куды трэба, змарнуе гадзіну-другую, каб зноў выехаць на патрэбную лінію.

З даўніх часоў мясцовасць паміж Рэйнам і Везерам прыцягвала да сябе людзей з усіх куткоў планеты. Зямлю называюць адкрытым інтэрнацыянальным рэгіёнам. Сёння тут пражываюць каля 1,5 млн. іншаземцаў — прадстаўнікоў 170 нацый свету: студэнты, навуковыя супрацоўнікі, работадаўцы і прадпрымальнікі.

Паўночны Рэйн-Вестфалія — традыцыйная індустрыяльная міні-дзяржава. Зямля выпрацоўвае чвэрць эканамічнай магутнасці Германіі. Хімія, машынабудаванне, прадукты харчавання, электратэхніка і аўтамабілебудаванне — гэта галіны, што характарызуюць гаспадарчы профіль зямлі. 46 са 100 буйнейшых нямецкіх прадпрыемстваў палічылі за лепшае размясціцца тут. Што яшчэ цікава, ёсць толькі 9 краін, якія экспартуюць больш за Паўночны Рэйн-Вестфалію.

**ДЗЮСЕЛЬДОРФ І ДЗЮСЕЛЬДОРФЦЫ**

Каля 12 млн. чалавек працуюць у радыусе гадзіны язды ад сталіцы федэральнай зямлі. 3 тысячы фірмаў і прадпрыемстваў з 50 краін маюць прапіску там. Тое, што тут асталяваліся больш як 300 японскіх фірмаў, зрабіла з Дзюсельдорфа «міні-Токіо». Няма іншага населенага пункта ў Германіі, які мог бы паспрачацца цяпер з Дзюсельдорфам у знешнеэканамічных сувязях.

Вельмі вольна адчувае сябе жыхар Дзюсельдорфа ў Старым горадзе. Кожны вечар запальваецца святло ў больш як 260 піўных, барах, рэстаранах і дыскатэках, якія размешчаны амаль усутыч адзін да аднаго. Гэты квадратны кіламетр тэрыторыі, акружаны старадаўнімі дамамі і сучаснымі моднымі салонамі, — месца сустрэч для ўсіх і кожнага. Тут можна ў кампаніі пачаставацца вытрыманым цёмным ці светлым півам, паабедаць разам, патанцаваць, паразмаўляць пра палітыку, паспрачацца.

Наўрад ці знойдзецца іншы еўрапейскі горад з такой колькасцю элегантных магазінаў, як у сталіцы Паўночнага Рэйна-Вестфаліі. Самыя знакамітыя і найдаражэйшыя з іх на Кенігсалеі. Туды людзі заходзяць не столькі за пакупкамі, колькі дзеля таго, каб паглядзець на шыкоўныя тавары. Напрыклад, на аддзел паляўнічых прылад, які нагадвае нейкі гістарычны музей: стрэльбы, мушкеты, шаблі, рапіры, адзенне — усё пад даўніну.

Напрыканцы вясны і ўлетку Кенігсалея ператвараецца ў велізарнае вулічнае кафэ. Пачаставаўшыся марожаным — ідзі ў мастацкую галерэю Ке-Галеры, якая праславілася работамі з мармуру і бронзы. А на другім баку бульвара, за каналам Ке-Грабен з лебедзямі, уладараць міжнародныя фінансы. Дзюсельдорф — другі па значэнню банкаўскі горад Германіі. Акрамя таго тут праводзяцца 24 спецыялізаваныя кірмашы з сусветнай славай.

Немцы, як і сённяшнія амерыканцы, амаль усе захапіліся спортам. Жыхары сталіцы займаюцца бегам на Рэйнскіх лугах, конным спортам — у Ааперскім лесе, віндсерфінгам і парусным спортам — на Унтарбахскім возеры. А можна проста пакруціць педалі веласіпеда, аб'язджаючы магазіны.

Карацей, жывуць жыхары Дзюсельдорфа весела і нязмушана, без усялякіх комплексаў, бо ў іх жа ёсць усё. Своеасаблівы дэвіз — жыць і даваць жыць іншым.

Каля будынка ландтага няма ніякай паліцэйскай аховы, любы можа прайсці побач. Напрыклад, рыжы гончак залез пакупацца ў фантан у выглядзе прыступак, што размешчаны ля ўваходу у ландтаг, і ніхто не выбег, каб прагнаць яго.

**ПІВА, АЎТАМАБІЛІ, НАРКОТЫКІ, ПАНКІ — ГЭТА ТАКСАМА ГЕРМАНІЯ**

Не сакрэт, што нацыянальны нямецкі напой — піва. Гавораць, што сустракаюцца сярод жыхароў індывідыумы, якія за вечар могуць выпіць 50 куфляў, а гэта складае каля 10 літраў. У адпаведныя піцейныя ўстановы людзі прыходзяць акуратна апранутымі (мужчыны — пры гальштуках, жанчыны — у прыгожых сукенках), часта — сем'ямі, з дзецьмі.

Для адных піва з'яўляецца звычным ладам жыцця, а для другіх — прыбытковым бізнесам. Нямецкія корчмы называюцца піваварнямі, бо піва гатуецца па засакрэчаных рэцэптах, дастаўляецца за столікі нібыта па канвееру за некалькі хвілін. Кожная піваварня па-свойму індывідуальная і непаўторная.

Так, у Нойсе, прыгарадзе Дзюсельдорфа, у піўных Франкенхейма працуюць вельмі спрытныя афіцыянты: не паспееш выпіць куфаль, як яны прыносяць яшчэ. Кёльн славіцца нахабствам афіцыянтаў: калі вы заказалі тры куфлі, ён можа прынесці чатыры і з задавальненнем выпіць за ваша здароўе і за ваш кошт.

Дарэчы, захапленне півам прыводзіць і да самых непрадказальных вынікаў. Аднойчы высокапастаўленага генерала адправілі ў адстаўку толькі за тое, што ён часта трымаў шлях у Кёльне міма піўных для гомасексуалістаў. Палічылі гэта небяспечным для прэстыжу дзяржавы.

Другая асаблівасць Германіі — гэта аўтамабілі. Сярэдняя нямецкая сям'я, якая паважае сябе, мае 2-3 аўтамабілі, а пра мужчын-немцаў гавораць, што іхняя галоўная цацка — «аўто». Аддаюць перавагу айчынным маркам, а як жа інакш, калі існуюць такія монстры прамысловасці, як «Мерседэс», «Опель», «БМВ», «Фальксваген», «Форд», «Аудзі». Народным аўтамабілем лічыцца «Фальксваген»: ён больш танны, але ж і крадуць яго часцей за іншыя.

Усюды накіроўваюцца выключна на колах, асабліва жанчыны. Прадстаўніц прыгожай паловы чалавецтва за рулём каля 60 працэнтаў. Немцы ў асноўным ездзяць на новых бліскучых аўтамабілях ці матацыклах, якія каштуюць ад 12 да 65 тысяч марак, а то і болей. Пасля першай жа няспраўнасці аддаюць яго ў камісіёнку, атрымліваюць страхоўку і набываюць іншы. Патрыманыя ж машыны актыўна скупляюць Польшча, краіны Балтыі і СНД, чым дапамагаюць немцам разгрузіць смеццевыя звалкі.

У каго няма аўтамабіля, той карыстаецца грамадскім транспартам, але такіх мала. У салонах трамваяў ці аўтобусаў сядзяць максімум па 10 пасажыраў. У Вуперталі ж пабудавана так званая падвесная дарога (прасцей кажучы, метро ў паветры, але рэйкі размешчаны над дахам вагонаў), адзіная ў свеце. Гэтаму сродку перамяшчэння ўжо 96 гадоў, не зарэгістравана ніводнага няшчаснага выпадку, акрамя... Неяк мясцовы заапарк вырашыў выкарыстаць яе ў якасці рэкламнай прылады. У вагон пасадзілі слана, і калі цягнік імчаў над заапаркам, спецыяльна адчынілі дзверцы. Перапужаны слон скочыў з вышыні 10 метраў. Балазе, унізе працякаў канал — жывёліна не загінула.

Што яшчэ здзівіла ў ФРГ, дык гэта моладзь. Якімі толькі непатрэбнымі, на наш погляд, захапленнямі не забіты іх галовы! Самыя малыя (12—16 гадоў) размалёўваюць з пульверызатараў сцены будынкаў, агароджы, масты на аўтабанах. Па ўсёй Германіі толькі зарэгістравана 70 тысяч наркаманаў і 2,5 млн. алкаголікаў.

Блытаюцца па вуліцах гарадоў панкі і іншыя прадстаўнікі нефармальных аб'яднанняў. Так, месцам сваіх зборышчаў у Кёльне панкі ў чорных адзеннях абралі плошчу перад вядомым ва ўсім свеце каталіцкім саборам, які ў свой час узводзіўся з 1248-га па 1880 год, а зараз уяўляе казачную гармонію з каменю і са шкла.

Немцы да звычак моладзі адносяцца спакойна, як і да ўсяго іншага. Кожны можа самавыяўляцца як хоча, толькі б не парушаў закон і не турбаваў акружаючых. Гэта і ёсць асноўнае правіла нямецкага штодзённага жыцця.

А Берлін, сталіца аб'яднанай Германіі, паціху аднаўляе твар звычайнага еўрапейскага горада. Уся яго ўсходняя частка зараз знаходзіцца ў рыштаваннях, нават будынак рэйхстага. Рэйхстаг з сімвала другой сусветнай вайны ператвараецца ў месца, дзе будзе працаваць федэральны ўрад, як і павінна быць. Для перабудовы былой ГДР у цывілізаваную тэрыторыю заходнія немцы выдзяляюць са свайго заробку кожны месяц па 1 тысячы марак. І гэта сімвалічна.

**Сяргей ХРЫПАЧ.**

*Мінск — Зямля Паўночны Рэйн-Вестфалія — Мінск.*

36,6°

# АЛЕРГІЯ — ХВАРОБА ЦЫВІЛІЗАЦЫІ

**У народных лячэбніках старадаўняй медыцыны мала прыводзіцца звестак аб лячэнні гэтай хваробы. Яна рэдка ў той час сустракалася. На сённяшні дзень алергія стала хваробай веку як для дарослых людзей, так і для дзяцей. Гэта павышаная адчувальнасць арганізма да якога-небудзь рэчыва (алергена). Ім могуць быць мікробы, хімічныя рэчывы, харчовыя прадукты, пылок некаторых раслін, бытавы пыл (кніжны, ад дываноў), поўсць жывёл, лекавыя прэпараты, укусы насякомых (вос, пчол, камароў і г. д.).**

У якасці харчовых алергенаў могуць выступаць ледзь ці не ўсе віды прадуктаў. Найбольш часта малако, яйкі, мяса (асабліва курынае), рыба, памідоры, цытрусавыя, арэхі, шакалад, грыбы, мёд, клубніцы, суніцы, вострыя стравы, віно і іншыя. З раслін алергію выклікаюць: цімафееўка, аўсяніца, лісахвост, мятліца, жыта, сланечнік, кукуруза, палын горкі, лебяда, вербалоз, першацвет, герань, а таксама таполя, акацыя, вольха, сасна, арэшнік, бяроза і г. д. З хімічных: дэзадаранты, розныя фарбавальнікі, шкіпінар, фармалін.

У асобных выпадках алергію выклікае цяпло, холад, механічныя раздражняльнікі. Лічыцца, што фактарамі, якія спрыяюць развіццю алергіі, з'яўляюцца парушэнні функцыі печані, нервовай і эндакрыннай сістэм, а таксама траўмы галаўнога мозгу, адмоўныя эмоцыі, спадчыннасць, зніжэнне функцыі наднырkавых залоз.

Няцяжка зразумець, што з развіццём цывілізацыі колькасць алергенаў будзе павялічвацца, а спробы выключэння іх з ужывання могуць аказацца безвыніковымі. Таму трэба быць гатовым да абароны ад такіх захворванняў.

Да алергічных захворванняў адносяцца: бранхіяльная астма, кан'юнктывіт, алергічны насмарк ці кашаль, удушша, галавакружэнне, ацёк, артрыт, а таксама крапіўніца, экзема, сыпка, псарыяз і г. д.

Падбор лекавых сродкаў, якія могуць аказаць станоўчае ўздзеянне пры алергічным стане, вельмі складаны і індывідуальны. Тут асабліва важна вызначыць раздражняльны алерген і як мага хутчэй выключыць яго з жыцця хворага.

Народнай медыцыне вядома шмат раслін, якія дапамагаюць пазбавіцца ад алергіі. Іх трэба спачатку прымяняць кожную асобна, потым у невялікіх зборах. Прытым лякарства з траў трэба прымяняць адзін час унутр і вонкава. Напрыклад, піць тыдзень раску, потым тыдзень рабіць абмыванне ўсяго цела адварам чысцяка, а пасля гэтага два тыдні ўжываць разам раску і чысцяк. На другі месяц трэба мяняць раслінныя сродкі (каб не было прывыкання).

**Раска маленькая.** Сталовую лыжку здробненай травы заліваюць 200 мл гарэлкі, настойваюць два тыдні, прымаюць па 20—25 кропель тры разы на дзень у сталовай лыжцы цёплай вады за 15—20 хвілін да яды.

**Чысцяк**. Паўшклянкі травы заліваюць 1 л кіпеню, настойваюць пад накрыўкай 20 хвілін. Пасля звычайнай ванны абмываюць настоем усё цела і, не выціраючыся, а толькі захутаўшыся ў прасціну, кладуцца ў пасцель на 1-2 гадзіны. Потым карысна працерці ўсё цела малочнай сыроваткай.

**Спарыш (горац птушыны).** Дзве сталовыя лыжкі травы заліваюць 300 мл кіпеню, вытрымліваюць на малым агні 15 хвілін. Прымаюць па 1/3 шклянкі за 15 хвілін да яды.

**Гарбуз**. Мякаццю націраюць цела пасля ванны. Праз 1-2 гадзіны абціраюць цела з дапамогай марлевага ці ватнага тампона яблычным воцатам, разбаўленым вадой (1 ч. лыжка на шклянку вады).

**Сардэчнік**. Дзве сталовыя лыжкі травы заліваюць 250 мм кіпеню, вытрымліваюць на малым агні 15 хвілін. Прымаюць па 0,5 шклянкі раніцай за 30—40 хвілін да яды і вечарам перад сном.

**Рэдзька**. Кашку з караняплода змешваюць 1:1 з вадой, настойваюць 1-2 гадзіны і вадкасцю абціраюць цела хворага.

**Кмен** заварваюць і п'юць як чай.

Акрамя вышэйапісаных прэпаратаў карысна ўжываць: траву бадзяку, цяцюшніку, цвінтарэю, трыпутніку вялікага, блюшчыку, душыцы, канюшыны, а таксама каранёў аеру, дзевясілу, дуброўкі, леўзеі, дзьмухаўцу, пупышак бярозы, таполі, кары дуба, асіны.

З іх робяць адвары, настоі, настойкі ці мазі. Усе гэтыя расліны растуць у Беларусі і іх можна купіць у бабак на рынку, у аптэцы ці назбіраць самім. Яны вакол нас.

Жадаю вам як мага хутчэй паправіцца.

**Лідзія НАВІЧЫХІНА,**
**травазнаўца-лекар.**

***НАРОДНЫ КАЛЯНДАР***

## ЛІПЕНЬ

**Да гібелі Юлія Цэзара старажытныя рымляне называлі гэты месяц проста пятым — квінтыліс (год пачынаўся з сакавіка). Затым з прычыны смерці славутага імператара квінтыліс быў перайменаваны ў юліус. Падобныя формы гэтай назвы да сённяшняга часу захаваліся ў заходнееўрапейскіх і рускай мовах. Сучасная беларуская назва гэтага месяца паходзіць ад слова «ліпа» — дрэва цвіце менавіта ў гэту пару.**

***3. Свята перапёлачнікаў і навальніц.*** Лічылася, што ў гэты ці наступны дзень грымне гром, блісне маланка.

***6. Купалле (Купала, Ян, Іван)*** — старажытнае абрадавае свята сонца і агню, божышчаў урадлівасці і росквіту зямлі. «Сёння Купала, заўтра Ян», — гэтыя словы народнай песні сведчаць, што Купала — язычніцкае свята, да другога дня якога (7ліпеня) царква прымеркавала святкаванне нараджэння Іаана Хрысціцеля.

***10. Самсон (Самсон Сенагной).*** «На Самсона дождж — сем тыдняў тож».

***12. Дзень Пятра і Паўла.*** Старадаўняе земляробчае свята. Лічылася, што пасля Пятра лета ідзе на спад. «Прыйшоў Пятрок — апаў лісток».

***13. Сымон і Юда***. У гэты дзень пачыналі баранаваць ці араць папар.

***14. Кузьма і Дзям'ян*** — апекуны сенакосу і падрыхтоўкі да жніва. «Святы Кузьма сярпы робіць, святы Дзям'ян сена грабе».

***17. Андрэй (Андрэй Наліва).*** Завяршаўся працэс выспявання жыта.

***21. Градавы дзень (дзень Казанскай Божай Маці).*** Засцерагаў ад нябесных стыхій, ад хвароб вачэй і галавы.

***25. Прокл.*** У гэты дзень чакалі вялікіх росаў, ад якіх магло пагнісці сена, таму яго да Прокла стараліся высушыць і звазіць.

***26.*** У католікаў — ***Ганна.*** «Ганна з дажджом — гарох з чарвяком».

***Серпавіца*** — пятніца перад Іллёй. Дзень «зазубрывання» сярпоў, падрыхтоўкі да жніва.

**27. Дзень Сямі спячых братоў** па каталіцкім календары. Лічылася, што калі ў гэты дзень заладзіць дождж, то будзе ісці без перапынку сем тыдняў.

## ТЭЛЕБАЧАННЕ, 2 ліпеня

**Беларускае тэлебачанне**

**7.50** Эканамікст. **8.00** Навіны. **8.15** Аўтапарк. **8.30** Абібок. **9.00** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». Тэлесерыял. **9.55** «Усё пра ўсё». Інфармацыйна-пазнавальная праграма. **10.20—11.00** Чацвёртае вымярэнне. Экран — абітурыенту. **13.25** Беларуская літаратура на пачатку XX стагоддзя. **13.55** Гісторыя Беларусі. **14.25** Руская літаратура. **14.55** Праграма перадач. **15.00** Навіны. **15.15** «Фліпер». Тэлесерыял для дзяцей. **15.40** Кампазітары Беларусі. У. Алоўнікаў. «Музы і гарматы». **16.45** «Пасля Перамогі». Шматсерыйны дак. фільм. Фільм чацвёрты «Ліпень вызвалення». **17.30** Музычны антракт. **17.40** Урокі Наталлі Наважылавай. **18.15** «Будзьце здаровы». **18.25** Эканамікст. **18.35** «Тройчы па аднаму». Музычная перадача MTV. **18.50** Навіны з (сурдаперакладам). **19.05** «Рэкс — верны сябар паліцэйскага». Тэлесерыял. **20.05** Вертыкаль. Інтэрв'ю старшыні Брэсцкага аблвыканкома У. А. Заламая. **20.40** Калыханка. **21.00** Панарама. **21.55** Музычны антракт. **22.05** «Зоркі» на экране. Людміла Касаткіна ў маст. фільме «Помні імя сваё». **23.50** «Турнір майстроў». Міжнародныя спаборніцтвы па водналыжнаму спорту. **0.15** Навіны.

**ГРТ**

**9.05** У свеце жывёл. **9.40** «Смехапанарама». **10.10** «У некаторым царстве». Мультфільм. **11.10** У эфіры тэлерадыёкампанія «Мір». **14.20** «Рыцар Адважнае Сэрца». **14.45** Квар'етэ «Вясёлая квампанія». **14.55** Мульціролія. **15.10** Чароўны свет, або Сінема. **15.40** «Элен і хлопцы». **16.05** ...Да шаснаццаці і старэй. **16.30** Сем дзён спорту. **17.20** «Сакрэт трапіканкі». **18.10** Час пік. **18.45** «Пад знакам скарпіёна». 3-я серыя. **19.45** Добрай ночы, малышы! **20.00** Час. **20.40** Праграма перадач. **20.45** «Пад знакам скарпіёна». 4-я серыя. **22.00** «Да і пасля». Вядучы У. Малчанаў. **23.05** «Той самы Мюнхгаўзен».

**Канал «Расія»**

**9.00** «Санта-Барбара». Маст. фільм. **9.55-10.20** Кліп-антракт. **13.30** «Дон Кіхот Ламанцкі». Мультсерыял (Іспанія). **14.00** Іваноў, Пятроў, Сідараў і інш. **14.40** Дзелавая Расія. **15.05** Расія ў тварах. **15.20** Там-там навіны. **15.35** Вясёлы вецер. **15.50** Каляндар. **16.20** «Шумнае плаванне». Мультфільм. **16.35** Залежыць ад цябе. **16.50** «Дзяўчынка з заўтра». Серыял для падлеткаў (Аўстралія). **17.20** Тэлечасопіс «Здароўе». **17.30** Свая гульня. **18.00** Надзвычайны канал. **18.25** Нічога, акрамя. **18.40** «Цёмная» для Я. Сідарава. **19.35** «Санта-Барбара». Маст. фільм. **20.30** Джэнтльмен-шоу. **21.00** Надвор'е на заўтра. **21.05** «Каўказская палонніца, ці Новыя прыгоды Шурыка». Маст. фільм. **22.35** Дзённік фестывалю «Ніжагародскі кірмаш». **23.05** Майкл Дуглас і Шарон Стоун у фільме «Асноўны інстынкт».

**Расійскія універсітэты**

**8.30** «Прагулка па эшафоту». Маст. фільм. **10.00** Антрэ-соль. **10.30** СІВ. Навіны. **10.40** Французская мова для дзяцей. **11.00** «І мама мне даруе». Мультыплікацыйны фільм. **11.10** «Усё аб веласіпедзе». Дак. фільм. **11.30** У рабочы поўдзень. **12.00** Пяць хвілін. **12.05** Аўдыторыя. **12.30** Чалавек у рыначнай эканоміцы. **13.00** Дж. Гершвін. Сімфанічная сюіта «Амерыканец у Парыжы». **13.25** СІВ. Навіны. **13.30** «Прыгоды Электроніка». Маст. фільм. 2-я серыя. **14.35** Музей-сядзіба «Паленава». Частка 2-я. **15.20** Тэатр маёй памяці. «Шчукіны сыны». Праграма В. Смехава. **16.00** Музычныя навіны. **16.15** «Муззон». **16.45** СІВ. Навіны. **17.00** Тэніс. Уімблдон-96. **18.00** «Сёння». **18.35** Герой дня. **19.00** Маст. фільм «Сэніт зон». **20.45** Голас народа. **21.00** «Сёння». **21.35** Дэтэктывы Д. Х. Чэйза. «Рэквіем для голасу і фартэпіяна». **22.30** Часінка. **23.00** «Сёння». **23.20** Тэніс. Уімблдон-96. **0.15** Меламанія: «Джэніс Джоплін».

**Санкт-Пецярбург**

**12.05** «Першае каханне». Серыял. **13.10** Тэрмін адказу — сёння. **13.40** Парады садаводам. **14.05** «Вялікі чалавек». Серыял. **15.10** «Карнавал». Маст. фільм. 2-я серыя. **16.20** Паласатая музыка. **16.40** Тэлеслужба бяспекі. «Па-за законам». **17.05** «Філасофія па Філу». Серыял для падлеткаў (Францыя). **17.30** Стыль жыцця. **17.35** Паказвае Ленінградская абласная тэлекампанія. **18.40** Вялікі фестываль. **19.15** Спорт. **19.20** «Першае каханне». Серыял. **20.15** Толькі без панікі. **20.40** Тэлеслужба бяспекі. **20.55** Спартыўны агляд. **21.05** «Вялікі чалавек». Серыял. **22.15—23.29** «Васька». Маст. фільм. 2-я серыя.

*Post Factum*

## Гэты дзень у гісторыі

**2 ліпеня 1520 года** нарадзіўся Жыгімонт II Аўгуст, вялікі князь Вялікага княства Літоўскага і кароль Польшчы (1548—1572).

**2 ліпеня 1714 года** нарадзіўся Крыстаф Вілібальд Глюк, кампазітар, адзін з рэфарматараў оперы XVIII стагоддзя. Працаваў у Вене, Парыжы.Ператварыў оперу ў музычную трагедыю, прасякнутую высакароднай прастатой, драматызмам, гераікай. Аўтар такіх твораў, як оперы «Арфей і Эўрыдзіка», «Арміда», «Іфігенія ў Таўрыдзе» і інш.

**2 ліпеня 1717 года** ў вёсцы Налібокі, якая належала князям Радзівілам, адбылася значная падзея: пачала дзейнічаць знакамітая ў свой час у Еўропе Налібоцкая шкляная мануфактура. Яе вырабы паступалі на продаж на працягу амаль 150 гадоў. Тут працавалі лепшыя замежныя спецыялісты вытворчасці мастацкага шкла па ўзору Дрэздэнскай і Патсдамскай каралеўскіх мануфактур.

У гэты дзень **у 1875 годзе** была заснавана Нясвіжская настаўніцкая семінарыя (працавала да 1921 года).

У гэты дзень **у 1922 годзе** нарадзіўся вядомы беларускі кампазітар, заслужаны дзеяч мастацтваў Генрых Вагнер.

**2 ліпеня 1925 года** нарадзіўся Патрыс Лумумба, першы прэм'ер-міністр незалежнай Рэспублікі Конга (Заір). У 1958 годзе заснаваў і ўзначаліў партыю народны рух Конга, якая выступала за безумоўнае прадастаўленне незалежнасці бельгійскаму Конга. Адхілены ад улады і забіты ў верасні 1960 года.

## Цікава

***Патомны «залатых спраў майстар» Натан Гольдман сумленна адпрацаваў на адной з ювелірных фабрык Паўднёва-Афрыканскай Рэспублікі.***

Калі яму споўнілася 70 гадоў, стары занядужаў. Урачы паставілі дыягназ запаленне мачавога пузыра, забітага камянямі. Старога майстра прааперыравалі і дасталі чатыры даволі вялікія камяні. Іх аддалі хвораму на памяць.

Праз нейкі час сярод хворых фабрыкі пайшлі чуткі, быццам камяні гэтыя залатыя. Калі спыталі аб гэтым у Натана, ён прызнаўся: так, у мяне дасталі не проста камяні, а злiткі з залатога пылу вагой 5, 6, 7 і 9 грамаў. Я пераплавіў іх і зрабіў сабе пярсцёнак-пячатку, які і нашу пастаянна як памяць аб многіх гадах працы.

Кіраўніцтва фабрыкі звярнулася ў суд, настойваючы на вяртанні 27 грамаў золата, «здабытага» з Натана. Але суд адхіліў іск за адсутнасцю адпаведнага артыкула ў крымінальным кодэксе краіны.

## Дзесьці на белым свеце

***Вырашыўшы змяніць падмурак сваёй дачы, якая ад старасці перакасілася, адзін люксембургскі селянін выявіў пад гэтым сціплым сельскагаспадарчым збудаваннем... рымскую мазаічную падлогу плошчай 60 квадратных метраў.***

Мазаіка, якая вельмі добра захавалася, датуецца прыблізна 250 годам н. э. На ёй адлюстраваны Гамер, акружаны дзевяццю музамі. Па мясцоваму закону знаходка належыць уладальніку зямельнага ўчастка. Ён наадрэз адмовіўся прадаць нават за «круглую» суму мазаіку Нацыянальнаму музею Люксембурга і мае намер адкрыць свой маленькі прыватны музей з гэтым адзіным экспанатам.

## Неверагодна?

***Да сумнага вываду прыйшла нядаўна адна брытанская страхавая кампанія, якая правяла даследаванне надзейнасці розных сродкаў абароны ад грабяжоў.***

Аказваецца, злыя сабакі абараняюць нашы дамы значна горш, чым стальныя завалы, замкі з сакрэтамі і кратамі. Мяркуючы па апытаннях саміх узломшчыкаў, сабакі — вельмі таварыскія істоты. Ім сумна сядзець дома адным, і яны часта (вядома, не заўсёды) бываюць рады, калі хтосьці заходзіць да іх у госці.

## Што ў імені маім

***АЛЯКСЕЙ — імя старажытнагрэчаскага паходжання, азначае «абаронца».***

Аляксеем назаве свайго сына спакойная, упэўненая ў сабе, ціхая жанчына. Алёша вельмі прывязаны да маці, знешне падобны на яе, але пакорлівасць, уласцівую ёй, пераймае рэдка. Наадварот, з самага ранняга дзяцінства ён адчувае сябе абаронцам маці, а, пасталеўшы, — і ўсіх жанчын, якія яго акружаюць.

Аляксей — асоба з ярка выражанымі творчымі здольнасцямі, таму сярод іх нярэдкія мастакі, акцёры, пісьменнікі. Аднак любяць яны і дакладныя навукі: з іх выходзяць добрыя інжынеры і фізікі, хірургі і крыміналісты. Поспехам Аляксееў у немалой ступені спрыяе іх тонкая інтуіцыя.

Аляксей заўсёды спакойны, працавіты, настойлівы і добрасумленны. Уступае жонцы ў дробязях, але ў пытаннях сур'ёзных праяўляе цвёрдасць, так што нават не трэба імкнуцца пераканаць яго ў чымсьці адваротным. У жанчынах цэніць чысціню: не трэба з'яўляцца перад Аляксеем у брудным халаце. Пра дзяцей клапоціцца да самай старасці больш чым пра сябе. У каханні верны.

Удача чакае яго ў шлюбе з Настассяй, Анжэлай, Галінай, Ганнай, Ларысай, Любоўю, Святланай. А вось з Алінай, Тамарай, Верай, Юліяй Аляксею наўрад ці пашанцуе.

## Анекдот

*— Кажуць, што я атрымаў ад бацькі ў спадчыну галоўнае — яго розум!*

*— У вас напэўна ёсць вельмі шмат братоў і сясцёр, з якімі вам давялося падзяліцца...*



ЗАСНАВАЛЬНІКІ:
Вярхоўны Савет Рэспублікі Беларусь, Кабінет Міністраў Рэспублікі Беларусь, калектыў рэдакцыі газеты «Звязда».

Галоўны рэдактар У. НАРКЕВІЧ.

Рэдакцыйная калегія: У. АНДРЫЕВІЧ (намеснік галоўнага рэдактара), І. БАРАНОЎСКІ, У. ГОЙТАН, В. ЖДАНКО, Л. ЛАХМАНЕНКА, М. МІХАЕВІЧ (першы намеснік галоўнага рэдактара), А. МЯСНІКОЎ, Л. РЫЖАНКОВА (намеснік галоўнага рэдактара), С. ШАЎЦОЎ.

Рэгістрацыйны нумар 1.

*НАШ АДРАС: 220013, гор. Мінск, вуліца Б. Хмяльніцкага, 10-а, рэдакцыя газеты «Звязда».*
*ТЭЛЕФОНЫ: прыёмнай — 68-29-19; намеснікаў галоўнага рэдактара — 32-44-12, 32-14-25, 32-35-05; аддзелаў: інфармацыйна-аналітычнага — 32-38-02, 68-28-14, 68-29-68, эканомікі — 32-31-21, 68-29-68, палітыкі — 68-27-57, 68-28-64, культуры — 68-29-42, 68-28-27, пісьмаў — 68-27-47, маралі і права — 68-28-51, міжнацыянальных адносінаў — 68-27-40, 68-28-69, журналісцкіх расследаванняў — 68-28-38, 68-28-72, беларускай дыяспары — 68-28-27, знешнеэканамічнай дзейнасці — 68-29-44; аглядальнікаў па праблемах: навукі і адукацыі — 68-28-31, экалогіі і ліквідацыі вынікаў Чарнобыля — 68-28-36; уласных карэспандэнтаў: Гродне — 33-25-29, Гомелі — 53-13-92, Баранавічах — 7-26-02, Паставах — 22-400; бухгалтэрыі — 32-22-03; даведкі па рэкламе і аб'явах — 32-31-98.*
*ФАКС: 32-04-52, 68-28-77.*

Аўтары апублікаваных матэрыялаў нясуць адказнасць за падбор і дакладнасць фактаў. Іх меркаванні не заўсёды супадаюць з меркаваннем рэдакцыі.

Адказнасць за змест рэкламы нясуць рэкламадаўцы.

Рэдакцыя пакідае за сабой права не ўступаць у перапіску з чытачамі.

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку». Мінск, праспект Ф. Скарыны, 79.
Тыраж 100288. Індэкс 63850.
Зак. № 3278.
Выходзіць 250 разоў на год.
Нумар падпісаны ў 20.15.